склепах, капцах або ямах. Несумненна, што найлепш яна перахоўваецца ў прыстасаваных да гэтага склепах, дзе ёсць магчымасць рэгуляваць тэмпературу. Найгорш перахоўваецца ў ямах, у якіх часта парыцца ад цяплыні або заліваецца вадою.

Сярод беларускага насельніцтва найменш распаўсюджана капцаванне. Сяляне такому перахоўванню бульбы яшчэ не вераць. Раім на сухім, зацішным месцы выкапаць дол на глыбіню лапаты і насыпаць капец бульбы шырынёй у 150 см і вышынёй 1 м. Накрыць яе пластом саломы таўшчынёй 50 см і зямлёй — 10 см, якую трэба прыбіць лапатай. Хрыбет капца можна аставіць без зямлі. Калі бульба канчаткова перасохне, перад наступленнем марозаў увесь капец абсыпаць зямлёй (слой зямлі павінен мець 30 см). Тэмпература ўнутры павінна быць не вышэйшая, чым 4—6° Ц. Праверыць яе можна праз адтуліну тэрмометрам, або па выглядзе бульбы

У прыгарадных гаспадарках вельмі карысна вырошчваць раннія сарты бульбы, якая высаджваецца ў зацішным месцы ў добра падрыхтаваную глебу і адпаведна даглядаецца.

У нашым клімаце пажадана садзіць бульбу ў ліпені пасля збору, напрыклад азімата рапаку. Да кастрычніка яна не вырастае вялікая, але складае высакаякасны пасяўны матэрыял.

(ую)

# Цукровыя буракі

Сельская гаспадарка Беласточчыны мае велізарныя рэзервы, выкарыстанне якіх часта цяжка прадбачыць. Мясцовыя гандлёвыя арганізацыі, транспартныя ўстановы не змаглі прадбачыць таго, што восенню 1961 года ўсе магазіны, складніцы і чыгуначныя рампы будуць завалены цукровымі буракамі. Пасяўная плошча гэтых буракоў у Бельскім, Гайнаўскім, Беластоцкім і іншых паветах нечакана ўзрасла ў некалькі разоў, але далейшае яе павелічэнне ўстрымалася з увагі на недахоп рабочай сілы або спадак ураджайнасці.

Цукровыя буракі патрабуюць ураджайных глебаў, багатых перагноем і адпаведнай структуры (чарназёмы, лессы). Не любяць цяжкіх гліністых глеб і глеб надмерна вільготных. Патрабавальны яны таксама да кліматычных умоў. Ад моманту пасеву да чэрвеня патрабуюць многа цяпла і мала вільгаці. У чэрвені, ліпені і жніўні буйна развіваецца корань бурака, і таму расліна патрабуе многа вільгаці і сонца, а ў апошні перыяд даспявання задавольваецца толькі добрай пагодай. Цукровыя буракі даюць высокія ўраджаі пасля пшаніцы, ячменю, гароху, вікі, люцэрны, канюшыны. Глебу ўгнойваем восенню абарняком у колькасці 200—300 цэнтнераў на гектар і глыбока заворваем. Вясною дадаем да 300 кг азотавых угнаенняў, па 200 кг фосфарных і солі патасовай. Штучныя ўгнаенні высяваем першы раз перад пасевам, другі — падчас усходаў і трэці — у час праполкі. Практыкуецца таксама пасеў буракоў пасля заворвання палплёнаў. Восенню глебу неабходна ўспульхніць, вясной некалькі разоў пружынаваць і баранаваць.

Цукровыя буракі найлепш высяваць ад 1 да 15 красавіка. На адзін гектар ворыва патрабуецца 25 кг насення. Адлегласць паміж радкамі павінна быць 40—45 см, глыбіня пасёва да 4 см на глебах лягчэйшых і каля 3 см на глебах цяжкіх. Калі на глебе ўтвараецца скарынка, яе трэба баранаваць. Працаёмкімі з'яўляюцца матычанне і праполка. Выконваецца яно тады, калі расліна мае па адной або дзве пары лісточкаў. Густа ўзышоўшыя буракі не даюць адпаведных ураджаяў. Іх неабходна прарываць пры дапамозе 30 см матычкі. Матычкаю расліны падрэзваюцца на глыбіні 3—6 см і разам з глебаю выцягваюцца між радкоў, дзе сохнуць. На шырокіх палетках да гэтых прац прымяняюцца машыны. Далей, у меру патрэбы, глеба ачышчаецца ад пустазелля, матычыцца або аборваецца.

Выбіраць цукровыя буракі трэба як найпазней, перад марозамі. У кастрычніку на працягу аднаго дня прырост на адным гектары складае каля 200 цэнтнераў, а ў лістападзе 100 цэнтнераў. Менш таксама псуецца лісце на корм. У нас распаўсюджаны два спосабы зборкі буракоў: пры першым бурак выкопваецца з глебы, а пасля абрэзваецца лісце, пры другім, наадварот, спачатку абрэзваецца лісце, а пасля выкопваецца корань. Апошні спосаб больш практычны таму, што лісце не абсыпаецца зямлёю і таму складае больш вартасны корм для жывёлы.

(ую)

# АГАРОДНІЦТВА



**Пастаўшчыком свежай гародніны для жыхароў г. Беластока з'яўляецца ПГР «Ігнаткі».**
**Фота — Т. Чачкоўскі**

Гародніна з'яўляецца адным з важнейшых састаўных частак нашага харчавання. У яе састаў уваходзяць усе неабходныя для жыцця чалавека пажыўныя рэчывы, як цукар, тлушч, бялок. Найбольшую колькасць бялка маюць струкавыя расліны — фасоля, гарох, боб. Яны нават могуць замяняць мяса.

Гародніна дае арганізму чалавека неабходныя для нармальнага развіцця вітаміны, недахоп якіх вядзе да сур'ёзных захворванняў. Так, напрыклад, недахоп вітаміна А прыводзіць да агульнага затармажэння росту і развіцця жывога арганізма, з'яўляецца прычынай захворвання вачэй; недахоп вітамін $Б_1$ і $Б_2$ вядзе да нервовага расстройства; недахоп вітаміна Ц з'яўляецца прычынай захворвання суставаў, зубоў, мышцаў.

Усім нам вядома, што ў сучасны момант шмат хвароб лечыцца пры дапамозе вітамін, якія хворы атрымоўвае ў выглядзе таблетак або ўколаў. Хваробы, аднак, можна папярэдзіць, калі мы будзем шырока спажываць гародніну і фрукты.

Вітамін А найбольш выступае ў моркве, шпінаце, арбузе; вітамін Ц — у пятрушцы, хрэне, ва ўсіх гатунках капусты, шпінаце, памідорах.

Вельмі часта ў нас бывае так, што гаспадыня на працягу года корміць сваю сям'ю толькі капустай і не ўжывае іншай гародніны толькі таму, што яе не хапае на ўласныя патрэбы. А трэба ведаць, што кожная добрая гаспадыня, маючы агарод, можа атрымаць такую колькасць розных гатункаў гародніны, якая заспакоіць патрэбы сям'і на цэлы год.



На агарод звычайна прызначаецца кусок зямлі добра дагледжаны і ўгноены. Мяркуем, што участак велічынёй 100 $м^2$ павінен даць гародніны, якая павінна выкарміць адну асобу ў сям'і.

Неабходна памятаць, што толькі добра дагледжаная зямля дасць пажаданыя вынікі. У сувязі з гэтым зямлю, якая прызначаецца пад агарод, неабходна ачысціць ад рэштак сабраных раслін: карэнняў капусты, сухіх лісцяў, пырэю. Пасля чаго поле заворваем на глыбіню 4—6 см, а на зіму заворваем на глыбіню 8—20 см. Пакінутая на зіму ў вострай скібе глеба ўбірае ў сябе шмат вады восенню і ранняй вясной, зімой — падлягае ўздзеянню мароза, які крышыць брылы на драбнейшыя грудкі.

Вясной глебу ўспульхняем культыватарам або пружыноўкай. Падмоклыя і вільготныя глебы лепш заараць на глыбіню 3/4 зімовага заворвання. Барануючы поле, стараемся яго не распыляць, пакідаем грудкі не меншыя ад арэха, у іншым выпадку зямля вельмі хутка прасыхае і не затрымоўвае вады пасля дажджу.

Зямля, прызначаная на агарод, адпаведна ўгнойваецца. На Беласточчыне найбольш выкарыстоўваецца абарняк, у састаў якога ўваходзяць усе неабходныя да жыцця раслін пажыўныя рэчывы. Абарняк найлепш вывозіць восенню і адразу заворваць. Калі гною не хапае, тады восенню ўгнойваем участкі, прызначаныя на раннюю гародніну, як ранія гатункі капусты сельдэрэй (seler) і інш., а вясной угнойваем участкі, прызначаныя на расліны, якія высяваем пазней: атуркі, памідоры, пазнейшая капуста.

Поле пад гародніну ўгнойваем што 2—3—4 гады ў колькасці 200—400 цэнтнераў на 1 га. Бракуючыя ў глебе пажыўныя рэчывы папаўняем штучнымі ўгнаеннямі.

Вялікую ролю ў агародніцтве адыгрываюць кампосты, якія могуць падмяніць абарняк, пры тым кожны гаспадар можа падрыхтаваць кампост самастойна.

Доза штучных угнаенняў непасрэдна залежыць ад колькасці дадзенага гаспадарчага гною, а таксама ад пажыўных патрэб раслін.

Неабходна памятаць, што не ўсе расліны аднолькава пабіраюць з глебы ўсе неабходныя для іх рэчывы. Ёсць расліны, якія з зямлі пабіраюць вялікую колькасць харчоў, але любяць добра ўнавожаную зямлю (агуркі, цыбуля). Тыя ж расліны, якія маюць добра развіты корань, маюць здольнасць пабіраць харчаванне з глыбейшых пластоў зямлі.

Падрыхтоўваючы глебу пад гародніну, трэба памятаць, што ў

ёй павінны знайсціся ўсе неабходныя да жыцця расліны пажыўныя рэчывы: азот, фосфар, калій, вапна. Недахоп аднаго з іх спыняе рост расліны і яе нармальнае развіццё.

У сувязі з тым, што ўсе агароднія расліны маюць розныя патрабаванні да ўгнаення, неабходна прымяняць севазмену, г.зн., тыя расліны, якія больш патрабавальны да гною, сеяць непасрэдна пасля абарняка, а гародніну менш патрабавальную да гною садзіць у другім, трэцім, чацвёртым годзе пасля гною. Севазмена неабходна і таму, што паасобныя гатункі гародніны, пабіраючы харчы, змяняюць структуру глебы. Некаторыя гатункі расліны, забіраючы вапну, заквашваюць глебу, іншыя зноў пакідаюць глебу чыстай і ў добрай структуры.

Севазмена запабягае вырастанню пустазелля, распаўсюджванню шкоднікаў і хвароб. Калі на адным полі падрад некалькі год будзем вырошчваць капусту, яна можа захварэць капусцянай кілой. Памідоры і бульба захворваюць на бульбяную заразу.

Парадак вырошчвання агароднінь наступны:

| Год пасля гною | Угнойванне што 2 гады | Угнойванне што 3 гады | Угнойванне што 4 гады |
|---|---|---|---|
| 1 год пасля гною | капуста<br>цвятная капуста<br>агуркі<br>цыбуля<br>бульба | капуста<br>цвятная капуста<br>агуркі | капуста<br>цвятная капуста<br>агуркі |
| 2 гады пасля гною | пятрушка<br>морква<br>буракі<br>боб<br>фасоля<br>гарох | памідоры<br>цыбуля<br>бульба<br>пятрушка | памідоры<br>цыбуля<br>бульба |
| 3 гады пасля гною | | морква<br>буракі<br>боб<br>фасоля<br>гарох | пятрушка<br>морква<br>буракі |
| 4 гады пасля гною | | | боб<br>фасоля<br>гарох |



Не ўсе агароднія расліны аднолькава рэагуюць на цяпло. Адны з іх больш патрабавальныя, другія менш.

Да мала патрабавальных на цяпло раслін залічваем большасць гародніны: капусту, буракі, цыбулю, гарох, боб і іншыя, якія найлепш растуць пры тэмпературы 15 — 18°Ц, а невялічкія прымаразкі — 2°, а часта і 5° для іх не шкодзяць.

Да гародніны, якая любіць цяпло, залічаем: агуркі, памідоры, дыню, фасолю. Ім найлепш адпавядае тэмпература 20—24°Ц і яны гінуць пры невялічкіх прымаразках.

Падобна, як на цяпло, не ўсе расліны аднолькава рэагуюць на святло. Да найменш патрабавальных у гэтым напрамку належаць рабарбар, шчаўе, шпінат, цыбуля, якія можна вырошчваць нават у цяньку пад дрэвамі. Найбольш патрабавальныя на святло памідоры, агуркі, фасоля.

Шмат цяпла патрабуюць расліны, якія толькі што ўзышлі. У сувязі з тым іх неабходна прапалваць. Пачынаць прапалку трэба ад морквы, пятрушкі, цыбулі, якія асабліва патрабуюць святла пасля ўсходаў.

Не ўсе расліны аднолькава рэагуюць на ваду. Найбольш вады патрабуе капуста, салата, радыс, шпінат, рабарбар.

Да раслін больш адпорных на сушу адносім цыбулю, часнок, агуркі, гарох, боб, буракі, моркву і пятрушку. Трэцюю групу складаюць расліны найбольш адпорныя на сушу, памідоры, арбузы, фасоля.

З гэтага вынікае, што, гадуючы гародніну, кожны з нас павінен ведаць яе вымаганні.

**Л. Другавец**

# У Васькаўскіх кааператыўшчыкаў

Вёска Ваські Гайнаўскага павета ляжыць на ўскраіне Белавежскай пушчы. З увагі на слабаўраджайныя глебы частка дарослага насельніцтва працуе ў лесе. У мінулым жыццё сялян гэтай вёскі было сумным і цяжкім. Недахоп зямлі, грошай, бесперспектыўнае становішча моладзі, пагалоўная непісьменнасць былі для жыхароў вёскі Ваські яшчэ больш характэрнымі, чым на-

сельніцтву іншых беларускіх вёсак на Беласточчыне. Таму народную ўладу сляне сустрэлі тут з вялікім энтузіязмам. У 1947 годзе ў вёсцы паўстала партыйная арганізацыя, якая пасля некалькіх гадоў працы ў сваім асяроддзі выступіла з ініцыятывай ўтварэння сельскагаспадарчага кааператыва. Кааператыў такі быў арганізаваны ў 1950 годзе з дзесяці спалучаных гаспадарак. Пачаткі працы былі даволі складаныя, не было вопыту кіравання такой гаспадаркай. Дадатковую цяжкасць складала невялікая колькасць сельскагаспадарчых угоддзяў, якія спалучылі ўступіўшыя ў кааператыў малазямельныя сляне, недахоп адпаведнага інвентара, непрыхільныя адносіны сялян - аднаасобнікаў і г. д. У выніку інтэнсіўнай выясняючай працы членаў партыі і эфектаў працы кааператыўшчыкаў, нягледзячы на ўсе цяжкасці, лік згуртаваных сялян сістэматычна павялічваўся. У 1952 годзе было іх 16 асоб, а ў 1954 годзе налічваем ужо 23 членаў. Амаль аднвчасова з арганізацыяй спулдзельні пачалася будова будынкаў агульнага карыстання за ўласныя і дзяржаўныя сродкі. У 1951 годзе пабудаваны на ўскраіне вёскі прыгожы мураваны хлеў на 60 штук кароў, у наступным годзе другі хлеў — свінарнік і збожжавыя магазіны, а пасля гумно (стадолу) і артэзіянскі калодзеж (студню). Паступова набываліся найбольш неабходныя сельскагаспадарчыя машыны і жывы інвентар. У 1956 годзе спулдзельня налічвала ўжо 27 кароў, 70 свіней, 40 авечак, 10 коней. Старшыня спулдзельні тав. Аляксандр Граматовіч рабіў усё што мог, каб маладую калектыўную гаспадарку зрабіць перадавой і гэтым шляхам уздзейнічаць на аднаасобнікаў.

Пасля 1956 года праца спулдзельні была некалькі рэарганізавана.

Асноўныя арганізатары ў колькасці 11 асоб далей гаспадарылі калектыўна. Дзякуючы іх працы лік членаў паступова пачаў павялічвацца і ў пачатку 1962 года было 17 удзельнікаў. Гаспадараць яны на 186 гектарах сельскагаспадарчых угоддзяў сярэдняй якасці. Аднак ураджаі кааператыўшчыкі збіраюць даволі высокія. Дзякуючы ўмеламу прымяненню штучных угнаенняў (спулдзельня карыстаецца паслугамі мясцовага агранома) ураджаі чатырох асноўных зернавых культур, г.зн. жыта, пшаніцы, аўса і ячменю, узраслі з 12 цэнтнераў у 1950 годзе да 21 цэнтнера ў 1961 годзе, а ўраджаі бульбы ў тым жа часе з



100 цэнтнераў да 160 цэнтнераў з гектара. Некалькі апошніх гадоў пачала добра развівацца жывёлагадоўля. Зараз ужо спулдзельня мае 31 карову, 39 штук свіней і 5 штук коней. Асноўнай цяглавай сілай служаць два трактары, у тым ліку трактар «Беларусь», атрыманы як падарак ад калгаснікаў Гродзеншчыны з камплектам падвясных сельскагаспадарчых машын. Спулдзельня мае амаль усе іншыя машыны, неабходныя пры сучаснай апрацоўцы зямлі, і ўласны млын.

Незалежна ад працы ў кааператыўнай гаспадарцы кожны яго член мае невялікую гаспадарку на прысядзібным участку, на якім садзіцца бульба, неабходная колькасць (на ўласны ўжытак) гародніны і фруктовых дрэвак, утрымоўваецца адна або дзве каровы, па некалькі свіней, авечак і хатняя птушка. Кааператыў дае машыны да апрацоўкі зямлі на прысядзібных участках і адпаведную колькасць пашы для жывёлы.

Члены Васькаўскай спулдзельні прадукцыйнай задаволены вынікамі сваёй працы. Так, напрыклад, грам. Аляксей Тэляшэўскі ў 1961 годзе атрымаў за працадні з кааператыўнай гаспадаркі 40 цэнтнераў збожжа, 1800 зл. грашыма, сена і саломы на ўтрыманне двух кароў, сабраў са свайго ўчастка звыш 130 цэнтнераў бульбы, шмат гародніны.

Палепшылася не толькі эканамічнае, але і культурнае становішча сялян. Для ўсіх жыхароў вёскі праведзена электрычнае святло, ёсць клуб, школа, кансультацыйны сельскагаспадарчы пункт.

**Ф. Грынявіцкі**

## ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ - ВЯЛІКАЯ СПРАВА

«Адзін у полі не ваяка» — вельмі праўдзівая прыказка. Яна добра падыходзіць да грамадскіх чыноў, якія на Беласточчыне маюць ужо багатую традыцыю. Дастаткова папрацаваць некалькі дзён у вялікай грамадзе людзей, а вынікі атрымліваюцца грамадныя. Падаем факты.

У Бомблі на Сакольшчыне жыхары вёскі на сваім сходзе вырашылі грамадскім чынам пабудаваць лазню. Кожны дарослы чалавек папрацаваў некалькі дзён пры будове фунда-

ментаў, звозцы каменняў. Дзяржава падтрымала каштоўную ініцыятыву сялян і прышла з фінансавай дапамогай.

Так сама было ў Кляшчэлях на Гайнаўшчыне, дзе грамадскім чынам і пры дапамозе дзяржавы пабудавалі лазню, пякарню і купальны басейн.

Там, дзе дружная, згуртаваная вёска, грамадскім чынам робяцца вялікія справы. Напрыклад, жыхары Страшава ў Беластоцкім павеце мелі далёкі даезд да чыгуначнага прыпынку ў той час, калі побач вёскі праходзіць чыгунка. І вось сяляне грамадскім чынам пабудавалі прыпынак, будынак на білетную касу і пачакальню. Гэты прыпынак не толькі аблегчыў жыццё Страшава, але і іншым вёскам. Шмат людзей і школьнікаў даязджае да працы і школы ў Беластоку, і хадзіць на прыпынак у Валілы было вельмі нязручна.

Вялікую актыўнасць у грамадскіх чынах праяўляюць гурткі Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прыкладам можа паслужыць вёска Райкі на Бельшчыне. Гурток БГКТ, які ўзначальвае старэйшы чалавек Рыгор Семянюк, актыўна ўзяўся за працу і грамадскім чынам пабудаваў з пустакоў святліцу, ў якой знайшлося месца і на бібліятэку. Зараз клуб у Райках з'яўляецца культурным цэнтрам вёскі.



**Будова грамадскім чынам басейна ў Кляшчэлях, Гайнаўскага павета.**

**Фота — Г. Рагазінскі**



Прасторная, прыгожая школа ў вёсцы стварыла большыя магчымасці павышэння ўзроўню навучання. І таму жыхары паасобных вёсах многа працуюць пры пабудове школ-помнікаў тысячагоддзя. Вялікія дасягненні ў гэтай справе мае вёска Стрыкі на Бельшчыне. Толькі таму, што сяляне Стрыкоў грамадскім чынам пабудавалі фундамент пад школу і абавязаліся выканаць усе прасцейшыя работы самастойна, куратoрыя Беластоцкай акругі дадаткова, па-за планам прызнала поўную суму грошай і закончыла будову школы.

Ахова здароў'я — пільная справа, асабліва ў вёсцы. Яшчэ замала ў нас асродкаў здароўя. Дзяржаве не пад сілу адначасова будаваць і школы, і фабрыкі, і гарады, праводзіць меліярацыю і г.д. І таму, дзе сяляне абавязваюцца шчыра папрацаваць, там будуюцца таксама і пункты аховы здароўя.

У Разадранцы на Сакольшчыне, дзякуючы вялікаму ўкладу грамадскай працы мясцовых сялян, заканчваецца будова асродка аховы здароўя.

У Гайнаўскім павеце ў многіх вёсках сяляне будуюць грамадскім чынам вясковыя крамы. Дзякуючы намаганням кіраўніцтва ПЗГС-у ў Гайнаўцы, а асабліва яго старшыні Кастуся Майсені, ужо аддана ў эксплуатацыю 27 крам, а ў 26 іншых вёсках Гайнаўшчыны крамы будуюцца. Вартасць грамадскага чыну пры пабудове крам у 1961 годзе склала суму аднаго мільёна злотых.

У Сямяціцкім павеце ёсць 550 гектараў зямельных няўгоддзяў. І вось гэтыя непрыгодныя ў сельскай гаспадарцы землі засаджваюцца лесам. За апошнія чатыры гады лесам засаджана больш 1000 гектараў пясчаных зямель. Усе мы ведаем, што лес не толькі ўпрыгожвае аколіцу і стварае найлепшыя ўмовы для адпачынку, але дае дасканалы будаўнічы матэрыял.

У сельскай гаспадарцы Беласточчыны адной з галоўных задач з'яўляецца меліярацыя. Ад меліярацыі ў многім залежыць далейшае паспяховае развіццё сельскай гаспадаркі, а асабліва жывёлагадоўлі. Вось таму на меліярацыю дзяржава прызначае грамадныя сумы грошай. Вялікай дапамогай для дзяржавы з'яўляюцца грамадскія чыны. Шмат вёсак Беласточчыны ў правядзенні меліярацыі грамадскім чынам мае вялікія дасягненні. Вось, напрыклад, жыхары вёсак Ланчын, Верхадаліна, Паплаўцы, Разадранка Старая, Багушы, Сітоўка і іншыя на Сакольшчыне ў 1959 — 1960 гадах грамадскім чынам правялі меліярацыйныя работы на суму 1 200 000 злотых.

Вельмі хвалюючай справай многіх вёсак з'яўляюцца дрэнныя дарогі. А дарога — гэта быццам акно ў свет. Што значыць прайсці, ці праехаць доб-

рай дарогай, абсаджанай дрэвамі, гэта найлепш разумее той, хто хадзіў і ездзіў дрэннымі дарогамі. А ў нас да нядаўна было вельмі мала добрых дарог. Але дзякуючы ініцыятыўнасці і вялікай ахвярнасці насельніцтва Беласточчыны многа зроблена грамадскім чынам у дарожных справах.

У выніку грамадскай працы на Беласточчыне за мінулыя два гады пралажана амаль 306 кіламетраў дарог, у гэтым ліку 243 км з цвёрдай маставой. Выкананне грамадскіх дарожных чыноў у 1960 годзе склала суму 65 789 тысяч злотых, а ў 1961 годзе 62 713 тысяч злотых.

Асабліва на Гайнаўшчыне многа зроблена ў дарожным будаўніцтве. Адсутнасць сувязі Гайнаўкі як павятовага мястэчка (створаны Гайнаўскі павет у 1954 годзе) з грамадскімі радамі нарадовымі перашкаджала ў адміністрацыйнай дзейнасці. Да грамадскіх чыноў прыступілі амаль усе жыхары павету. Поспех быў вялікі. Пабудавана брукаваная дарога Навасады — Нарва — 13 км, Гайнаўка — Кляшчэлі — 25 км, Нараўка — Альхоўка — 6 км, Палічна — Кляшчэлі — 6 км, Збуч — Клейнікі — 6 км і г.д. Пабудавана таксама шмат мастоў. Усе важнейшыя адрэзкі дарог абсаджаны дрэўцамі. За апошнія два гады вялікая ўвага была звернута на пабудову брукаваных вуліц у вёсках. І так, цвёрдую маставую атрымала 20 вёсак Гайнаўшчыны. Вартасць грамадскіх дарожных чыноў ад моманту ўтварэння павету (1954 год) да сёння перакрочыла суму 53 мільёнаў злотых.

Каб адзначыць вялікі ўклад працы пры пабудове дарогі Гайнаўка — Кляшчэлі, недалёка ад Кляшчэль пабудаваны помнік чыну. Гэта велізарны абеліск з надпісам «Намаганнем сялян, рабочых, працоўнай інтэлігенцыі і моладзі Гайнаўскага павету, дарога Гайнаўка — Кляшчэлі пабудавана ў 1955 годзе грамадскім чынам».

Гэта помнік чыну, людзям жывым, якія бясплатна, не за грошы, і не для пахвалы праклалі добры шлях, якім карыстаюцца людзі ўсяго павету і не толькі павету.

У 1962 годзе гэтая багатая традыцыя грамадскіх чыноў працягвалася далей. У 1962 годзе больш 50 вёсак прыступіла да дарожных чыноў. Вартасць грамадскай працы складала суму амаль 10 мільёнаў злотых.

У 1962 годзе запланавана пабудаваць больш 9 км брукаваных вуліц, а таксама 16 км жвіраваных дарог, а менавіта Альхоўка — Масева — 6 км, Вулька - Тэрэхоўска — станцыя Чаромуха — 3 км, Жукі — Кляшчэлі — 3 км і некалькі меншых адрэзкаў дарог.

Зараз дарожныя ўлады Беласточчыны настаўляюцца перш за ўсё на пабудову жвіраваных дарог. Плануецца на 100 мільёнаў злотых грамадскага чыну ў дарожным будаўніцтве.



Вялікія сумы складаюць іншыя грамадскія чыны. Напрыклад, пры пабудове вясковых крам у Гайнаўскім павеце на дзень 1 ліпеня 1962 года, вартасць грамадскай працы перакрочыла суму 700 тысяч злотых.

Пры пабудове школ - помнікаў тысячагоддзя Польскай дзяржавы насельніцтва Беласточчыны ўкладае шмат грамадскай працы. У мінулым годзе вартасць гэтых чыноў перавысіла адзін мільён злотых.

У 1962 годзе асветныя ўлады спадзяюцца, што вартасць грамадскіх чыноў пры пабудове школ будзе варта мільёна зл. Трэба спадзявацца, што разнародныя грамадскія чыны ў 1962 годзе на Беласточчыне будуць акрэсліваццa таксама сотнямі мільёнаў злотых.

**М. Хмялеўскі**

# Кулінарыя

### Тушоная пячонка

На адну порцыю бярэцца: 150 г пячонкі, 1 сталовая лыжка тлушчу, 1 сталовая лыжка пшанічнай мукі, 2 лыжкі смятаны, соль, перац.

Пячонку (цялячую або свіную) наразаюць прадаўгаватымі кавалачкамі, пасыпаюць соллю, перцам, абкачваюць у муцэ і абсмажваюць у сатэйніку на разагрэтым тлушчы. Затым заліваюць гарачай вадой або булёнам, дадаюць прыправы і тушаць прыблізна 15—20 мінут. Дадаюць смятану, выкладаюць у глыбокае блюда.

Падаюць з бульбяным пюрэ і салатай са свежай гародніны.

### Рагу з цяляціны

На адну порцыю бярэцца 150 г цяляціны, 1 чайн. лыжка тлушчу, пшанічная мука, цыбуліна, стал. лыжка томат-пюрэ, смятана, соль, перац, лаўровы ліст.

Цяляціну (грудзінку, карэйку або плечавую частку) дзеляць на парцыённыя кавалачкі з костачкай (апрача трубчатых касцей) і абсмажваюць на разагрэтым тлушчы. Перакладваюць у сатэйнік, заліваюць адварам з патэльні, дадаюць пахучыя карэнні (цыбулю, пятрушку, моркву), тамат-пюрэ і тушаць. Дадаюць падсмажаную пшанічную муку і працягваюць тушэнне да гатоўнасці, дадаюць смятану. Выкладваюць у глыбокае блюда і падаюць з адварной бульбай, адварной і тушанай гароднінай, адварным рысам, макаронамі.

Так рыхтуюць рагу з бараніны і свініны. У рагу з бараніны і свініны смятану не дадаюць.

### Макароны з таматным пюрэ

400 г. макаронаў, 6 ст. лыжак таматнага пюрэ, 1,5 ст. лыжкі

масла, перац, зялеліва пятрушкі, соль.

З адвараных макаронаў зліць ваду. Закіпяціць таматнае пюрэ, дадаць у яго масла, крыху падагрэць і заліць ім адвараныя макароны. Пакласці на блюда, пасыпаць нарэзаным зяленівам пятрушкі і падаць на стол.

### Зразы адбіўныя

Мякаць лапаткі нарэзаць упоперак валокнаў на кавалкі, адбіць іх цяпкай да таўшчыні прыкладна 3 мм. На сярэдзіну кавалка мяса пакласці начынку, загарнуць яе і надаць выгляд бу форму маленькіх цыліндраў, перавязаць ніткамі, пасаліць, абкачаць у муцэ, абсмажыць на тлушчы з усіх бакоў да ўтварэння румянай скарынкі, заліць булёнам або вадой і тушыць на працягу гадзіны.

Зразы дастаць з пасуды, а на булёне, які застаўся пасля тушэння, прыгатаваць чырвоны соус і ім заліць зразы, дадаць перац гарошкам, лаўровы ліст, соль і тушыць пры слабым кіпенні яшчэ 20 — 30 мінут.

Калі зразы будуць гатовы, выцягнуць ніткі, паліць соўсам, на гарнір даць рассыпчатую грэцкую кашу, бульбянае пюрэ, адвараную або смажаную бульбу.

Для начынкі ссечаную цыбулю падсмажыць, змяшаць з тоўчанымі сухарамі, варанымі сечанымі яйкамі, сечаным зяленівам пятрушкі або кропам, дадаць перац і соль.

### Макароннік з тварагом

Адвараныя ў пасоленай вадзе макароны пакладзіце ў друшляк і абліце халоднай вадой. Разатрыце ў місцы тварог з двума яйкамі, шклянкай малака (або смятаны), сталовай лыжкай масла і соллю. Перамяшайце з макаронамі. Змажце форму маслам, пасыпце сухарамі, пакладзіце ў яе макароны і пастаўце на 3/4 гадзіны ў духоўку. Гатовы макароннік перакуліце на блюда.

На 300 г макарону — 4 сталовыя лыжкі тварагу, 2 яйкі, 1 шклянка малака або смятаны, 2 ст. лыжкі масла, 1 ст. лыжка тоўчаных сухароў.

### Квашаныя буракі

Для квашання бяруць дробныя і сярэдняй велічыні буракі, аднародныя па афарбоўцы.

Буракі мыюць, абіраюць, зноў мыюць і складаюць радамі ў бочку, куды загадзя наліваюць трохі 3—4-працэнтнага раствору солі або гатаванай астуджанай вады. Напоўніўшы бочку буракамі, заліваюць іх тым жа расолам або вадой. Можна замест расолу заліваць бурачным адварам (1,5 — 2,5 кг буракоў варацъ у вядры вады, адвар працэджваюць праз палатно і астуджаюць).

Бочку закрываюць марляй, а на яе кладуць круг з грузам. Браджэнне адбываецца тыдні два (пры тэмпературы 20 градусаў). Пену рэгулярна здымаюць. Пасля браджэння бочку пераносяць у халоднае месца.

Квашаныя буракі ўжываюць для баршчоў, вінегрэтаў, а расол замяняе квас.



## Як саліць мяса

Да найбольш распаўсюджаных спосабаў захоўвання добрай якасці мяса, залічваем саленне. Мяса соліцца ў спецыяльна падрыхтаваных пасудзінах. Могуць гэта быць альховыя, або дубовыя бочкі, цабэркі, або каменныя пасудзіны. Як бочкі, так і каменныя посуды павінны мець пакрыўкі, якія забяспечваюць мяса ад мух і пылу. Перад саленнем мяса пасудзіны неабходна вымыць, выпарыць і высушыць на паветры.

Неабходна памятаць, што мяса захавае добры смак толькі пры адпаведнай колькасці солі. Перасоленае мяса, вымагае доўгага вымочвання, што змяншае яго пажыўную якасць. На 10 кг мяса даем прыкладна 60—70 дкг солі. Апрача солі дадаем прыправы — перац, лаўровы ліст, сушаныя ягады ялаўца. Прыправы змешваем з соллю.

Для захавання адпаведнага колеру да солі дадаем салетру: 2 дкг салетры на 10 кг мяса.

Перад саленнем мяса неабходна добра выстудзіць. Пры пасолцы вялікіх кавалкаў, напрыклад, шынак, неабходна вялікім нажом мяса аддзяліць ад косці і ў адтуліны насыпаць солі.

Мяса соляць двума спосабамі. Насуха, або заліваюць салянкай Насуха соляць мяса, прызначанае да даўжэйшага перахоўвання.

Мяса націраюць соллю з прыправамі раўнамерна з усіх бакоў, пасля чаго ўкладваюць у пасудзіне так, каб шчыльна да сябе прылягала. На верх кладуць пакрыўку, якую навальваюць каменем і накрываюць чыстым палатном.

Пасудзіну з мясам перахоўваем у месцы, дзе тэмпература не можа быць вышэй 10 градусаў цяпла.

Для захавання раўнамернасці пасолкі мяса абліваць не часцей, як праз дзень атрыманым ад солі сокам. Дэнка неабходна прамываць у вадзе.

### Як вэндзіць мяса і мясныя вырабы

Вэнджанае мяса даўжэй захоўваецца, набірае адпаведнага запаху і смаку.

Мяса і мясныя вырабы, прызначаныя да даўжэйшага захоўвання, вэндзяцца паступова. Паступовае вэнджанне засноўваецца на адпаведнай абсушцы мяса, а пазней на паступовым давэнджванні на працягу 12 — 14 дзён у халодным дыме. Вэндзім мяса ў спецыяльна падрыхтаванай вянглярні.

У вянглярні мяса і мясныя вырабы ўмяшчаем так, каб паасобныя кускі не дакраналіся адзін да другога і не награваліся ад агню.

Найлепшым апалам пры вэнджанні з'яўляюцца галіны свежага ялоўца, дым якога дадае мясу цёмнага колеру і прыемнага запаху. Апрача ялоўца можна ўжываць альховыя, дубовыя і буковыя дровы, не надаюцца да вэнджання сасновыя дровы, якія маюць шмат смалы.

Распальваючы прызначаны апал, стараемся атрымаць як найбольш дыму. Распаленага агню нельга пакідаць. Вэндзім прыкладна кожны дзень па 2 гадзіны. Вэнджанае мяса неабходна старанна абкруціць палатном і перахоўваць у сухіх памяшканнях.

## Першая дапамога пры сонечным удары

Сонечны ўдар бывае ў людзей, якія доўгі час прабываюць на сонцы з адкрытай галавой.

Прызнакі сонечнага ўдара наступныя: слабасць, галавакружэнне, млоснасць, шум у вушах, усё кругом здаецца афарбаваным у чырвоны або зялёны колер, сэрца моцна б'ецца, у цяжкіх выпадках чалавек траціць прытомнасць.

Каб памагчы пацярпеўшаму, яго неабходна палажыць у цень на свежым паветры, расшпіліць адзенне, пакрапіць халоднай вадой галаву і грудзі. Затым на грудзі і жывот палажыць мокры ручнік. Напаіць хворага халоднай вадой. Калі ў хворага знікае дыханне, зрабіць штучнае дыханне.

Аказаўшы пацярпеўшаму першую дапамогу, адправіць яго да ўрача.



### Атраўленне чадам

Чад паяўляецца ад недагарэўшага апалу (вугаль, дровы, торф і г.д.) і заўчаснага закрыцця коміна. Трэба памятаць, што перад тым, як зачыніць комін, неабходна праверыць, ці не засталося ў печы недагарэўшага апалу.

Прызнакі атраўлення: боль галавы, шум у вушах, галавакружэнне. Пры моцным атраўленні — утрата прытомнасці. Першая дапамога пацярпеўшаму: як найхутчэй вынесці на паветра, расшпіліць вопратку, абліць грудзі, галаву і твар халоднай вадой. Падносіць да носа хустачку, змочаную нашатырным спіртам. Калі пацярпеўшы стане прытомным, даць яму моцна заваранага чаю. Ракамендуецца доўга прабываць на паветры.

### Дапамога пацярпеўшаму ад паражэння электрычным токам

Паражэнне электрычным токам можа наступіць ад сапсутай настольнай лямпы, жалязка, пліткі, ад дрэнна апраўленага выключацеля, разеткі, працёртай або змочанай абмоткі провада. Вельмі небяспечна дакранацца да такіх правадоў мокраю рукою, калі чалавек стаіць на мокрай падлозе, або трымаецца за жалезныя прадметы, якія вельмі добра праводзяць ток у зямлю. Але паражэнне токам можа быць і пры добра абсталяваных электрычных прыборах, калі чалавек неасцярожна імі карыстаецца. Паражэнне можа наступіць, калі, укручваючы лямпачку, мы не трымаем яе за шкло, а металічную апраўку. Асабліва недапушчальна пакідаць у разетцы адключаны ад прыбора (пліткі, жалязка) шнур, які часта з'яўляецца прычынай смерці дзяцей.

Першая дапамога: неабходна выключыць ток або адцягнуць провад ад пацярпеўшага сухім калочкам або вяроўкай. Калі тэта нематчыма, то адцягнуць пацярпеўшага ад провада можна толькі за сухое адзенне, каўнер, палу, спадніцу, але не за ногі, таму што ў абутку могуць быць металічныя часткі. Да голага цела пацярпеўшага дакранаемся, надзеўшы сухія рукавіцы, або абматаўшы рукі сухой тканінай.

На мокрай зямлі ў тэтым выпадку неабходна адзець галошы, стаць на сухую дошку, або на звітак сухога адзення.

Пацярпеўшага, які не ўтраціў памяці, неабходна адправіць у бліжэйшы медыцынскі пункт. Калі страціў прытомнасць, тады хворага трэба вынесці на паветра, пакласці цёплыя грэлкі, даць нюхаць нашатырны спірт, папырскаць твар вадой.

Пры адсутнасці прызнакаў жыцця (дыханне, біцця сэрца, пульса) неабходна зрабіць штучнае дыханне да прыезда ўрача.

Нельга хворага закопваць у зямлю. Такія ж спосабы першай дапамогі прымяняюць і пры паражэнні маланкай.

# НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

## ГАРБУЗ ЗВЫЧАЙНЫ

Для лекавых мэт прымяняецца гарбузовае насенне, ачышчанае ад лускі, «малако» з насення, а таксама «мяса» гарбуза, у якім знаходзяцца зярняты. Гарбузовыя зярняты ядуць пры хваробах мачапалавых органаў і пры глістах.

Пры хваробах нырак і мачавога пузыра з гарбузовага і канаплянага насення, змешаных у роўных частках, робяць «малако» наступным чынам: высушанае гарбузовае і канаплянае насенне (па 1 шклянцы кожнага) расціраюць у глінянай пасудзіне, паступова падліваючы з шклянкі вару, а затым працэджваюць, адціскаючы рэшткі. Атрыманае такім чынам «малако» выпіваюць на працягу дня.

Гэтае малако прымяняюць пераважна ў тых выпадках, калі ў мачы ёсць кроў з прычыны спазматычных з'яў, затрымліваецца мача. Лічыцца, што гарбузовае насенне, калі яго з'есці за дзень да 3 шклянак, можа выгнаць усялякіх глістоў і нават саліцёра. Пасля гарбузовага насення рэкамендуецца прыняць порцыю слабіцельнага (рыцыны).

Чыстым свежым «гарбузовым мясам», абкладваюць запаленыя месцы на целе пры сыпах, прышчах і экземах.

Сам гарбуз, як харчавы прадукт, ужываецца ў шмат якіх стравах, лічыцца ў народзе добрым мачагонным сродкам, які ачышчае не толькі ныркі, але і ўвесь арганізм. Усё гэта яшчэ ў большай ступені датычыць другога віду гарбузоў — кавуноў. Кажуць, што кавуны — гэта такога роду ежа-лякарства, якое заўсёды дапамагае і ніколі не шкодзіць, нават у вялікіх дозах. Сезон кавуноў для хворых склерозам, артрытам і г.д. — гэта хатні курортны сезон.

## ТАЛАКНЯНКА ЗВЫЧАЙНАЯ

Беларуская назва: талакнянка ці мядзвежыя ягады.

Шматгадовая расліна ў выглядзе невялікіх нізенькіх вечназялёных кусцікаў. Лісце на зіму не ападае. Кусцікі галіністыя, сцябло сцелецца па зямлі, даўжыня яго 30—100 см. Лісце дробнае, з верху бліскучае, па краях незагнутае. Кветкі ружаватыя на кароткіх кветканожках, сабраныя ў гронку. Плады — касцянка з 1—5 косткамі цёмначырвонага колеру. Цвіце ў маі — чэрвені. Расце ў барах на пясчанай глебе.



Талакнянку часта блытаюць з брусьнічнікам. Лісце брусьнічніка большае за лісце талакнянкі, па краях яно загнутае, некалькі зубчатае. Ягады брусніцы больш сакавітыя, хоць з выгляду і падобныя на ягады талакнянкі. Пры расціскванні брусніц атрымліваецца сакавітая кашка, а ў ягад талакнянкі — вільготная мучністая маса.

Збіраюць толькі лісце талакнянкі (часам з кветкамі) у час цвіцення і ўсё лета да верасня.

У народзе лічаць, што ўсе хваробы нырак, мачавога пузыра, асабліва запаленне нырак, камені нырак і мачавога пузыра, нельга лячыць без лісця талакнянкі. Доза: ад 5—15 да 30 г на 150—250 да 500 г вады. Вараць 15 мінут, даюць адстаяцца 20 мінут, працэджваюць і п'юць па паўшклянкі тры разы або па адной сталовай лыжцы праз кожную гадзіну.

Адвар з лісця талакнянкі прымаюць таксама пры аслабленых нервах, пры венерычных хваробах. У гэтым выпадку на тры шклянкі сырой вады бяруць адну сталовую лыжку лісця талакнянкі і вараць, пакуль не выпарыцца адна трэцяя частка вадкасці. Рэшту адцэджваюць і п'юць штодзённа па дзве шклянкі на дзень. Пры гэтым забараняюцца алкагольныя напіткі.

Лісце талакнянкі захоўваецца ў скрынцы, абкладзенай паперай.

## Трыпутнік вялікі і трыпутнік сярэдні

Шырока вядомая расліна. Расце пры дарогах, на палях і лугах. У народнай медыцыне прымяняецца лісце для прыкладвання да ран, парэзаў, язваў і скул. Прыкладваюць або пакамечаныя лісты або цэлыя і ахутваюць хворую мясціну цёплай хусткай ці суконкай. Спіртавой настойкай з гэтага лісця прамываюць раны; такую ж настойку пры зубным болю ўкладваюць на ватцы ў дупло зуба.

Парашок з зерняў гэтых трыпутнікаў прымяняюць пры хранічных паносах, катарах кішок і нават дызентэрыі. Доза: па аднаму граму парашка чатыры разы ў дзень.

Лісце захоўваецца ў скрынцы, абкладзенай паперай, а насенне, добра прасушанае, — у шчыльна закрытых бляшанках.

## Верас звычайны.

Невялікі, вельмі разгалінаваны кустарнік, з дробнымі вечназялёнымі лісточкамі, размешчанымі супрацьўна, шчыльна-чарапічата ў чатыры рады. Кветкі размешчаны ў выглядзе аднабокіх гронак, якія пераходзяць у галінкі, ліловыя або лілова - ружовыя, а часам і белыя або крэмавыя. Цвіце з ліпеня, у жніўні і верасні. Смак расліны горкі, вяжучы. Пах моцны — пахне мёдам. Расце

на сухіх і сыраватых пясчаных мясцінах, больш у сасновых і змешаных лясах, на палях, сухіх узгорках, на лясных лугах, пры дарогах, звычайна ў нечарназёмнай паласе. Збіраюць галінкі з лісцьмі і кветкі. Водны настой травы вераса (40 г на 1 літр вады) лічаць лепшым сродкам пры каменнях нырак; ім карыстаюцца і пры вадзянцы.

Верас уваходзіць у сумесі траў пры катары страўніка, асабліва з павышанай кіслотнасцю. Ужываюць таксама як сродак, які супакойвае нервы і дзейнічае часткова снатворна.

Траву вераса захоўваюць у скрынках, выкладзеных паперай.

### Стрэлкі

Руская назва: пастушья сумка, сумочник пастуший.

Пустазелле, распаўсюджанае ўсюды. Аднагадовая, часам двухгадовая травяністая расліна з прыкаранявою разеткаю перыстарассечаных лістоў і простым сцяблом, на якім лісты сядзяць дробна, цэльныя або выемчата-зубчатыя. Плады — струкі ў форме сардэчка або сумачкі. Белыя дробныя кветкі сабраны ў доўгую гронку. Расліна цвіце ад красавіка да верасня паступова ад нізу сцябла да верха; так і выспявае.

Расце на палях, у гародах, каля дарог, каля жылля. На добрых глебах дасягае вышыні 60 см, звычайна — 10 — 40 см. Збіраюць усю траву, зразаючы яе ў час цвіцення.

Напар стрэлкі (40—50 г на 1 л вару) прымаюць пры хваробах печані, жоўчных і ныркавых каменнях, пры хваробах нырак і мачавога пузыра і пры розных расстройствах абмену рэчываў.

Некаторыя лічаць, што сок з памятых і выціснутых раслін стрэлкі па 40—50 кропель на адну сталовую лыжку вады ва ўсіх выпадках дзейнічае больш энергічна, чым напар. Такі сок прымаюць таксама пры рэўматызме і паносах. Пры паносах прымаюць не на вадзе, а на чарцы гарэлкі.

Пры каверне ў лёгкіх на дзве шклянкі вады бяруць 2 сталовыя лыжкі травы стрэлкі, адну сталовую лыжку дубовай кары і паўшклянкі партвейну. Усё гэта варыцца 10 хвілін у закрытым посудзе. Увесь напар выпіваюць на працягу дня.

Сухую траву стрэлкі захоўваюць у скрынках, выкладзеных паперай.

### Авёс пасяўны

У лячэбных мэтах народ ужывае крупу, муку і салому, пры гэтым крупа і мука з аўса ўжываецца як дыэтычны сродак, а салома як лячэбны.

З аўсянай мукі гатуюць кісялі, якія ўжываюцца не толькі як ежа пры страўнікава-кішачных захворваннях, але і пры паносах;



у гэтых выпадках прымяняюць «клейкі» адвар з аўсянай крупы.

Чай і адвар з аўсянай саломы ўжываюць у народзе як патагонны, ветрагонны і мачагонны сродак. Адвар прымяняюць таксама і пры вадзянцы жывата, якая ўзнікае пры хваробах нырак, і як жарапаніжальны сродак.

Ванны з адвару аўсянай саломы робяць для рахітачных і залатушных дзяцей.

З моцнага адвару аўсянай саломы робяць прыпаркі пры хваробах касцей.

Пры каменнях нырак з моцнага адвару аўсянай саломы робяць гарачыя кампрэсы і прыпаркі на раён размяшчэння нырак як сродак, што разагравае і пашырае мачаточнікі і палягчае праходжанне каменняў.

### Кукуруза

Агульнавядомая расліна, якая мае важнае значэнне як збожжавая, кармавая і тэхнічная культура.

У народнай медыцыне збіраюць пучкі слупкоў з рыльцамі пры ўборцы і ачыстцы пачаткаў ад абкрутак. Гэтыя слупкі з рыльцамі называюць у народзе «кукурузавым воласам». Сушаць яго ў ценю, на паперы, звычайна на гарышчах.

Слупкі з рыльцамі кукурузы лічацца мачагонным сродкам, які здрабняе мачавыя камені ў пясок, а таксама і жоўчныя камені.

Вось адна з простых сумесей пры захворваннях мочапалавых органаў: кукурузны волас, створкі фасолі і лісткі талакнянкі змешваюць ў роўных частках кожнага і 40 г гэтай сумесі вараць 15 хвілін і 1 л вады. Увесь адвар, працадзіўшы, выпіваюць на працягу дня ў шэсць прыёмаў. Пры гэтым рэкамендуецца малочная дыэта, цёплыя ванны і грэлкі на раён мачавога пузыра або нырак.

Волас кукурузы захоўваюць у скрынках, абкладзеных паперай.

### Бяроза

У народнай медыцыне прымяняюцца пупышкі, лісце і сок (бярозавік). Лісце маладое звычайна збіраюць у маі, пупышкі — ранняй вясной, калі яны яшчэ не распусціліся.

З бярозавых пупышак робяць спіртавую настойку. Бяруць 30 г і больш пупышак на літр прыкладна 70-градуснага спірту. Гэтую настойку прымаюць тры разы ў дзень па 15—20 кропель на лыжку вады пры язве страўніка, пры болю ў ім, пры вадзянцы, якая ўзнікла ад запалення нырак, супраць круглых глістоў, пры хваробах скуры, мачавога пузыра. Настойкай лечаць раны, прамываюць іх і робяць прымочкі. Пры рэўматызме робяць націранні настойкай.

Замест спіртавой настойкі прымяняецца таксама адвар з бярозавых пупышак:5—10 г на шклянку вады і п'юць па тры шклянкі ў дзень у тых жа выпадках, як і кроплі.

Калі няма пупышак, то з поспехам прымяняюць адвар ці напар маладога лісця: 10 г на шклянку вады. Паводле народнага меркавання, рэчывы, што ёсць у пупышках, лісцях і бярозавіку, добра ўплываюць на абмен рэчываў, на выдаленне ўсякага баласту з арганізма. Бярозавік лічыцца кровааччышчальным сродкам, ён, «аздараўляе» кроў. Яго прымаюць па тры шклянкі ў дзень пры скураных хваробах.

Калі няма ні пупышак, ні лісця, ні бярозавіку, напрыклад, зімой, то ўжываюць адвар з маладых галінак бярозы.

# ВЕЛЬМІ ДРЭННАЯ ПРЫВЫЧКА

Курэнне — гэта дрэнная прывычка. З табачным дымам чалавек удыхае яд, які паступова разбурае людскі арганізм.

Большасць людзей пачынае курыць у юнацтве. Падросткі пачынаюць курыць, беручы прыклад са старэйшых, хутчэй за ўсё з цікавасці і свавольства. Моладзь прывыкае да курэння так, што ўтрачвае волю над сабой, паддаючыся гэтай дрэннай і небяспечнай для здароўя прывычцы.

Нікацін разам з крывёй расходзіцца па ўсяму арганізму чалавека, аказваючы дрэннае ўздзеянне на ўсе органы. Узбуджае нервовую дзейнасць, выклікаючы перанапружанне нерваў. Узбуджэнне мозгу, выкліканае табачным дымам, хутка замяняецца яго прыгнечаннем. Каб узбудзіць яго дзейнасць, курыльшчык курыць адну папяросу, за ёю другую, трэцюю і т.д. Пад уплывам курэння баліць галава, аслабляецца ўвага, прытупляецца памяць.

Нікацін уплывае на звужэнне кровеносных сасудаў, а тым самым зменшваецца дапплыў кіслaрода і пажыўных рэчываў да тканак.

Недахоп кіслaрода ў мышцах сэрца выклікае пачуццё моцнага болю. Гэты боль з'яўляецца перасцярогай курцам. Пакуль што ён з'яўляецца толькі вынікам сударгі сасудаў і зaнікне, калі будзе ліквідавана прычына. Калі чалавек не пакідае курыць, тады адбываюцца змены ў тканках кровеносных сасудаў. Утрачваецца іх гібкасць, на іх сценках асядае соль, сасуды робяцца крохкімі, яны тармазяць прыплыў крыві.

Развіваецца невылячальная хвароба — атэраматоз.

Табачны дым часта з'яўляецца прычынай захворвання насаглоткі, гартані і бронхаў. Пад уплывам шматгадовага курэння разбураюцца зубы.



Урачы сцвярджаюць, што табак з'яўляецца прычынай узнікнення язвы жалудка.

Пранікаючы ў арганізм чалавека, нікацін уплывае на паўставанне ў мышцах мёртвых тканак.

У курца, які мае 45—50 год 40— 60% жывых тканак сэрца заменена мёртвымі. Такое сэрца недаўгавечна.

Усе курцы раней ці пазней усведамляюць небяспеку курэння і стараюцца пакінуць курыць назаўсёды. Кожны чалавек можа кінуць курыць. Ад чалавека, які кінуў курыць, патрабуецца: трымаць сябе ў адносінах да тытуню варожа і на працягу доўгага часу — месяцы і гады — не праяўляць да яго ніякай цікавасці.

Пакідаць курыць трэба ў звычайных будзённых абставінах. Рэкамендуецца тэта зрабіць так: у назначаны дзень пасля вячэры не курыць, напіцца гарачага чаю і хутчэй легчы ў пасцель. На наступны дзень таксама адмовіцца ад тытуню, не браць папярос у рукі, а тым больш у рот. Нікому не дазволіць курыць у сваёй кватэры. Пазбягаць курцоў на рабоце.

Адвыкнуць ад курэння першапачаткова цяжка. І ў гэты перыяд хворы асабліва патрабуе сяброўскай і маральнай падтрымкі з боку блізкіх.

# ЯК СТАВІЦЬ БАНКІ

Перш чым ставіць банкі, неабходна праверыць, ці не вышчарблены ў іх берагі, затым падрыхтаваць вату, дэнатурат, металічную або драўляную палачку, запалкі. Калі банкі ставім мужчыне на грудзі, неабходна збрыць валасы, у іншым выпадку іх можна падпаліць. Ставіць банкі можна толькі на здаровую скуру. Скуру змазваем вазелінам.

Ставіць банкі трэба наступным спосабам: у левай руцэ трымаем банку ўверх дном, а правай уводзім у яе на 1—2 секунды палачку, на каторую намотана змочаная ў дэнатураце і запаленая вата (змочваць вату бензінам або эфірам не рэкамендуецца: бензін дае многа копаці, а эфір — выклікае полымя). У банцы, калі яе прыкладаем да цела, не павінна быць палаючага спірта.

Калі банкі пастаўлены, хворага прыкрываюць прасцыняй, або коўдрай і даюць спакойна паляжаць 10—15 мінут.

Знімаць банкі трэба наступным спосабам: левай рукой лёгка нахіляем банку, а правай у яе падставы націскаем на скуру; пры чым паяўляецца шчыліна, у якую пранікае паветра, і банка лёгка адпадае.

Банкі ставяць пры запаленчых працэсах у лёгкіх, бронхах, пры застоях крыві ў лёгкіх, пры неўралгіі і іншых хваробах.

# ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

Плямы ад піва з тканіны добра выдаляюцца мыльнай вадой з дэнатуратам.

✻

Пах селядца і цыбулі з металічных прадметаў лёгка выдаліць, калі пацерці іх анучкай, змочанай у воцат або алей.

✻

Замшавыя пальчаткі і абутак лепш за ўсё чысціць растворам нашатырнага спірту (адна частка нашатырнага спірту і чатыры часткі вады). Пратрыце рэч ваткай, змочанай у растворы, мяняючы яе па меры забруджання, а затым патрыце ваткай, змочанай у чыстай вадзе або ў вадзе, змякчанай воцатам (на літр вады чайную лыжку воцату).



✻

Нярэдка ў цвятную капусту і іншую гародніну запаўзаюць мурашкі, мухі і іншыя насякомыя. Калі перад пачаткам прыгатавання патрымаць гародніну ў моцна пасоленай вадзе 8—16 мінут, насякомыя ўсплывуць на паверхню, і іх лёгка зліць разам з вадой.

✻

Калі цёплы тлушч разліўся на падлогу, яго трэба адразу заліць халоднай вадой: тлушч застыне і лёгка здымецца нажом.

✻

Лімонная скурка надае смажанай цяляціне, свініне, курыцы або індычцы вельмі прыемны смак. Вазьміце чацвярцінку лімона са скуркай і смажце яго разам з мясам. Калі скурка стане зусім мяккай, разатрыце яе драўлянай лыжкай і растварыце ў соусе.

✻

Для захавання солі, цукру, чаю, тытуна ад вільгаці на дно посуду, у якім знаходзяцца гэтыя рэчы, трэба пакласці некалькі лісткоў прамакальнай паперы.



✻

Калі шыеце што-небудзь з вельмі тонкай тканіны (шыфону, жаржэту), пакладзіце пад матэрыял ліст тонкай белай паперы, будзе зручней шыць.

✻

Каб скураны абутак не ціснуў, змачыце яго ўнутры спіртам або адэкалонам і надзеньце.

✻

Каб вярнуць ранейшы бляск пазалочаным рамам або карнізам з багет, патрыце іх свежай, толькі што разрэзанай цыбулінай і затым адпаліруйце мяккай суконкай.

✻

Калі на сукенку ўпала кропля тлушчу, пасыпце пляму соллю і старанна вытрыце яе. Соль трэба змяніць некалькі разоў, пакуль пляма не знікне.

✻

Плямы цвілі з бялізны можна выдаліць наступным чынам. Змачыць пляму сумессю соку лімона з вадой (2/3 вады і 1/3 соку), пасыпаць на пляму дробнай солі, даць прасохнуць і затым памыць.

✻

Шкляныя вазачкі, шклянкі набудуць бляск, калі да вады, у якой мыюць, дадаць 1—2 лыжкі воцату і лыжку солі.

✻

Калі распальваюць сырыя дровы, іх паліваюць газай або бензінам. Але ж гэта небяспечна. Насыпце жменю буйнай солі на дровы і яны ярка ўспыхнуць.




✻

Заіржавелую паверхню пліты добра працерці гарачым алеем, — яна зноў заблішчыць, як новая.

# З ЖЫЦЦЯ БГ-КТ

# Ці ведаеце што...

1. БГКТ у канцы чэрвеня 1962 г. налічвала 3392 членаў, аб'яднаных ў 140 гуртках. А тэта значыць, што за апошняе паўгоддзе прыбыло 605 новых членаў.
2. Найлепш аплачваюць складчыны члены БГКТ у Беластоку і ў Сямяціцкім павеце.



**Прэзідыум IV Пленума ГП БГКТ.**
Фота — **Г. Рагазінскі**

3. 15.IV.1962 г. адбылося IV-тае пленарнае пасяджэнне, прысвечанае актывізацыі працы гурткоў БГКТ.
4. Грамадскія камісіі ГП у I-ым паўгоддзі 1962 г. зрабілі 5 пасяджэнняў, а Літаратурнае аб'яднанне правяло свой чарговы семінар.
5. Праз радыёвузлы паўднёва - усходняй Беласточчыны прачытана 108 радыёгутарак на беларускай мове.
6. Па заяўках жыхароў Беластока Польскае радыё ў Беластоку ўпершыню пачало перадаваць песні ў выкананні членаў эстраднай групы «Лявоніха».
7. У 1962 годзе ГП БГКТ выдала наступныя кніжныя выданні: Зборнік вершаў А. Барскага «Белавежскія матывы», «Беларускі каляндар на 1963 год» і «Зборнік вершаў і апавяданняў для дзяцей», якія можна набыць у аддзелах БГКТ, у ГП БГКТ і кнігарнях.
8. У беларускіх асяроддзях працавала 86 самадзейных мастацкіх калектываў, у тым ліку: 53 драматычныя, астатнія — інструментальна - харавыя і танцавальныя. Найлепшымі былі калектывы з Казлоў і Пілікаў Бельскага павета і са Скупава Гайнаўскага павета.



**Інструментальны калектыў са Шчытоў.**
Фота — **К. Сэндзёўскі.**

9. У першым паўгоддзі 1962 г. эстрадная група «Лявоніха» дала 138 канцэртаў. Аглядала іх 22 290 гледачоў. Апрача гэтага, удзельнікі эстрады 56 раз наведалі вясковыя мастацкія гурткі, даючы ім адпаведныя інструкцыі.
10. У маі і чэрвені 1962 года ГП БГКТ арганізавала 27 экскурсій, у якіх удзельнічала 1 180 асоб. Найбольшай папулярнасцю, асабліва ў вучняў пачатковых школ, карысталася сталіца — Варшава.



**Экскурсія вучняў са школы Старое Ляўкова, арганізаваная ГП БГКТ.**



**ГП БГКТ шырока адзначала 70-годдзе выдатнага беларускага культурна-асветнага дзеяча Рыгора Шырмы. А. Каліноўскі, былы ўдзельнік хору Р. Шырмы, дзеліцца ўспамінамі з мінулай працы.**

Фота — **Г. Рагазінскі**





**Выступае Беларускі калектыў песні і танца, дырыжор — Гэлена Куляшэвіч.**

Фота — **Р. Сянкевіч**



**У будынку ГП БГКТ адбыўся курс для вясковага актыву.**

Фота — **Г. Рагазінскі**



**Сустрэча дэлегацыі Мінскага Беларускага палітэхнічнага інстытута з прадстаўнікамі ГП БГКТ.**
Фота — **Ю. Рыбінскі**

11. Пры аддзелах БГКТ у Беластоку, Бельску, Варшаве, Гайнаўцы, Міхалове і Саколцы існуюць бібліятэкі, у якіх налічваецца амаль 8 000 экземпляраў беларускіх, часткова польскіх і рускіх кніг. Кніжкамі з гэтых бібліятэк у сярэднім карыстаецца каля 1000 чытачоў у месяц.

12. Аддзелы БГКТ арганізавалі ў святліцах, бібліятэках, клубах 80 выставак, у тым ліку: народнай вышыўкі, дзіцячага малюнку, з жыцця БГ-КТ, малюнкаў аматараў Бібілы, Хомчыка і Тафткевіча.

13. За паўгоддзе 1962 года былі праведзены 32 аўтарскія сустрэчы для дарослага насельніцтва і школьнікаў. Сярод аўтараў найбольшай актыўнасцю адзначыліся Віктар Швед і Алесь Барскі.



**Аўтарская сустрэча ў Гайнаўскім агульнаадукацыйным ліцэі.**
Фота — **Г. Рагазінскі**



# Беларусы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці краіны

Беларускае насельніцтва ў Польскай Народнай Рэспубліцы кампактна пражывае ва ўсходняй частцы Бельскага, Беластоцкага, Сямяціцкага і Сакольскага паветаў. Гайнаўскі павет амаль у цэлым заселены беларусамі. Беларусы жывуць таксама ў Дуброўскім і Лапскім паветах. Беларускай мовай, аднак жа, карыстаецца амаль усё насельніцтва Сакольскага і Дуброўскага, а часткова і Аўгустоўскага павета ў раёне паўднёвай ускраіны пушчы.

Налічвае гэта каля 20% усяго насельніцтва Беластоцкага ваяводства.

Ва ўмовах сучаснага дзяржаўнага сацыялістычнага ладу беларусы з'яўляюцца паўнапраўнымі гаспадарамі ў галіне дзяржаўнага і грамадскага жыцця краіны. Народная Польшча стала іх сапраўднай Айчынай. Перш за ўсё знаходзіць гэта сваё адлюстраванне ў складзе рад народовых. І так, на агульны лік 2 099 радных грамадскіх рад народовых бягучай кадэнцыі ў Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім і Сямяціцкім паветах 946 асоб — гэта беларусы. У Гайнаўскім павеце на 404 радных 362 беларускай нацыянальнасці.

Такая колькасць беларусаў, якія ўвайшлі ў склад грамадскіх рад народовых, сведчыць не толькі аб цеснай сувязі народнай улады з нашым насельніцтвам, але і магчымасцях забеспячэння ўсіх яго патрэб у галіне палітычна - грамадскага, асветнага і культурнага жыцця. Гэта сведчыць таксама аб тым, што беларусы ўпершыню ў нашай гісторыі патрактаваны, як роўныя з роўнымі.

Аналагічныя прапорцыі і ў складзе павятовых рад народовых. На агульны лік 295 радных 105 з іх з'яўляюцца беларусамі. І так, у Гайнаўскім павеце на 55 радных 38 асоб беларускай нацыянальнасці. Падобных даных і параўнанняў можна прывесці многа. Іх сэнс толькі адзін — беларускае насельніцтва мае сваю поўную рэпрэзентацыю ў органах народнай улады.

Не менш актыўны ўдзел прымаюць беларусы і ў палітычна - грамадскім жыцці свайго асяроддзя. Разглядаючы склад такіх арганізацый, як ЗМВ, Ліга Жанчын, ЛЗС і г.д., можна сцвердзіць, што беларусы складаюць у сярэднім 40% павятовага стану гэтых арганізацый. Напрыклад, у Сакольскім павеце на 269 членаў ЗМВ 169 беларусаў, а ў Гайнаўскім павеце гэтыя даныя прадстаўляюцца, як 932 і 905 (даныя на 31.XII.1961 г.)

Сотні і тысячы выхадцаў з нашых вёсак і мястэчак працуюць у прамысловых цэнтрах Беластока, Варшавы, Лодзі і Шлёнска. Нярэдка займаюць кіруючыя пасты. З аднаго толькі Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску выйшлі за гэты час сотні выхаванкаў, якія ў сучасны момант здабылі высокія навукова - тэхнічныя кваліфікацыі і працуюць зараз на адказных пасадах.

У мабілізацыі беларускага насельніцтва да рэалізацыі грамадскіх задач на тэрыторыі ваяводства прыкметную ролю адыгрывае і Беларускае грамадска - культурнае таварыства створанае ў 1956 г. па ініцыятыве беларускага актыву. Пашыраная сетка школ і бібліятэк, працуючых на запатрабаванні нашага насельніцтва, выклікае ўсё новыя патрэбы ў галіне культурна - асветнага і ідэалагічнага жыцця.

У сучасны момант першапланавым пытаннем культурна - асветнага жыцця ў вёсцы з'яўляецца далейшая інтэнсіфікацыя асветнай дзейнасці. Звязанне яе з багатай спадчынай беларуска - польскага прагрэсіўнага супрацоўніцтва і яго мясцовых традыцый складае важную функцыю інтэрнацыянальнага выхавання грамадскасці. Знаходзіць гэта сваё ўвасабленне ў гісторыі класавых змаганняў, развіцці братніх літаратур, у фальклоры.



**Юрыдычна-кансультацыйны пункт пры рэдакцыі «Ніва». Парады дае суддзя В. Склубоўскі.**

Фота — **А. Амільяновіч**



# СУВЯЗЬ СТВАРАЕ МАГЧЫМАСЦІ

Кожны гурток Беларускага грамадска - культурнага таварыства праводзіць у сучасны момант толькі найбольш патрэбную і рэальную працу. Каб мець поўнае ўяўленне аб магчымасцях нашай арганізацыі ва ўмовах вясковага жыцця, трэба коратка ўпамянуць аб практычнай дзейнасці многіх гурткоў БГКТ.

Дагэтуль большасць гурткоў Таварыства пачынала сваю дзейнасць ад стварэння калектываў мастацкай самадзейнасці. Як правіла, аматары рыхтуюць праграму, якая пераважна складаецца з пастаноўкі п'есы, дэкламацыі і некалькіх песень або танцаў. Так нарадзілася культурнае жыццё ў вёсцы Літвінавічы, Сямяціцкага павета. Мясцовыя гурткоўцы пад кіраўніцтвам сваіх энергічных сяброў Мікалая Ажэхоўскага і Кастуся Мішчука наладзілі выступленні ў роднай вёсцы і ў акалічных мясцовасцях.

Гурток БГКТ у Сухінічах на Сакольшчыне праявіў сваю жыццядольнасць у супрацоўніцтве са школай. Пад кіраўніцтвам настаўніцы Ліды Андрэюк адбыўся праблемны курс па гісторыі беларускай літаратуры. Алёша Тур з бібліятэчнага пункта паклапаціўся аб тым, каб распрапагандаваць беларускія кніжкі, і здабыў шмат чытачоў.

Прыкладам добрага супрацоўніцтва з арганізацыяй ЗМВ з'яўляецца гурток нашага Таварыства ў Баршчэве (Беластоцкі павет). Членамі БГКТ і ЗМВ з'яўляюцца амаль адны і тыя ж дзяўчаты і хлопцы. Планы і вынікі іх работы з'яўляюцца супольным дасягненнем гэтых двух арганізацый. Грамадскім чынам упарадкавана тут і абсаджана дрэўцамі дарога, прыбрана прышкольная пляцоўка, праведзены курс роднай мовы. Самадзейны калектыў з вёскі Баршчэва вядомы на ўсю ваколіцу. Усюды яго ахвотна запрашаюць на выступленні.

Гурткі БГКТ у Дубічах Царкоўных і Горным на Гайнаўшчыне стварылі курсы кройкі і шыцця, а таксама курс гатавання. У вызначаныя дні вечарамі ў мясцовых школах сабіралася шмат моладзі. Асаблівай папулярнасцю карысталіся курсы кройкі і шыцця, дзе дзяўчаты і старэйшыя кабеты вучыліся шыць найбольш патрэбныя ім рэчы. У сучасны момант тут створаны Сельскагаспадарчыя вячэрнія школы.

Пішучы аб працы гурткоў нашага Таварыства ў вёсках, нельга не ўпамянуць і аб гуртку ў вёсцы Плёскі, Бельскага павета. Тут створаны пастаянны лектарскі пункт. Прыязджаюць сюды з дакладамі і гутаркамі грамадскія дзеячы, аграномы, журналісты.

Адбываліся сустрэчы з беларускімі паэтамі. Мясцовы мастацкі гурток за зароблены грошы хоча правесці грунтоўны рамонт святліцы. Актыў дабіўся таго, што цяпер амаль у кожную хату ідзе «Ніва». Шмат адбылося літаратурных вечароў, прысвечаных творам такіх беларускіх пісьменнікаў, як К. Чорны, К. Крапіва, М. Лынькоў і інш. «Прыемна паслухаць увечары цікавую аповесць, верш, гумар, легенду», — гавораць сяляне.

Чытаючы тэтыя словы, хтось мог бы падумаць, што ва ўпамянутых мясцовасцях сапраўды знайшліся «цудоўныя» актывісты, якія ўсё змогуць арганізаваць! Справа аднак не толькі ў актывістах. Гэтыя і многа, многа іншых гурткоў утрымоўваюць цесную сувязь з павятовымі аддзеламі Таварыства, дзе заўсёды атрымліваюць парады і канкрэтную дапамогу. Без такой сувязі і без дапамогі часта цяжка правесці ў вёсцы запланаваныя мерапрыемствы.

Не забывайце, што дапамогу акажуць вам і Грамадскія рады — гаспадары тэрыторыі, настаўнікі і бібліятэкары як культурна - асветныя працаўнікі.

У еднасці сіла!

# Дасягненні эстрады „Лявоніха"

III З'езд БГКТ (1960 г.) прыняў пастанову, у якой гаварылася: «прыкласці ўсе намаганні і арганізаваць эстраду», — групу, якая змагла б даваць канцэрты ў любых умовах: ад тэатральных залаў да вясковых хат і танцавальных пляцовак уключна.

Эстрадная група ўзнікла восенню 1960 года пад кіраўніцтвам Міхася Ануфрыева з удзельнікаў Калектыву песні і танца. Яе першыя ўдзельнікі: Ніна Свентахоўская, Янка Валендзюк — салісты, Ліля Гайдук і Янка Крупа — балетная пара, а таксама духавы квартэт. Яны ўзялі ўсё найпрыгажэйшае з праграмы калектыву і 15.XI. далі першы канцэрт для ўдзельнікаў ІІ-га пленума ГП. Група карысталася поспехам, але хутка распалася з увагі на свой ненародны характар.

Новую эстрадную групу пачаў мантаваць Янка Крупа. Дзякуючы яго ахвярнай працы, быў створаны 9-асабовы калектыў і апрацавана праграма. Да 1.III.61 года ўдзельнікі эстрады далі 17 канцэртаў. За гэты час вырасла папулярнасць «Лявоніхі», яе пачалі ўсюды патрабаваць. Таму Прэзідыум ГП вырашыў вызваліць членаў эстрады ад працы ў іншых установах і часткова аплачваць ім



працу ў ГП. Эстрада пачала вясці самастойнае жыццё. Узрос яе мастацкі ўзровень, дысцыпліна працы, лік канцэртаў.

Вось што ўлетку пісаў глядач з Пясэчна каля Варшавы, Ян Сабалеўскі: «Па хвіліне зал быў набіты (даслоўна) да апошняга месца... людзі сядзелі на печцы, вокнах. Шкадую, што не маю фатаапарата. Пабачылі б, дарагія чытачы і высокія начальнікі, цікавае фота, якое ілюструе імкненне вёскі да культуры дзвярыма і вокнамі. Калі гаворым, што гледачоў быў поўны камплект, то на гэтым канцэрце было два камплекты. Даю слова, верце мне» і г. далей. У вёсцы Трасцянцы на другі дзень пасля канцэрта вучань скардзіўся, што баляць далоні ад шчырых «браў». «Лявоніху» сталі называць роднай, дарагой і прасіць, каб наведала іх вёску.

А вось як выглядаюць дасягненні эстраднага калектыву ў цыфрах. У 1961 годзе дала яна 302 канцэрты, якія аглядала каля 55 000 асоб.

| Павет | Колькасць канцэртаў |
|---|---|
| Беластоцкі | 76 |
| Беласток — горад | 13 |
| Бельскі | 44 |
| Гайнаўскі | 57 |
| Сямяціцкі | 29 |
| Сакольскі | 51 |
| Дуброўскі | 9 |
| Лапскі | 6 |
| Сейненскі | 13 |
| Іншыя паветы | 4 |

З агульнага ліку канцэртаў на вясковыя асяроддзі выпала каля 280 выступленняў.

У канцы мінулага года «Лявоніха» часткова змяніла персанальны склад і падрыхтавала пры дапамозе дырыжора Яна Куляшэвіча і харэографа Тацяны Макарук новую праграму. Зараз працуе пад кіраўніцтвам Васіля Кардзюкевіча. Рэпертуар эстрады ў 80 працэнтах беларускі, рэшту складаюць рускія, польскія і украінскія песні. У праграме асаблівай увагі заслугоўваюць песні «Люблю мой край» — К. Буйлы (квінтэт), «Родная мова» — В. Шведа (квінтэт), «Беласточчына» — В. Шведа (дуэт), «Цячэ за гаем рэчка» — у апрацоўцы Р. Шырмы (трыё), беларускія частушкі, «Бывайце здаровы» і іншыя. Сярод танцаў — «Крыжачок», «Беларуская полька», «Чардаш» і іншыя.

Мастацкі ўзровень удзельнікаў даволі роўны. Амаль аднолька-

ва бурна гледачы ўспрымаюць танцы ў выкананні Я. Крупы і Ч. Сільвончук, песні ў выкананні В. Кардзюкевіча, Л. Томчык, В. Сянкевіч і Н. Свентахоўскай, як і цікавую канферанс'ерку. Трэба заўважыць, што каля палавіны членаў эстраднай групы ўдасканальвае сваё майстэрства ў артыстычных школах.

З увагі на цяжкія ўмовы абслугі вёсак (недахоп транспарту, адпаведнай дэкарацыі, адзення) ГП БГКТ прылажыла намаганні ў напрамку забеспячэння «Лявоніхі» ўсім неабходным. Зараз калектыў карыстаецца мікробусам «Ныса», мае адпаведныя ўборы, музычныя інструменты, дэкарацыю і г.д., што аблягчае працу, робіць яе больш аператыўнай.

У І-шым паўгоддзі 1962 г. «Лявоніха» дала 138 канцэртаў, у тым ліку 131 для вясковага насельніцтва. Лік гледачоў — каля 23 000 асоб. Невялікі спадак ліку канцэртаў у параўнанні з 1961 г. з'яўляецца вынікам частковай змены профілю працы «Лявоніхі». Пачынаючы ад ІІ-га квартала 1962 г., удзельнікі эстрады абслугоўваюць мастацкія турткі на вёсцы, дапамагаючы ім у падрыхтоўцы рэпертуару. Праца гэта вельмі патрэбная і дае добрыя вынікі.

Нягледзячы на некаторыя недахопы, неабходна адзначыць, што наш невялікі эстрадны калектыў зрабіў вельмі многа ў напрамку папулярызацыі беларускіх песень, музыкі, танцаў і жывога слова.

Трэба пажадаць яму толькі далейшых поспехаў у працы.

(ую)



**Удзельнікі эстрады «Лявоніха» сярод жыхароў вёскі Сяміхочы Сямяціцкага павета.**



# ГОЛАС МІНУЛАГА

# СТУДЗЕНЬСКАЕ ПАЎСТАННЕ на Беласточчыне

У 1963 годзе спаўняецца 100 год з дня Студзеньскага паўстання, якое было важным звяном у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне польскага і беларускага народаў.

Сэнс гэтай барацьбы стане зразумелым, калі коратка разгледзім тагачасныя палітычныя і сацыяльныя адносіны на польскіх і беларускіх землях.

## 1. ЦАРСКАЯ РЭФОРМА

У 1861 г. быў аб'яўлен царскі маніфест аб адмене прыгоннага права. Царская рэформа толькі часткова вызваліла сялян ад панскай залежнасці. Сяляне маглі выкупіць зямлю ад пана. Не маючы аднак грошай на выкуп зямлі, яны былі прымушаны далей працаваць на панскім полі і плаціць даніну.

Не разумеючы сутнасці рэформы, сяляне лічылі, што маніфест сапраўды даў ім зямлю і волю, хаця жыць, як і раней, было цяжка. Сутнасць рэформы зразумела інтэлігенцыя, асабліва мяшчанскага паходжання, а таксама святлейшыя слаі шляхты, якая знайшлася амаль у такім жа становішчы, як і сяляне. Услед за выдатнымі рускімі рэвалюцыянерамі Чарнышэўскім, Герцанам, Агаровым, Бакуніным яны паднялі барацьбу супраць царызму і феадалізму.

Другой важнай праблемай на землях Польшчы і Беларусі было нацыянальнае вызваленне. Пасля Лістападаўскага паўстання ў Польшчы царызм пачаў сістэматычна праследваць усё польскае. Нацыянальны прыгнёт адчувалі ўсе класы польскага народа.

Развіццё беларускага нацыянальнага руху царызм лічыў як інтрыгу палякаў і адмаўляў яму права на існаванне. У сувязі з гэтым барацьба супраць феадалізму была звязана на Беларусі з нацыянальна-вызваленчай барацьбой. Гэтая барацьба ахапіла не толькі сялян, але мяшчан і шляхту.

Такім чынам, Студзеньскае паўстанне было пратэстам супраць феадалізму і нацыянальнага прыгнёту.

## 2. «БЕЛЫЯ» І «ЧЫРВОНЫЯ»

Польскі нацыянальны рух у поглядах на сялянскае пытанне падзяліўся на два асноўныя напрамкі: «белых» і «чырвоных».

«Белыя» — гэта памешчыкі, якія баяліся сялянскага паўстання і гатовы былі ісці на згоду з царызмам дзеля захавання свайго панавання над народам.

Сярод «чырвоных» выдзяляліся дзве групы. Толькі левае крыло «чырвоных», выдатнейшымі дзеячамі якіх былі Ярaслаў Дамброўскі, Баброўскі, Пацебня, Хмялінскі і інш., стаяла на грунце сялянскай рэвалюцыі.

Правае крыло «чырвоных» высоўвала на першае месца нацыянальнае пытанне, якое фактычна не магло быць вырашана ў адарванні ад сялянскага пытання. Прыхільнікі яго пляліся ў хвасце «белых» і паралізоўвалі рэвалюцыйную актыўнасць мас. Гэтым тлумачыцца тое, што на чале паўстання, якое падрыхтавалі і распачалі «чырвоныя», хутка апынуліся «белыя» або элементы апартуністычныя, што з'яўлялася яго асноўнай слабасцю.

## 3. КІРАЎНІЦТВА ПАЎСТАННЯ НА БЕЛАРУСІ

Для кіравання паўстаннем на Літве і Беларусі быў створаны «Літоўскі правінцыянальны камітэт», які адыграў асноўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання. У камітэце пераважалі «чырвоныя» на чале з Кастусём Каліноўскім. Аднак хутка камітэт быў распушчаны па загаду «Часовага ўраду» у Варшаве, у якім пераважалі «белыя». Быў створаны «Аддзел, кіруючы правінцыямі Літвы», складзены выключна з «белых».

К. Каліноўскі быў накіраваны на пост камісара на Гродзеншчыну.

## 4. КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

З Гродзеншчынай, а асабліва Беласточчынай, якая складала частку Гродзеншчыны, звязана значная частка жыцця і дзейнасці Каліноўскага.

Каліноўскі нарадзіўся ў Мастаўлянах, вучыўся ў Свіслачы, а пасля ва ўніверсітэце ў Пецярбургу. Пасля заканчэння ўніверсітэта вяртаецца на Беласточчыну, дзе пачынае актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы паўстання.

Перабраўшыся ў сялянскую вопратку, ён вандраваў з вёскі ў вёску, распаўсюджваў рэвалюцыйныя ідэі і рыхтаваў сялян да барацьбы. Хутка па ўсёй Гродзеншчыне ўзнікла сетка тайных арганізацый.

З мэтай пашырэння рэвалюцыйных ідэй Каліноўскі з дапамогай польскіх і рускіх рэвалюцыянераў арганізаваў выдавецтва беларускай газеты - лістоўкі «Мужыцкая праўда». Гэтая першая беларуская газета шырока распаўсюджвалася далёка за межамі Гродзеншчыны, нягледзячы на тое, што за сам яе кальпартаж і чытанне пагражаў ваенна-палявы суд.

Дзякуючы дзейнасці Каліноўскага на Гродзеншчыне, была добра арганізавана канспірацыя, да якой былі прыцягнуты шырокія кругі сялян. Таму Гродзеншчына была найлепш падрыхтавана да паўстання.

«Мужыцкая праўда» выкрывала царызм як лютага ворага працоўнага народа, які імкнуў-

ся адцягнуць сялян ад удзелу ў рэвалюцыйным руху і накіраваў іх супраць польскага нацыянальнага руху.

## 5. УДЗЕЛ СЯЛЯН У ПАЎСТАНЧЫМ РУХУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У царскіх архівах захавалася шмат дакументаў, якія адлюстроўваюць удзел сялян у паўстанчым руху на Беласточчыне.

З данясення жандарма Лосева 7.II.1863 г. вынікае, што ў вёсцы Войнаўцы селянін Казімір Станкевіч распаўсюджваў «Мужыцкую праўду» і падбухторваў сялян да паўстання. Жандармам не ўдалося яго злавіць.

Да паўстання заклікаў таксама селянін Мацвей Цюхна, які быў арыштаваны і асаджаны ў астрозе ў Саколцы.

У дакладной штаб-афіцэра Штэйна князю Даўгарукаву ад 18.IV. 1863 г. упамінаецца, што ў Беластоцкім павеце з'явілася многа невялікіх паўстанчых атрадаў. Да іх далучаюцца мяшчане з Беластока і Заблудова, а таксама 18 сялян з вёскі Каменка, 12 — з вёскі Баброўка, 13 — з Скаруноў і 4 з Багноўкі.

Ужо 29.V. 1863 г. той жа Штэйн піша, што ў Беластоцкім і суседніх паветах ходзяць атрады па 500 — 700 чалавек.

11.X.1863 г. ваенна-палявы суд у Гродне прыгаварыў да расстрэлу селяніна вёскі Жаўткі, Беластоцкага павета, Дамініка Талінскага за спачуванне паўстанцам.

## 6. АДЫХОД ПАМЕШЧЫКАЎ АД ПАЎСТАННЯ

Калі сяляне побач з мяшчанствам і перадавой часткай — шляхты пралівалі кроў за правы польскага і беларускага народа, памешчыкі адыходзілі ад паўстання.

Граф Веляпольскі, выступаючы ў дзяржаўным савеце Польскага каралеўства, кідаў грошы супраць польскіх патрыётаў, якія атганізавалі няўданы замах на намесніка князя Канстанціна.

Рэакцыйнае становішча займала вышэйшае духавенства. Каталіцкі епіскап Валанчэўскі, услед за рымскім папам Піем IX, які кінуў праклянцце на гераічную барацьбу каталіцкага народа, пісаў да сваіх авечак:

«Пасылаючы пасланне, я заклікаю вас раскаяцца і пакінуць грэшнае жыццё, каб разгневаны бог не хацеў пакараць нас бязмежна. У сувязі з гэтым поўнасцю здайцеся на волю і памілаванне высокага начальства, якому гасудар - імператар даручыў аб'явіць дараванне таму, хто зложыць зброю і шчыра пакаецца».

1600 памешчыкаў Гродзеншчыны падпісала грамату, у якой прысягалі сваю вернасць цару.

Дваранства гродзенскай губерні адмаўляецца ад удзелу ў рэвалюцыйных падзеях і асмельваецца прасіць у свайго дастойнейшага манарха міласердзя. «Аддаючы вам ліст на ўсеміласцівейшае разгледжанне, заяўляем з чыстым сэрцам табе, вялікі гасудар, пачуцці нашай вернападданасці».

Трапна пра гэта пісаў Максім Танк:

«Паны сягоння водзяцца,
З царом за бараду,
Дасць костку ім —
пагодзяцца,
Сялян запрададуць.»

## 7. ВАЖНЕЙШЫЯ ПАДЗЕІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ.

Дзякуючы дзейнасці Кастуся Каліноўскага і яго выдатных супрацоўнікаў, як Валеры Врублеўскі, Браніслаў Шварц, Вацлаў Серакоўскі, паўстанчы рух на Беласточчыне быў асабліва актыўны.

11.I.1863 г. паўстанцы пад камандаваннем Уладыслава Ціхорскага, разбіўшы роту салдат у Суражы, забралі многа зброі і амуніцыі. Пасля гэтага паўстанцы накіраваліся пад Сямяцічы. Атакай здабылі горад і адбілі контратакі ген. Манюкіна. Толькі атрымаўшы дапамогу, Манюкін здабыў Сямяцічы і спаліў горад дашчэнту.

У Бельскім павеце паўстанцы сілай у 150 чалавек разграмілі атрад рускага войска і занялі маёнтак Рудкі. Атрад хутка ўзрастаў, а ўрад абвясціў Бельск і Саколку небяспечнай тэрыторыяй.

Значныя сілы паўстанцаў пад камандай Духінскага былі сканцэнтраваны каля Гарадка. Да барацьбы з ім Манюкін мабілізаваў атрады войска з Беластока і Саколкі. Жорсткі бой адбыўся каля маёнтка Пілатоўшчына.

Дрэнна ўзброеныя, не падрыхтаваныя да барацьбы паўстанцы не маглі супрацьставіцца добра ўзброенаму царскаму войску. Нягледзячы на гэта, паўстанчы рух паступова пашыраўся. Паўстанцы стараліся дзейнічаць невялічкімі групамі па 10—20 чалавек, якія, выканаўшы заданне, разыходзіліся.

Царскія ўлады жорстка расправляюцца не толькі з паўстанцамі, але і з падазронымі ў спачуванні паўстанню. Па загаду начальніка Беластоцкага павета была спалена дашчэнту вёска Яваpоўка. Жыхары вёскі былі арыштаваны і дастаўлены ў Беласток. Маёмасць іх была канфіскавана і прадана на ліцытацыі.

## 8. УПАДАК ПАЎСТАННЯ.

Кіраўніцтва «белых» прывяло паўстанне да ўпадку. Каб ратаваць паўстанне, Каліноўскі прыехаў у Вільню і ўзяў на сябе кіраўніцтва паўстаннем.

Каліноўскі падрыхтаваў глыбока прадуманы план аграрнай рэвалюцыі. Ён навязаў сувязь з польскімі і рускімі рэвалюцыянерамі з мэтай падняцця сялян на барацьбу на Беларусі, у Польшчы і Расіі. Арышт і гераічная смерць Каліноўскага былі апошняй хвілінай паўстання. Паўстанне было задушана.

Паўстанне мела вялікае значэнне ў развіцці польска-беларускага нацыянальна-вызва-

ленчага руху. Яно пахіснула яшчэ больш феадальныя асновы грамадства і прымусіла царызм пайсці на карысныя для сялян уступкі. У выніку паўстання быў прыспешаны выкуп сялянскай зямлі. Сяляне атрымалі права пасвіць быдла ў панскім лесе, збіраць галлё, грыбы і ягады.

Паўстанне ўзбудзіла ў народзе дух бунту. Ён рос і мацнеў, пакуль не выліўся ў сапраўдную свабоду, дадзеную беларускаму народу Кастрычніцкай Рэвалюцыяй. **В. Склубоўскі**

---

**Рышард Красько**

# З ГІСТОРЫІ БЕЛЬСКА

**Цяжка меркаваць аб часе ўзнікнення першых паселішч на тэрыторыі сучаснага Бельска. Вучоныя сцвярджаюць, што тут жылі людзі ўжо на пераломе XII і XIII стагоддзяў. Дакладнейшыя археалагічныя доследы, а трэба меркаваць, што ў нядоўгім часе яны будуць праведзены, магчыма зменяць гэты час на стагоддзе ці два, таму што цяжка думаць, каб гарадзішчы такога тыпу, як Бельск, узнікалі самі па сабе на пустым месцы.**

**Паводле дадзеных старых рускіх метрык заснавальнікам Бельска, прыкладна каля 1038 года быў Вялікі Кіеўскі князь Яраслаў II-гі, якога празвалі Мудрым.**

**Падзеі гарадзішча над ракой Белай цесна звязваюцца з падзеямі акружаючых яго вёсак і гарадоў. Да нашэсця татараў у 1238 г. Бельск належаў прыкладна да Мазоўша, надобна як і Драгічын, дзе ў 1237 годзе Канрад Мазавецкі асадзіў братоў Дабжынскіх. Пасля нашэсця і знішчэння гэтых зямель татарамі, укрочыў сюды Даніель Раманавіч Галіцкі, той самы, які падлажыў фундаменты пад магутную ў той час ва ўсходняй Еўропе дзяржаву — Галіцка-Валынскае княства.**

**У канцы XIII стагоддзя на паўночным усходзе вырастае магутны канкурэнт гэтых зямель, а менавіта — Літва. У 1320 годзе ўжо цэлае Падляшша належыць да Літвы, а тэрыторыя, якую займае сучасны Бельск, становіцца ўласнасцю Літвы ўжо ў 1280 годзе.**

**Якое значэнне меў у той перыяд Бельск і чаму абавязаны ён сваім узнікненнем і развіццём? Узнік, прыкладна, як гарадзішча з мэтай абароны ад яцвягаў гандлёвага шляху, які злучаў Русь з Мазоўшам. Шлях гэты праходзіў ля Буга. Апрача сухапутнага, быў шлях водны, у сувязі з тым, што Буг быў сплаўным амаль на ўсёй даўжыні. Паступова ў гарадзішчы пачынае развівацца гандаль. Тут можна было купіць вырабы мясцовых рамеснікаў, прадаць лясныя прадукты: скуры, воск, мёд, смалу.**

**З цягам часу між Драгічынам і Гроднам узнік гандлёвы шлях, які праходзіў праз Бельск, Нарву, Крынкі. Побач праходзіў іншы шлях, які злучаў Брэст з тэрыторыяй Прусіі. Праходзіў ён праз Бельск, Бранск, Тыкоцін, Гонёндз. Яшчэ іншая дарога спалучыла Бельск, Ломжу, Кольна і, дзякуючы разгаліненню ў Нуры, вяла да Пултуска і Познані.**

**З вышэй сказанага вынікае, што Бельск з цягам часу стаў важным вузлавым камунікацыйным пунктам. Гэтым шляхам купцы перавозілі тавары з адлеглай Русі да Чорнага і Балтыйскага пабярэжжа і наадварот. Сюдою таксама праходзіў вялікі гандлёвы шлях, які злучаў Чырвоную Русь з Літвой.**

**Адначасова вакол Бельска ўзнікае ўсё больш і больш вёсак, невялікіх мястэчак, развіваецца земляробства. Уладальнікі Бельска сцягаюць сюды рамеснікаў і купцоў. У сувязі з гэтым побач абароннага гарадзішча растуць гандлёвыя паселішчы.**

**Першапачаткова Бельск ляжаў на левым беразе Белай. Сюдою праходзіла дарога з Драгічына. Астаткамі гэтай дарогі з'яўляецца Старое Места (вуліца Пушкіна і Замкавая). Было тут, аднак, вельмі цесна для развіцця паселішча, у сувязі з гэтым амаль адначасова ўзнікае другая дарога, якая праходзіла сучаснай вуліцай Міцкевіча. Тут таксама быў створаны другі рынак.**

**Паступова растучае паселішча ў 1430 годзе атрымоўвае гарадское права і зямельны прыдзел у колькасці 371 валокі. На гэтай зямлі ўзніклі чыншавыя вёскі: Аўгустова, Косцін, Станіслававa, Пятркова і Спічкі. Даходы з гэтых вёсак былі ўласнасцю горада, а жыхары вёсак абавязаны былі да розных паслуг у горадзе, між іншым, да ўпарадкавання вуліц, работы пры замку, давання падвод.**

**Найбольшы росквіт Бельска прыпадае на XVI стагоддзе. Паводле даных з 1570 года Бельск разам з акраінамі налічваў 5000 жыхароў, з чаго 4000 — жыхары горада. З гэтага вынікае, што быў ён адным з найбольшых гарадоў Літоўскага Княства, большым ад Драгічына, і толькі Вільня перавышала яго колькасцю жыхароў. Паводле даных, было тут 606 жылых дамоў, пераважна драўляных.**

**Чым займаліся жыхары Бельска?**

**І на гэтае пытанне можна знай-**



**Стары Бельск.**

Фота — **Ул. Юзвюк**



Новыя адміністрацыйныя будынкі ў Бельску.
Фота — Ул. Юзвюк

сці адказ у дакументах. Былі тут, напрыклад, 232 рамеснікі, з чаго амаль палова займалася гарбарствам (119). Толькі невялікі працэнт выгарбаваных у Бельску скур прызначаўся на мясцовы выраб абутку, кажухоў і г.д. Сведчыць аб гэтым невялікая колькасць шаўцоў, краўцоў і рымароў. Адсюль вывад, што Бельск у XVI стагоддзі быў перш за ўсё асяроддзем гарбароў. Тут адбываўся выраб скур, футраў, прывезеных з далёкіх гарадоў Літвы і Русі, а пасля апрацоўкі прадавалася ўсё гэта на рынку Познані.

У Бельску пражывала 11 кавалёў, якія займаліся выключна падкоўваннем коней і вазоў праязджаючых праз Бельск купцоў. Жалеза не прыходзілася шукаць далёка, у суседстве было шмат прымітыўных металургічных печаў, якія выплаўлялі жалеза з дарновай руды. Падобныя печы працавалі яшчэ доўгі час, амаль да XVIII стагоддзя. Значна пазней, калі пачалі выплаўляць жалеза новым спосабам пры ўжыванні каменнага вугалю, выраб



Ратуша ў Бельску.
Фота — Ул. Юзвюк



жалеза з нізкапрацэнтных руд у дымных печах не аплачваўся.

Аб шматлікіх купецкіх заездах сведчыць колькасць карчом, піўных, гарэлачных, якія спаўнялі ролю пастаялых двароў. Было іх у Бельску ў 1570 годзе аж 66.

Найбольш у Бельску было купцоў. Большасць з іх — гэта дробныя крамары, пасрэднікі, якія даходзілі да суседніх мястэчак і вёсак на таргі і кірмашы. Але былі ў Бельску і прадстаўнікі вышэйшых слаёў насельніцтва. І ў сучасны момант захаваліся прозвішчы ад старых слаўных родаў: Сквара, Сегеневічы, Мялешка, Гаёўнік, Азаровіч, Тышкевіч, Кошыц, Паповіч.

Найбольш вядомым, знатным родам быў род Сегяневічаў. Невядома, калі яны прыбылі ў Бельск, але вядома, што павінны былі тут жыць ужо ў часы князя Вітаўта. Быў гэта знатны, вялікі род, які не толькі займаўся гандлем, але патрапіў шукаць працу ў іншых прафесіях, напрыклад Пафнуцы Сегень быў першым архімадрытам новага касцёла ў Супраслі (1500 год).

Найбольш вядомымі прадстаўнікамі гэтай сям'і былі Іван і Фэдка. Першы быў дзяржаўцам права на выраб смалы, клепак і паташу ва ўсіх вялікіх пушчах Мікалая Радзівіла, Хадкевіча і Паўла Сапегі. Незалежна ад гэтага вёў гандаль воскам, хмелем, сукном. Меў вялікі штаб служачых і нявольнікаў.

Фэдка Сегяневіч гандляваў перш за ўсё дарагімі футрамі, купленымі на рынках Полацка, Вільна, Смаленска, якія вывозіў пасля ў Познань, Гданск, а там набываў пасля дарагія сукны, брыльянты, прыправы да гатавання, прывезеныя з далёкай Індыі, Афрыкі, Азіі. Аб яго багацці сведчыць той факт, што імкнуўся за свае сродкі купіць з рук Яна Радзівіла Бельскае ваяводства. Але пазней справу набыцця гэтага ваяводства перадаў у рукі Гарадской Рады, назычаючы 450



Уступныя экзамены ў Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі у Бельску
Фота — Ул. Юзвюк

коп грошай літоўскіх. Сам Фэдка закупіў за 600 коп грошай два вялікія зямельныя маёнткі: Шумкі і Гаўрылавічы.

Хутка Сегяневічы змянілі стан, атрымаўшы шляхецкі прывілей, і ад гэтага часу іх прозвішча сустракаецца толькі ў земскіх актах бельскай шляхты.

На аснове вышэй сказанага, можна меркаваць, якім горадам у XVI стагоддзі быў Бельск, як далёка ўздзейнічалі ўплывы яго жыхароў і якое значэнне меў гэты горад для Падляшша.

Хаця з фармальнага боку ад 1520 г. сталіцай Падляшскага ваяводства быў Драгічын, то сапраўднай сталіцай быў і застаўся надоўга Бельск.

Да часу далучэння Падляшша да Польскага Каралеўства, г. зн. да 1569 года, у Бельску вельмі часта адбываліся літоўскія сеймы. У час аднаго з такіх сеймаў, у 1563 г. згарэў бельскі замак ад перуна, які трапіў у высокую башню. Ад гэтага часу замка ў Бельску не стала.

XVII стагоддзе — нашэсце шведаў — прынесла гораду поўнае спусташэнне. Аднак аб гэтым будзе гутарка пазней... А цяпер некалькі слоў аб Іване Тышкевічу, адным з найбольш праслаўленых людзей з роду Тышкевічаў, які быў ар'янінам і які пасля смерці бацькі стаў уладальнікам вялікага маёнтку. Маёнтак гэты і стаўся прычынай наступных сумных падзей. Бельскі бурмістр, ведаючы, што Тышкевіч з'яўляецца ар'янінам, прыдзяліў яму адказную функцыю гарадскога эканома, дамагаючыся адначасова прысягі на крыжы, што функцыю сваю будзе выконваць справядліва, без прысвойвання сабе чужога дабра. Такой прысягі Тышкевіч не мог злажыць, таму што ар'яне не прызнавалі крыжа. Гэта выкарыстаў Рушыц, абвінавачваючы Тышкевіча ў зняваze крыжа і блюзнерстве. Пасля



Падрыхтоўка да адказу на ўступных экзаменах у Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску.

Фота — Ул. Юзвюк



доўгага суду Тышкевіч загінуў на варшаўскім рынку. Кат адсёк яму руку і вырваў язык, цела пасечанага было спалена ў агні. Быў гэта адзін з тых рэдкіх выпадкаў у Польшчы (і часта спатыканых у Еўропе), калі чалавек аддаваў жыццё за свае погляды. Вось чаму аб Тышкевічу часта ўспаміналі ў XVII ст., яшчэ і сёння прозвішча гэта вядома ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй Польшчы.

Шведская вайна была сапраўдным крахам для Падляшша. Загінула 60% насельніцтва. Бельск амаль поўнасцю быў знішчаны.

Ён гарэў некалькі разоў, у выніку чаго засталося ў ім толькі 55 жылых дамоў. Паводле статыстыкі гісторыкаў у 1661 г. Бельск налічваў каля 300 жыхароў.

З такога ўпадку Бельск не падняўся ўжо ніколі. Паступова ён адбудоўваўся, але горад ужо ніколі не меў такога значэння, як даўней. У XVIII ст. выраслі на Падляшшы новыя гарады, а сярод іх у першую чаргу Беласток, Сельцы, Сямяцічы, у сувязі з чым Бельск астаўся неяк у баку. Новы шлях, спалучаючы Варшаву і Вільна, бег цяпер праз Жаўткі, а стары бельскі быў занядбаны. Адзінай квітнеючай часткай Бельска быў Галавеск. Тут быў палац Браніцкіх і фальварак, тут адбываліся з'езды, канферэнцыі, вайсковыя парады.

У II палавіне XVIII стагоддзя мястэчка было ўласнасцю Ізабелы Браніцкай, удавы па вялікім каронным гетмане Яне Браніцкім, рэзідэнцыяй якога быў Беласток. Браніцкая вырашыла ўпарадкаваць Бельск. З гэтай мэтай прыслала туды свайго паверанага Міхала Стажэнскага, які ў сваім дзённіку пісаў:

«У горадзе не было ні касцёла, ні ратушы, вуліцы не выбрукаваны. Лёс Бельска падобны да лёсу шматлікіх польскіх гарадоў... сейм паклікаў парадкавыя камісіі ў цэлай дзяржаве... У Бельску выбраны новыя радныя, распачата работа над упарадкаваннем горада, выбудавана гарадская школа, выбрукавана вуліца, пабудаваны масты, помпы. Графіня Браніцкая дала цэглу, а кароль — дрэва на пабудову будынкаў. Пабудаваны касцёл, ратуша, крамы, школа».

Між іншым, аўтар дзённіка ўпамінае аб сялянскіх бунтах, якія выбухалі ў Бельскім старостве. Стажэнскі сцвярджае, што падбухторвалі сялян да бунту звольненыя члены гарадской рады, вядома аднак, што ва уладаннях Браніцкай панаваў нялюдскі прыгнёт. Ужо ў 1820 годзе сам Браніцкі жорстка расправіўся з паўстанцамі. У часе паўстання загінуў сялянскі кіраўнік, Іван Бурак.

Адбудова Бельска не прынесла большай карысці, таму што ўжо пасля III падзелу Польшчы Бельск знайшоўся пад уладай прусакоў. У сувязі з гэтым утраціў сувязь з Варшавай і з іншымі тэрыторыямі, з якімі ўтрымліваў гандлёвыя адносіны. Стан такі не існаваў доўга (да 1807 г.), але прымусіў некаторых жыхароў Бельска пакінуць горад.

Аб тым, які быў выгляд тагачаснага горада і яго жыхароў, даведваемся з дзённіка Роха Сікорскага («Лыкі» і «Каўтуны»), які быў бельскім мешчанінам і жыў тут у канцы XVIII і на пачатку XIX стагоддзя. Аўтар быў бурмістрам мястэчка, многа падарожнічаў, вучыў сваіх і чужых дзяцей, арганізоўваў школы. Несумненна, дзённік з'яўляецца цікавым гістарычным дакументам, з якім чытач павінен пазнаёміцца.

У XIX стагоддзі бельскія купцы ў асноўным гандлявалі кажухамі, шытымі мясцовымі кажушнікамі, скуплялі таксама хмель і пяньку і ўсё гэта прадавалі ў Варшаве разам з вазамі і коньмі, таму што транспарт пустых фурманак не аплачваўся.

Гандаль даваў бельскім купцам невялікі даход, нічым не напамінаючы даходаў XVI стагоддзя.

У канцы XIX ст. наступае паступовае ажыўленне горада ў сувязі з пабудовай чыгункі Кіеў — Крулевец (праз Брэст — Бельск — Беласток — Граева). Насельніцтва Бельска расце вельмі хутка, у 1878 годзе пражывае тут ужо 5 810 асоб, у 1897 годзе 7 815 асоб і 1 052 асобы войска.

Пабудова чыгункі не прынесла Бельску чаканых вынікаў. Усё большае і большае значэнне маюць іншыя гарады, а ў першую чаргу Беласток. Для прыкладу прыводзім некалькі лічб: у 1807 г. насельніцтва Беластока налічвала 4 145 асоб у 1897 — 66 032 асобы, а ў 1910 годзе — 80 303 асобы. Нават развіццё ткацкай прамысловасці не закранула Бельска; у 1860 годзе было тут толькі 5 невялікіх ткацкіх прадпрыемстваў. У 1897 годзе лік іх узрастае да 23. Аб велічыні гэтых прадпрыемстваў сведчыць такі прыклад. Створаная ў 1897 годзе фабрыка трыкатажу М. Н. Браўда мела толькі адзін матор сілай 15 КМ, гуртавала яна толькі 22 работнікаў, агульная прадукцыйная вартасць гэтага прадпрыемства не перавышала 6000 рублёў у год. У той жа час Беласток без (Дайлід, Антанюка, Скаруп, Выгоды) меў 81 тэкстыльную фабрыку, у якіх працавала 2 608 рабочых на адну змену. Нават у Цехановцы былі 24 невялічкія тэкстыльныя фабрыкі, вырабляючыя прадукцыю на 230 000 рубл. у год.

У часе І-ай сусветнай вайны насельніцтва часткова пакінула Бельск, выязджаючы на Усход. У міжваенны перыяд Бельск быў сталіцаў найбольшага ў Польшчы павета, аднак ніякай карысці з гэтага Бельску не было. Далей не развівалася прамысловасць, слаба развіваўся мясцовы гандаль.

Побач Бельска паступова разрасталася і ўзмацнялася Гайнаўка, якая з невялічкай вёскі на працягу кароткага часу стала буйным прамысловым цэнтрам, які прыцягваў працаўнікоў не толькі Гайнаўскага павета, але і Бельскага.

У Гайнаўцы вельмі часта даходзіла да сутычкі паміж рабочымі і паліцыяй. Тут расла і мацнела ідэя барацьбы з паўстаўшым і выспяваўшым капіталізмам. На тэрыторыі Бельскага і Гайнаўскага паветаў працавала лявіцовая беларуская сялянская арганізацыя «Грамада», якая перайшла на падпольную работу ў 1927 годзе. З'езд гэтай арганізацыі павінен быў адбыцца ў 1926 годзе ў Бельску, але ў сувязі з перашкодамі, якія ставілі мясцовыя ўлады, з'езд быў перакладзены на пазнейшы тэрмін і адбыўся ў Старым Беразове.

Справы гэтая аднак выходзяць за межы данага артыкула.

ІІ-ая сусветная вайна прынесла Бельску новае спусташэнне і разгром. Згарэла шмат дамоў, загінула многа людзей.

Сённяшні Бельск налічвае 10 000 жыхароў (паводле статыстычных даных з 1956 г. — 9 200). Сучасны Бельскі павет значна меншы. (На яго даўнейшай тэрыторыі паўстаў Гайнаўскі і Сямяцічкі паветы). Развіваецца тут прамысловасць, якая абапіраецца на мясцовых сельскагаспадарчых прадуктах: лён, дрэва, малако. Ёсць у Бельску рашарня, фабрыка мэблі, малачарня.

Пасля вайны пабудавана тут шмат новых жылых дамоў, новая вялікая бальніца, Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання, Педагагічны ліцэй. Нягледзячы на адбудову, горад і ў далейшым спаўняе ролю адміністрацыйнага цэнтра. Не змянілася ўнутраная структура пабудовы горада, захавалася старое налажэнне вуліц. Захаваліся ў Бельску такія помнікі старыны, як Замкавая гара, ратуша з XVIII стагоддзя, парафіяльны касцёл, пабудаваны ў 1796 годзе, кармяліцкі касцёл і клаштар, тры драўляныя царквы, якія з'яўляюцца класічным прыкладам характэрных для Падляшша драўляных будынкаў. Неабходна таксама звярнуць увагу на шэраг дамоў пры рынку, а перш за ўсё на дом у канцы вуліцы Сянкевіча, які сваім выглядам нагадвае старыя дамы пры рынку.

Толькі гэта і засталося ад помнікаў старыны даўняга Бельска, але чытач не павінен здзіўляцца, прасачыўшы невялічкую бурлівую гісторыю апісаных вышэй падзей аднаго са старэйшых гарадоў Падляшша.



Г. Анацік

# У адной вёсцы

(Успаміны)

1922 год быў асабліва цяжкім для жыхароў нашай вёскі. Выгнаныя І-ай сусветнай вайной, людзі вярталіся дадому. Згарэўшая ў час вайны вёска з трудом прыгарнула былых бежанцаў. Людзі гняздзіліся, як маглі, у свірнах, ляпянках і маленькіх хатках, якія ўцалелі пасля вайны.

Зямля ляжала адлогам, упарта чакаючы сваіх гаспадароў, дзені-дзе шумеў малады лес.

Людзі спадзяваліся лепшых часоў, вайна закончылася, былі ж зноў у сябе дома, вярнуліся. Успамінам не было канца. Сябры, спаткаўшыся пасля доўгай разлукі, дзяліліся думкамі, разважалі. Паднімала голас маладое пакаленне, якое вырасла ў гады вайны, далёка ад радзімы, неспакойнае, агорнутае духам рэвалюцыі.

Жыццё шпарка ішло наперад. Замітусіліся сяляне, кінуліся ў пошуках якога-небудзь заробку. Прабавалі знайсці працу ў пушчы, ці ў недалёкім Бельску. Аралі адлогі, карчавалі загоны, хадзілі па грыбы, вазілі ў Бельск дровы, з тугой і нецярплівасцю чакалі першых збораў бульбы і збожжа. Зямля была адзіным сродкам існавання. Атрымаць працу ў горадзе было немагчыма. У капіталістычнай Польшчы было масавае беспрацоўе. Толькі час-ад-часу траплялася кароткатэрміновая праца пры рамонце чыгункі, ці пабудове мосту.

У такіх умовах у нашай вёсцы паўстала ячэйка КПЗБ у складзе чатырох чалавек. Ініцыятарам і сакратаром ячэйкі быў Алёша, зусім яшчэ малады хлопец. Сям'я Алёшы вярнулася з Расіі ў 1921 годзе. Была шматлікая. Маці даўно памерла, а бацька быў стары. Усе іх будынкі згарэлі, жылі ў далёкіх сваякоў, жылі, як усе ў вёсцы, бедна. Алёша быў чалавекам адукаваным. У сувязі з гэтым меў вялікі ўплыў на іншых. Чытаў газеты і пазычаў іншым. Бываў у Бельску, меў там сваіх знаёмых. Снуў планы выезду ў Францыю, але найчасцей вяртаўся думкамі да по-

быту ў Расіі. Сквапна збіраў весткі аб Савецкім Саюзе і, зразумела, пераказваў іх іншым. На пытанне, чаму не застаўся ў Расіі, адказваў: «Рамантызм, таварышы, пракляты рамантызм!» У штодзённым жыцці Алёша быў мала зарадным, да гаспадаркі не меў ніякай ахвоты. Але любіў чыстату і парадак.

І вось гэты Алёша арганізаваў у нашай вёсцы ячэйку, да якой спачатку ўцягнуў Сцяпана.

Сцяпан быў наймалодшым сярод членаў ячэйкі. У час бежанства навучыўся рахункаводству. І нават, як часта расказваў, працаваў рахункаводам у вялікім рэстаране Харкава. Знаў шматлікія назвы він, чым звычайна выклікаў захапленне ў слухачоўаднавяскоўцаў.

Адрозніваўся ад іншых таварышаў нейкай прыроднай інтэлігенцыяй. Быў цікавым, прыгожым хлопцам, падабаўся дзяўчатам. Сцяпан марыў аб лепшым, дастатнейшым жыцці. Хацеў атрымаць якую - небудзь пасаду ў Бельску. Дабіўся гэтага значна пазней, атрымаў пасаду ў канцылярыі кааператыва ў Бельску.

Трэцім і найстарэйшым членам ячэйкі быў Ульян. Звалі яго дзядзькам Ульянам, інакш не выпадала. Чалавек сярэдняга ўзросту са светлымі вачыма, вясковы прайдоха і жартаўнік. Усе яго зналі, усюды паспяваў пабываць, яго заўсёды суправаджаў смех. Быў бяздзетным. Жонка трымала яго ў руках. Працаваў то на чыгунцы, то пры пабудове мосту. Малая гаспадарка амаль не прыносіла даходу.

Дзядзька Ульян любіў знаходзіцца сярод людзей, працаваць у калектыве, дзе была магчымасць пажартаваць, паслухаць песень. Быў сапраўдным мастаком па лаянцы. Не было чалавека, які б мог яго перапсорыць.

Праца пры пабудове мосту. Пятнаццаць чалавек цягнуць уверх жалезную «бабу», напружваюцца вяроўкі, скрыпіць блок. Дасягнуўшы адпаведнай вышыні, «баба» са свістам ападае на паль, і зноў вяроўкі напружваюцца, зноў скрыпіць блок. Як жа не спяваць пры такой працы. Дзядзька Ульян ахвотна зацягваў. Ён нават патрапіў сам складаць новыя сакавітыя частушкі. Бадзёры смех нёсся над чыстай гладдзю ракі.

У палітыцы дзядзька Ульян не зусім добра разбіраўся. Любіў паслухаць разважанні адукаваных людзей.

Раніцай у нядзельку хата дзядзькі Ульяна ператваралася ў цырульню, а дзядзька Ульян выступаў у ролі заўзятага цырульніка. Брыў з азартам, скроб брытвай так, што не аднаму слёзы з вачэй капалі.

— Гатовы, — казаў, — калі кліент быў падобны да рэзанага парсюка. Ідзі да крыпы абмыйся.

Такім быў трэці член ячэйкі. Алёша казаў, што над ім трэба многа працаваць.



Чацвёртым быў таварыш Мірон, чалавек пажылы, год каля сарака, высокага росту, худы. Мірон быў чалавекам бывалым, многа чуў і бачыў. У час бежанства быў паштальёнам. Любіў моладзь. Меў дар таварыць вершам, быў імправізатарам. Часта прыспеўваў да гаспадыні:

Гаспадыня хай жыве,
Многа лет хай мае.
Яе дзеці хай жывуць,
Многа лет хай маюць,
Яе ўнукі хай жывуць... і г.д. Многае лета!

А калі гаспадыня прыносіла закуску, жартаваў далей. Калі ж замест закускі сустракала яго пагроза ўжыцця мятлы, не крыўдзіўся. У вёсцы любілі яго, а асабліва моладзь, любілі за вясёлы характар, за зграбныя жарты. Там, дзе з'яўлялася патрэба арганізаваць штосьці да смеху, Мірон быў адзіным і незаступным.

Палітычныя справы любіў абмяркоўваць канкрэтна, любіў гаварыць, аб тым, што было і што яшчэ будзе. Крытыкаваў сучаснасць, разумеў яе як нешта часовае, што пераміне, як ліхі сон. Такім быў чацвёрты член нашай ячэйкі.

* * *

Ячэйка ўтрымлівала цесную сувязь з Бельскам, з таварышамі Гіжэўскім, Радзіцкім. Алёша часта бываў у Орлі, у Беластоку. Інфармаваў таварышаў аб выніках партыйных нарад, даваў заданні членам ячэйкі.

Заданнем ячэйкі, перш за ўсё, была агітацыя мясцовага насельніцтва. Таварышы гаварылі аб нетрываласці капіталістычнай улады, заклікалі да байкатавання падаткаў, распаўсюджвалі лістоўкі КПЗБ.

1 мая 1925 года. На прыдарожнай вярбе красуецца чырвоны сцяг з лозунгамі: «Няхай жыве рабоча - сялянская ўлада! Далоў капіталістычны ўрад!» Заданне, даручанае ячэйкай, выканаў Сцяпан. Світала, калі межамі вяртаўся ў вёску, ганарыўся тым, што зрабіў, хаця і баяўся трошкі.

У жніўні 1925 года на ячэйку зваліласяа няшчасце. Паліцыя арыштавала Івана Горскага з суседняй вёскі Стрыкі, члена К.О. (Пазней аказалася, што ён быў правакатарам). На наступны дзень арыштавалі Алёшу, пасля Сцяпана, Мірона, Ульяна. Усіх павезлі ў Орлю. Тут былі ўжо таварышы Гіжэўскі, Радзіцкі і шмат іншых. На падлозе ляжаў моцна збіты, акрываўлены, у парваным адзенні Алёша. Калі ўбачыў Сцяпана, ледзь прахрыпеў: «Глядзі, што са мной зрабілі, гадзіны!»

Арыштаваных дапытвала «дэфа», бязлітасна катуючы.

Пасля допыту ў Орлі, арыштаваных прывезлі ў Бельск і часова змясцілі ў шпітальнай трупярні з мэтай выканання неабходных фармальнасцей: здымкаў, адбіткаў пальцаў і г.д., пасля ча-

го кожны з арыштаваных быў скіраваны на індывідуальны допыт да следчага. З Бельска ўсіх скіравалі ў беластоцкую турму. Тут усіх памясцілі ў камерах па 4 асобы. Спачатку ўмовы прабывання ў турме былі вельмі цяжкімі: холад, голад, ніякіх вестак, ніякіх пісем.

Была восень, калі збітых і змучаных таварышаў перавялі ў адну вялікую камеру нумар 30. Найгоршае мінула. Палепшыліся бытавыя ўмовы. Памяшканне было вялікае, сухое і цёплае. Людзей сабралася шмат, каля 30 асоб, старэйшыя і маладыя, знаёмыя і незнаёмыя. Былі таварышы з Міхалова, Гарадка, Валіл, Крынак і іншых мясцовасцей. Можна было пачуць такія прозвішчы, як Майсак, Грыцук, Грэсь, Юравец, Мушынскі, Серада і інш. Пераважалі беларусы, былі аднак і палякі. І вось сярод гэтых людзей знайшлася чацвёрка ужо вядомых чытачу нашых таварышаў.

Пасля цяжкіх прыгод таварышы лягчэй уздыхнулі, з часам дайшлі да фізічнай і маральнай нормы. З першымі прыбыўшымі з волі пасылкамі паправіліся настроі, паступова зноў радзіліся жарты.

Дзядзька Ульян знайшоўся ў сваёй стыхіі: столькі людзей, усе маюць час, усе сядзяць і нікуды не могуць разыйсціся. Наш дзядзька пачаў жартаваць, асмялеў. Усё, што рабіў або гаварыў дзядзька Ульян, усім здавалася вельмі камічным.

Мірон таксама пачаў вастрыць, імправізаваць, але спаткаў сапраўднага саперніка ў асобе тав. Юраўца, які аказаўся ў гэтай справе не горшым мастаком, чым Мірон.

Утварыліся 2 групы: група Мірона і група Юраўца. Адбылася заўзятая слоўная барацьба, у якой заўсёды перамагаў Юравец. Ён сам складаў вершы, арганізоўваў харавыя дэкламацыі, сыпаў жартамі. Паэзія яго была сатырычнага зместу, але вясёлая.

Тут нарадзілася яго вялікая паэма аб жыцці беларускіх сялян у панскай Польшчы, напісаная мовай, якая ўяўляла своеасаблівае славянскае эсперанта — гэта была мяшанка беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх і мясцовых, зразумелых невялічкай групе людзей, слоў.

Вось прыклад паэзіі Юраўца:

«Вярнуліся мы дадому,<br>
На айчынны наш пясок,<br>
Збудавалі сабе хаты<br>
Ні то з жордак, ні з дасок...»

І прыпеў: Брава, брава, брава, біс,<br>
Брава, солтыс наш Дзяніс.

Прыпеў паўтаралі ўсе хорам, так, як прапанаваў Юравец. Вершы Юраўца ўсім вельмі падабаліся, харавая дэкламацыя ўвайшла ў звычай, а прыпеў быў сапраўдным «турэмным гімнам».



Дзядзька Ульян так расхадзіўся, што амаль перастаў шкадаваць, што папаў у астрог. Жарты не захаплялі толькі Алёшу, быў ён сур'ёзным і маўклівым, бо разумеў іх становішча значна глыбей, чым дзядзька Ульян. Па арлянскіх прыгодах толькі што прыходзіў да нормы.

Жарты жартамі, але былі і сур'ёзныя размовы. Шмат гаварылася аб цяжкім становішчы сялян, аб падатках, аб палітыцы.

Пасля паўтара года турмы Сцяпана, Мірона і дзядзьку Ульяна выпусцілі.

Алёша быў асуджаны на тры гады астрога. Сядзеў у Беластоку.

## АД РЭДАКЦЫІ:

**Гэты матэрыял з'яўляецца дакументам, які ў яркіх і вобразных прыкладах ілюструе стан беларускай асветы ў гады санацыі, адначасова паказвае барацьбу беларускага насельніцтва за права навучання дзяцей на роднай мове, раскрывае кіруючую ролю тагачасных культурна-асветных арганізацый, якімі былі Таварыства беларускай школы і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры.**

**Дакумент беражна перахоўваўся былым дзеячом «Грамады» і членам ТБШ — Пятром Ластаўкай, які ў 1957 годзе перадаў яго Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству. У бягучым годзе стварылася магчымасць пазнаёміць з даным матэрыялам шырэйшы круг чытачоў.**

Да п. Прэзэса Рады міністраў<br>
Рэчы Паспалітай Польскай

Копія для п. Міністра рэлігійнага веравызнання і грамадскай адукацыі

Таварыства беларускай школы ў Вільні,<br>
вуліца Крулеўская 3, кв. 8,<br>
і Беларускага інстытута гаспадаркі<br>
і культуры, Вільня, вуліца Завальная, 1 кв. 1.

# МЕМАРЫЯЛ

### У справе беларускіх школ і пазашкольнай асветы

Беручы пад увагу права кожнага народа на карыстанне і захаванне сваёй айчыннай мовы і культуры, шанаванага ў шматлікіх трактатах міжнароднага характару і загарантаванага Кан-

стытуцыяй Рэчы Паспалітай Польскай, беручы таксама пад увагу вымаганні педагогікі, якія прадугледжваюць навучанне дзяцей на роднай мове, імкнучыся павысіць маральны і культурны ўзровень беларускага насельніцтва, вышэй падпісаныя арганізацыі лічаць неабходным звярнуць увагу п. Прэзэса на занядбаны стан беларускай адукацыі і пазашкольнай асветы на беларускай тэрыторыі, а таксама прад'явіць яму шэраг патрабаванняў у гэтым напрамку.

## 1. СТАН БЕЛАРУСКІХ ПАЧАТКОВЫХ І СЯРЭДНІХ ШКОЛ

Пасля таго, як беларускія землі былі захоплены Польшчай, дзейнічала тут звыш 500 беларускіх школ дзяржаўных і прыватных (К. Саракоўскі, беластоцкі ваявода, у сваёй кнізе п. з. «Sprawa narodowościowa na Kresach Wschodnich», Кракаў,



**П. Ластаўка, А. Паўловіч, Г. Мікалаеўскі — удзельнікі беларускага культурна - асветнага руху ў час санацыі.**

1924 г. падае 350 беларускіх школ). З усіх гэтых школ у 1922 годзе засталося 47, а ў гадах 1923/24 толькі 29. У 1924/25 навучальным годзе і апошнія беларускія школы закрыта.

У сувязі з ліквідацыяй беларускіх школ настаўнікі, якія там працавалі, засталіся без працы. 240 настаўнікаў школьныя ўлады ў 1922 годзе скіравалі на настаўніцкія курсы ў Кракаве, у мэтах падрыхтоўкі іх да працы ў польскіх школах. Пасля заканчэння курсаў настаўнікаў скіравалі да працы ў польскія школы на этнаграфічнай тэрыторыі Польшчы, а тых настаўнікаў, якія змагаліся за родную мову, звольнілі.

Зразумела, што такія адносіны да беларускіх спраў з боку ўлад не садзейнічалі развіццю беларускай асветы. Не маглі далей існаваць беларускія настаўніцкія семінарыі. Былі яны закрыты ў Свіслачы, Ваўкавыскага павета, і Барунах, Ашмянскага павета.

Прычынай ліквідацыі беларускіх школ быў недахоп адпаведных школьных пастаноў, якія б разглядалі справы няпольскіх школ.

У ліпені 1924 г. урад уносіць у сейм праект пастановы аб справах асветы нацыянальных меншасцей. Сейм зацвярджае пастанову з дня 31.VII.1924 г., якая разглядае некаторыя пытанні арганізацыі школ. Як пастанова, так і распараджэнне з дня 7.I.1925 г. былі занядбаны адміністрацыйнымі ўладамі і не далі пажаданых вынікаў, не вырашылі пытання развіцця асветы нацыянальных меншасцей, а ў гэтым выпадку і беларускай асветы.

Факты перашкод і гвалтаў з боку школьнай адміністрацыі і паліцыі ў час масавага ўдзелу беларускага насельніцтва ў справе адкрыцця беларускіх школ на аснове пастановы з дня 31.VII. 1924 г. былі прычынай шматлікіх скарг Таварыства беларускай школы, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага пасольскага клуба, якія толькі ад 28 лістапада 1924 года да 20 кастрычніка 1925 г. злажылі Прэзэсу Рады Міністраў і Міністру грамадскай адукацыі 49 інтэрпеляцый.

Нягледзячы на ўсе перашкоды з боку адміністрацыі, бацькі дзяцей у школьным узросце, у час збору школьных заяў на 1925/26 навучальны год, прад'явілі школьным уладам заявы на 412 камплектаў, г. зн. на 412 беларускіх школ. Да 1928 г. ад беларускага насельніцтва паступіла заяў на 1929 школ.

Паводле дадзеных віленскіх школьных улад, прысланых Таварыству беларускай школы, колькасны стан беларускіх школ і польска - беларускіх на дзень 30.X.1925 г. быў наступны: у Віленскім ваяводстве беларускіх дзяржаўных школ — 11, прыватных — 3, дзяржаўных польска - беларускіх — 18; у ваяводстве Навагрудскім беларускіх дзяржаўных школ — 10, прыватных — 1, польска - беларускіх — 26. У абодвух ваяводствах разам: дзяржаўных беларускіх школ — 21, прыватных — 4, дзяржаўных польска - беларускіх — 44. Агульны лік школ беларускіх і польска - беларускіх прыватных і дзяржаўных выносіў 69, г. зн. 3% агульнага ліку польскіх школ (2164) у гэтых ваяводствах, нягледзячы на тое, што большасць насельніцтва тут — гэта беларусы.

З часам беларускія школы поўнасцю ліквідавалі, называлі іх

беларускімі толькі таму, што праграмы навучання прадугледжвалі 1—2 гадзіны ў тыдні на гутаркі на роднай мове, на якіх гурталіся вучні ўсёй школы.

У школах гэтых навучалі настаўнікі, якія прыязджалі на беларускія землі з далёкай Галіцыі, Кангрэсоўкі, Познаньскага ваяводства, якія не ведалі і не маглі ведаць беларускай мовы.

Такое ж становішча наглядаецца і ў галіне развіцця прыватных беларускіх школ. Заявы ў справе дазволу на арганізаванне беларускіх прыватных школ, якія складала адпаведным уладам Таварыства беларускай школы ў Радашковічах і іншых мясцовасцях, засталіся без адказу. Таварыства беларускай школы ў Радашковічах у 1924 годзе падала заяву школьнаму інспектару ў Слоніме ў справе дазволу арганізацыі 9 прыватных беларускіх школ, але на заявы гэтыя не атрымала адказу. У 1925 г. зноў былі паданы заявы ў Слонімскі інспектарат на 13 школ і ў школьны інспектарат у Валожыне на адну школу, на якія адказ таксама не атрымалі.

Адкрытыя ўсё ж прыватныя беларускія школы былі закрыты, настаўнікі пакараны. Беларускі пасольскі клуб паставіў гэту справу ў сейм.

У выніку заяў, паданых Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры школьным інспектарам 1.X.1926 года ў справе адкрыцця 18 беларускіх школ у 1926/27 навучальным годзе, быў атрыманы дазвол на адкрыццё 5 школ. Адкрыты былі аднак толькі 2 школы ў вёсках Шаўляны, Браслаўскага павета, і ў вёсцы Рудаўка ў Слонімскім павеце. Іншыя не былі адкрыты ў сувязі з тым, што кандыдаты на настаўнікаў, не атрымаўшы палітычнай адукацыі, не маглі працаваць у школе.

Школа ў Шаўлянах, якая працавала на працягу 6 год, была закрыта ў 1932 г. у сувязі з тым, што настаўніца п. Мар'я Булыгова не атрымала палітычнай адукацыі.

Таварыства беларускай школы ў Вільні да 1927 года зложыла адпаведным школьным уладам заяўкі на 109 прыватных школ. Быў атрыманы дазвол толькі на 10 школ. І зноў усе школы не былі адкрыты ў сувязі з незацвярджэннем настаўнікаў.

Такі ж лёс сустрэў і сярэднія беларускія школы. У сучасны момант беларусы не маюць сярэдняй школы з беларускай мовай навучання, апрача беларускага філіялу дзяржаўнай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні. 7 гімназій: у Будславе, Гарадку, Маладзечне, Несвіжы, Гродне, Клецку, Навагрудку і Радашковічах, якія існавалі раней, былі закрыты ўладамі з тых ці іншых прычын.

Намаганні Інстытута гаспадаркі і культуры, распачатыя ў 1928 г. у напрамку адкрыцця Настаўніцкай семінарыі ў Вільні, не прынеслі ніякай карысці.

Вось кароткая гісторыя, інакш кажучы мартэалогія стану беларускіх пачатковых і сярэдніх школ ва ўмовах Рэчы Паспалітай Польскай.

Беручы пад увагу вышэй сказанае, сцверджанне, быццам бы беларусы не цікавяцца справамі сваёй асветы, закранутае, між іншым, у выступленні былога куратара Віленскай школьнай акругі п. Шэлягоўскага ў прысутнасці паслоў і сенатараў у Вільні ў лістападзе 1935 г., не згодна з праўдай.

У сапраўднасці не брак зацікаўленасці асветнымі справамі з боку беларусаў, а беспаспяховасць шматлікіх намаганняў, нявера ў сілу права, былі прычынай часткова аслаблення пасля 1929 г. барацьбы за беларускую школу, не сведчыць гэта аднак аб тым, што беларусы наогул зракліся права на сваю школу.

Для таго, каб паказаць сапраўдныя імкненні беларускага насельніцтва, нашыя арганізацыі пачалі ў гэтым годзе новую акцыю складання заяў на беларускія школы. Дзейнасць гэтая спатыкалася з варожымі адносінамі з боку паліцыі і мясцовых улад.

«Кур'ер віленскі», у нумары 187 з 10 ліпеня 1936 г. апісвае намаганні жыхароў вёскі Есьманаўцы, Маладзечанскага павета, у напрамку адкрыцця беларускай школы. Адначасова сцвярджае, што імкнення да адкрыцця айчынных школ права легальна забараніць беларусам не можа, але імкненням гэтым можа перашкодзіць. Звычайна гэта адбываецца так.

Падпісаныя заявы з патрабаваннем беларускіх школ неабходна недзе пасведчыць. Толькі войт можа зрабіць гэта дарма. Войт аднак ніколі не мае часу, ніколі няма яго дома. Замест войта ў гміне патэнтаў сустракае перадавая паліцыя. А вы чаго? Камунізму вам хочацца? А мандаты карныя ўжо аплацілі?.. Сяляне вяртаюцца дадому. З прадстаўніком паліцыі лепш не сустракацца. — Прыдзем іншым разам.

Школьны сакратарыят, створаны нашымі арганізацыямі, спецыяльна для спраў беларускай школы зазначыў у часе ад 1.III. да 15.X.1936 г. вялікую колькасць фактаў прыдзірак, здзекаў, перашкод, сустрэтых з боку мясцовых улад у час збору заяў у гэтым годзе. Вось яны, найбольш тыповыя:

1. У шматлікіх мясцовасцях паліцыя забрала (непасрэдна з пошты) друкі заяў, высланыя сакратарыятам зацікаўленым асобам. Так было ў вёсках — Карэлічы, Заполле, Устухава гміны Шчорсэ, Навагрудскага павета; у вёсцы Сыцэвічы, гміны Радашковічы, у вёсцы Раеўшчына, гміны Старавейскай, Смаленскага павета.

Камендант пастарунка ў Ляхавічах, Баранавіцкага павета, на пытанне п. Чарнэцкага — жыхара Ляхавіч «ці праўда, што ад беларускага насельніцтва паліцыя забірае школьныя заявы, а калі так, то з чыйго загаду?» — адказаў: «З чыйго загаду не скажу, але маю такі загад і мушу яго выконваць».

2. Бывае так, што паліцыя забірае заявы, праводзячы вобыскі.

Так было ў Беластоку, у вёсцы Тулічава, Пачапоўскай гміны, у вёсцы Заполле, гм. Карэлічы, Наваградскага павета; у вёсцы Маскалі, гм. Орля над Нёманам, пав. Шчучын, у вёсках Канюхі, Зубялевічы, Зярбковічы, Шавалі, гм. Ляхавічы, Баранавіцкага павета, у вёсцы Вераб'евічы, гм. Шчэрскай, Слонімскага павета.

3. Здараліся выпадкі застрашвання, арыштаў, а нават пабояў асоб, якія бралі ўдзел у школьнай акцыі. Так у вёсках Кур'янова і Малашэва ў Дзісненскім павеце паліцыя пагражала сялянам, «што будзе тое, што некалі было з гурткамі».

У мястэчку Карэлічы, Наваградскага павета, і ў вёсцы Казлоўшчына, павет Слонім, пагражалі высяленнем з тэрыторыі гміны. У вёсцы Марцінаўцы, гм. Гудзевічы, павет Гродна, былі арыштаваны 4 асобы. У вёсцы Грыбаўцы гэтай жа гміны паліцыя здзекавалася над 4-ма хлопцамі і 4-ма дзяўчынкамі, арыштаванымі падчас удзелу ў школьнай акцыі. У вёсцы Шавялі, гм. Ляхавічы, Баранавіцкага павета, было арыштавана 5 асоб: Адама і Паўла Лукашоў, Тодара Кумэйшу, Цімафея Сокала і Мікалая Касцюка. Якуб Сокал з вёскі Зубялевічы, Ляхавіцкай гміны, Баранавіцкага павета, быў затрыманы на пастарунку ў Ляхавічах і моцна пабіты паліцыянтам Малецкім.

Вучняў беларускага філіялу Віленскай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні Аляксандра Паўлоўскага, Уладзіміра Булгана арыштавалі і, надзеўшы наручнікі, накіравалі ў арышт на 48 гадзін толькі за тое, што ў час вобыску былі знойдзены друкі заяў і іншых легальных дакументаў. Друкаў школьных і іншай легальнай літаратуры ім не звярнулі. У павеце Стаўбцоўскім у жніўні г.г. за ўдзел у школьнай акцыі арыштавалі і вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер у Картузскай Бярозе Бокута (60 год) з вёскі Дразды і Ліхачэўскага з вёскі Перадкі, Свяржэнскай гміны. Апрача гэтага, здараліся выпадкі арыштавання ў вёсцы Карэлічы і Заполле ў Наваградскім павеце.

Паліцыянт Цішэўскі супольна з камендантам пастарунку мястэчка Пяскі, Ваўкавыскага павета, білі па твары і па нагах Мікалая Рудзяка з вёскі Ніжэва, называючы яго камуністам і пагражаючы карамі і пратаколамі.

У вёсцы Акуньянава, гміны Дзявятковічы, Слонімскага павета, камендант паліцыі здзекваўся над Уладзімірам Вярбіцкім за яго ўдзел у акцыі школьнай. У школьным сакратарыяце захоўваюцца валасы, вырваныя ў Вярбіцкага камендантам паліцыі. Бацькі дзяцей у школьным узросце з вёскі Баравікі і Вячнейкі ў колькасці 65 асоб прыбылі ў гміну ў Жыровічах, пав. Слонім, каб пасведчыць свае подпісы на школьных заявах. Войт не захацеў пасведчыць. Камендант пастарунку п. Лятавец загадаў усім з'явіцца на пастарунак. 7 асоб арыштавалі, рэшту, злаяўшы, адаслалі дадому.

4. Павятовыя ўлады агульнай адміністрацыі накладаюць адміністрацыйныя кары на аснове пастановы з дня 21.II.36 г. і распараджэння з дня 26.IX.35 г. на найбольш актыўных удзельнікаў школьнай акцыі. Такім спосабам Баранавіцкае павятовае староства ўкарала 1.VII.36 г. Янку Чарнэцкага — жыхара Ляхавіч, Якуба Сокала, Янку Куктыша, Міхася — сына Ігната Коктыша, Міхася — сына Янкі Куктыша — жыхароў вёскі Зубялевічы, Баранавіцкага павета, усіх іх аштрафавалі на суму ад 10 да 15 злотых. Жыхары вёскі Вераб'евічы, Чарэмхаўскай гміны, Слонімскага павета, былі пакараны: 3 асобы на 14 дні арышту з заменай на 20 зл. штрафу, 3 асобы на тры дні арышту з заменай на 5 зл. штрафу.

5. Нягледзячы на распараджэнне з дня 7.I.1925 г. войт часта адмаўляўся пасведчыць подпісы, спасылаючыся на асабістыя распараджэнні ўлад арміністрацыі агульнай, пастановы адпаведных муніцыпальных улад, або іншыя абставіны, напрыклад, на нявольскі тэкст заявы. Падобныя выпадкі здарыліся ў Радашковічах, Маладзечанскага павета; Пясках к/Ваўкавыска, Вялікіх Есьмантах, Сакалдзе — Гродзенскага павета, Орлі — Шчучынскага павета, Райцах на Наваградчыне, Забеліне — Ваўкавыскага павета і іншых.

6. Безадказныя адносіны некаторых улад і ўстаноў, якія здзекваюцца, яўна праследваюць беларускую школьную справу, ілюструюць наступныя прыклады: 7 верасня г.г. грамадзянін Філіп Каранюк, прадстаўнік вёскі Баброўнікі, гм. Велька Бераставіца, звярнуўся да натарыуса ў мястэчку Крынкі, Гродзенскага павета, з просьбай сцвердзіць подпісы на школьных заявах. Натарыус адказаў, што можа сцвердзіць пры ўмове, што зацікаўленыя прынясуць пасведчанні, якія б сцвярджалі іх нацыянальную прыналежнасць, пакажуць пашпарты, заплацяць па 3 зл. за кожную заяву, а таксама пакрыюць належнасць за пацвярджэнне подпісаў. Такія ўмовы не былі прадбачаны ані пастановай, ані выканаўчым распараджэннем.

У сувязі з немагчымасцю выканання даных вымаганняў натарыус параіў упаўнаважанаму Каранюку звярнуцца да старостава, сцвярджаючы, што толькі яно можа гэта зрабіць бясплатна.

Гродзенскі стараста ў лісце з дня 20.VIII.1936 г. № Р—4 16, у падліку скарг, паданых нашымі арганізацыямі ў сувязі з гвалтамі, пачыненымі войтамі гміны Вялікія Есьманты і Скотаць арт. 3 пастановы з дня 31.VII.1924 г. і кар. 8 выканаўчага распараджэння з дня 7.I.1925 г. — адказаў, што «гміны або староства не могуць займацца пасведчаннем уласнаручных подпісаў, у іншым выпадку ўваходзілі б у кампетэнцыю натарыусаў».

У сувязі з гэтым Гродзенскае староства, імкнучыся быць справядлівым, не толькі не загадала сваім упаўнаважаным сцвердзіць подпісы на заявах, але само не сцвердзіла подпісаў на просьбу жыхароў Гарадка.

На пошту ў Бытаню недалёка Шчоры была выслана школьным сакратарыятам пачка школьных друкаў для Палікарпа Гарбуна з вёскі Міроніна, Бытаньскай гміны. Замест школьных друкаў адрасат знайшоў у пачцы старыя нумары рускага часопіса «Рускае слова», а таксама творы Маркса і Энгельса на ўкраінскай мове.

На пошце Руда Яворска, павет Слонім, работніца пошты супольна з камендантам пастарунку ў маі бягучага года прымушала Ігната Барташа з вёскі Дворкі да адсылання пачкі друкаў школьных назад і падпісання паквітавання аб непрыняцці пачкі. Калі Барташ не згадзіўся, камендант сканфіскаваў пачку.

У такіх умовах адбывалася ў гэтым годзе школьная вярбоўка дзяцей у беларускія школы.

## ІІ. СПРАВЫ БЕЛАРУСКАЙ ПАЗАШКОЛЬНАЙ АСВЕТЫ

Не лепш выглядаюць справы беларускай пазашкольнай асветы. Беларусы, пражываючыя ў межах Польшчы, маюць свае культурна - асветныя арганізацыі, якія вядуць барацьбу з цемрай і непісьменнасцю, імкнуцца падняць культурны і эканамічны ўзровень жыхароў вёсак і мястэчак. Кожны, хто ў нейкай ступені зацікаўлены беларускімі справамі, можа сцвердзіць, што ніжэй падпісаныя арганізацыі ў галіне культурна - асветнай дзейнасці з'яўляюцца найбольш вядомымі. У сучасны момант аднак дзейнасць арганізацый абмежавана.

Найбольшы росквіт дзейнасці Таварыства беларускай школы прыпадае на 1929 — 30 г.г. Арганізацыя налічвала 500 гурткоў у такіх павятовых акругах, як Баранавічы, Беласток, Вілейка, Гродна, Глыбокае, Ліда, Навагрудак, Мір (на павет Стаўбцоўскі), Касоў, Слонім, Свіслач (Ваўкавыскі павет) і іншыя. ТБШ стварыла больш 250 бібліятэк - чытальняў і звыш 100 народных дамоў, пры чым больш 20 такіх дамоў было ўласнасцю Таварыства.

У гэтым годзе мінае 15-тая гадавіна ўзнікнення ТБШ. За час свайго існавання Галоўнае Праўленне ТБШ зарэгістравала 10.297 членаў, не ўлічваючы тых членаў, якіх зарэгістравалі праўленні аддзелаў.

Пачынаючы ад 1928 года, улады праводзяць масавую ліквідацыю Таварыства. Закрыта 6 акружных аддзелаў і 100 найбольш жывых гурткоў, пры чым у Вілейскім павеце праца Таварыства была поўнасцю забаронена пад пагрозай кары.

Пазней былі ліквідаваны апошнія акружныя праўленні, за выключэннем некаторых гурткоў. Прычыны масавай ліквідацыі тлумачыліся дэзарганізацыяй у фінансах і канцылярыі, парушэннем статуту. У паветах Пастаўскім і Баранавіцкім ліквідацыя гурткоў тлумачылася іх «бяздзейнасцю», а ў шматлікіх выпадках зусім не была падана матывіроўка. Маёмасць ліквідаваных гурткоў у выглядзе кніг, тэатральнага рэпертуару, музычных інструментаў, грошай, актаў і г.д., не перадазана Галоўнаму Праўленню таварыства ў паветах Навагрудскім, Стаўбцоўскім, Слонімскім. Памяшканні перадазаны іншым установам.



У 1934 г. была спынена часова дзейнасць гуртка ў вёсцы Дароні, Падараўскай гміны, Ваўкавыскага павета, а бібліятэка апячатана. У час вобыску ў бібліятэкара Рыгора Навіцкага, правядзенага дня 30.VІІІ.1935 г., былі знойдзены кнігі, звернутыя насельніцтвам бібліятэкару пасля закрыцця бібліятэкі. Паліцыянт Адольф Паўлоўскі, каторы праводзіў вобыск, парваў кнігі, а бібліятэкара моцна патурбаваў.

У вёсцы Каўшова, гм. Скідаль, Гродзенскага павета, пасля ліквідацыі мясцовага гуртка бібліятэка была перадазана не Галоўнаму Праўленню, але школьнай арганізацыі ў Гродне.

Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, які ўзнік у 1926 годзе, за кароткі перыяд, нягледзячы на перашкоды з боку адміністрацыйных улад і паліцыі, стварыў больш 80 гурткоў і 3 аддзелы ў Вільні, Навагрудку, Радашковічах з агульнай колькасцю членаў звыш 1000 асоб.

Пры кожным гуртку была арганізавана бібліятэка-чытальня. Праца гуртка ў вясковым асяроддзі абмяжоўвалася да арганізацыі мастацкіх драматычных гурткоў, канцэртаў, дакладаў і літаратурных вечарын.

У сувязі з перашкодамі з боку мясцовых улад арганізацыя не магла адпаведна развівацца і дзейнічаць.

Скаргі, накіраваныя ваяводскім уладам у справе адмовы мясцовымі павятовымі арганізацыямі рэгістрацыі новых гурткоў і выдавання дазволу на арганізаванне імпрэз, у шматлікіх выпадках былі вырашаны адмоўна, або пакінуты зусім без адказу.

Са шматлікіх фактаў, якія ілюструюць неадпаведныя адносіны да дзейнасці гурткоў Інстытута, прыводзім наступныя: Беластоцкі стараста ў 1935 годзе заявіў беларусам, якія звярнуліся да яго ў мэтах рэгістрацыі пачаткова гуртка ТБШ, а пазней гуртка Інстытута, што «кожную дзейнасць, якую праводзяць беларусы, лічыць небяспечнай». У сувязі з гэтым адмовіўся зарэгістраваць гурток.

У ліпені бягучага года гурток Інстытута ў Задзішках, Віленскага павета, імкнуўся адзначыць 10-годдзе свайго існавання. Павятовы стараста згаджаўся даць дазвол з умовай, што даклад, падрыхтаваны К. Гертовічам, будзе напісаны на польскай мове.

Такія ўмовы не былі прыняты арганізатарамі, стараста не выдаў дазволу, урачыстасць не адбылася. Гэты ж стараста 27.ІХ. 1936 г. не дазволіў гуртку Інстытута ў Задзішках выступаць з беларускай п'есай, і толькі пасля доўгіх клопатаў пастаноўка адбылася 4.Х.1936 года.

Гурток у вёсцы Шальціны, Браслаўскага павета, у апошнія га-

ды не можа атрымаць дазволу на пастаноўку п'есы на беларускай мове ў сувязі з тым, што ўлады, спасылаючыся на пастановы аб бяспечнасці вясковага будаўніцтва, забаранілі выступаць беларусам, хаця польскія пастаноўкі, робленыя польскімі арганізацыямі, адбываліся ў падобных, а часта тых самых умовах.

Справы арганізацыі ў беларускім вясковым асяроддзі тэатральных пастановак або дакладаў, ініцыятарам якіх быў Беларускі акадэмічны саюз, сустракаліся з варожымі адносінамі ўлад паятовай агульнай адміністрацыі.

Вось некалькі навейшых прыкладаў:

12 ліпеня г.г. гродзенскі стараста не дазволіў у вёсцы Альшанка Малая правесці даклад аб значэнні айчыннай мовы. Даклад падрыхтаваў студэнт Вацлаў Пакуцовіч. Прычынай забароны было: «спакой і публічная бяспека».

25 ліпеня г.г. стараста забараніў Саюзу правесці даклад у вёсцы Паладкова на тэму «Беларусь у мінулым і сёння». Матывы тыя ж, што і вышэй.

Гэты ж стараста 14 жніўня г.г. забараніў Саюзу правесці даклад у вёсцы Альшанка Малая, на тэму: «Эканамічныя магчымасці развіцця гаспадаркі на землях Беларусі».

Прычыны забароны наступныя:

а) памяшканне не адпавядае вымаганням бяспечнасці вясковага будаўніцтва;

б) насельніцтва раздзелена палітычна,

в) з увагі на спакой і публічную бяспеку.

Неабходна адзначыць, што да заяў, якія выслаў Беларускі акадэмічны саюз у староства ў справе дазволу арганізацыі даных дакладаў, былі далучаны візы рэктара У.С.Д. і Куратара Саюза.

Такія выпадкі мелі месца і ў іншых паветах, як, напрыклад, у павеце Пружанскім, дзе стараста не дазволіў студэнту п. Засіму зробіць даклад «Аб кааперацыі».

У некаторых паветах Навагрудскага ваяводства і ў паветах Маладзечна, Віленскага ваяводства, адзначаны выпадкі забароны мясцоваму насельніцтву спяваць народныя беларускія песні.

Сустракаюцца выпадкі бяспраўнай канфіскацыі легальных беларускіх гурткоў прадстаўнікамі мясцовай паліцыі.

24 красавіка 1936 года паліцыя забрала ад Яна Лапуха з вёскі Бакуны, Сухапольскай гміны, Пружанскага павета, паэму Якуба Коласа «Новая зямля» і часопіс «Летапіс» — орган Таварыства беларускай школы.

У гміне Сверскай, Пружанскага павета, у засценку Болькішкі камендант паліцыі адабраў ад грамадзяніна Лося малітвеннік на беларускай мове п.з. «Голас душы» і спаліў яго ў печы.

Падобныя факты варожых адносін мясцовых улад да дзейнасці нашых і іншых культурна - асветных арганізацый і наогул да ўсіх праяў беларускай культуры, бяспраўныя іх адносіны з'яўляюцца шматлікімі.



Усе гэтыя факты не могуць трапіць на старонкі беларускага друку ў сувязі з канфіскацыяй і забаронай.

Нягледзячы на перашкоды знешняга характару, нашыя арганізацыі за час свайго існавання шмат зрабілі для беларускай справы.

Даныя арганізацыі маральна выхоўвалі сваіх членаў. Вельмі часта грошы, сабраныя на прыватныя ўрачыстасці, ахвяроўваліся на дзейнасць мясцовых гурткоў.

У апошнія гады ў сувязі з аслабленнем дзейнасці нашых арганізацый, беларуская вёска прышла да заняпаду, назат там, дзе раней развівалася праца нашых арганізацый, развіваецца алкагалізм, распуста і хуліганства.

## ІІІ. ПАТРАБАВАННІ

**Стан беларускай школьнай асветы на беларускіх землях ва ўмовах Польшчы, а таксама стан пазашкольнай асветы з'яўляецца сумным і не можа быць такім у далейшым.**

Зразумела, што частка беларусаў знаходзіцца ў межах Польшчы, і гэтае насельніцтва павінна мець свае школы, развіваць сваю культуру. Гэтага патрабуе беларускі народ, гэта пацвярджаецца законам натуры і разумнага і справядлівага права. Праблема беларускай школы павінна быць вырашана ўладамі справядліва і рацыянальна. Пазашкольная асвета таксама павінна развівацца ў нармальных умовах.

Польскія школы і культурна - асветныя арганізацыі не вырашылі і не змогуць вырашыць праблемы культурна - асветнага развіцця беларускай вёскі, таму што з'яўляюцца чужымі як з боку мовы, так і маралі.

Жыццё сцвярджае, што існаванне польскай школы і дзейнасць польскіх культурна - асветных арганізацый на беларускай вёсцы не ўплывае на павышэнне культурнага ўзроўню вёскі, а, наадварот, вядзе да анальфабэтызму, цемры, дэмаралізацыі.

Пачуваючыся да адказнасці за такі стан рэчаіснасці і імкнучыся да яго папраўы, нашыя арганізацыі маюць гонар прад'явіць наступныя патрабаванні — мінімум, выкананне якіх у значнай ступені зменіць сучасны стан беларускай вёскі на лепшы.

### а) У ГАЛІНЕ ШКОЛЬНАЙ АСВЕТЫ

1. Загадаць адміністрацыйным, муніцыпальным і школьным уладам, каб не рабілі перашкод беларускаму насельніцтву ў намаганнях адкрыцця беларускіх школ згодна з пастановай

з дня 31 ліпеня 1924 года. Загадаць войтам, каб подпісы на школьных заявах сцвярджалі бясплатна.

2. Адкрыць ужо ў гэтым навучальным годзе беларускія школы ў тых мясцовасцях, дзе яны былі адкрыты на аснове пастановы 31.VІІ.1924 года, а таксама ў тых мясцовасцях, дзе насельніцтва масава зложыла заявы ў мінулых гадах.
3. Адкрыць за сродкі дзяржавы беларускія школы там, дзе на аснове пастановы з 31.VІІ.1924 года зложаны запатрабаванні ў гэтым годзе.
4. Адкрыць на сродкі дзяржавы на беларускіх землях беларускія гімназіі, прапарцыянальна да колькасці беларускага насельніцтва.
5. Адкрыць беларускія гуманітарныя ліцэі, матэматычна-прырадазнаўчыя і педагагічныя, а таксама прафесіянальныя школы як ніжэйшыя, так і сярэднія. Апрача гэтага, арганізаваць настаўніцкія курсы ў Вільні.
6. Запоўніць беларускія школы настаўнікамі - беларусамі.
7. Знайсці фінансавыя сродкі на выдавецтва беларускіх падручнікаў для пачатковых школ.
8. Адкрыць пры Віленскім універсітэце кафедры беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі.
9. Выдзеліць адпаведную колькасць стыпендый беларускай моладзі, якая б магла вучыцца ў гімназіях, ліцэях і ўніверсітэце.
10. Аддаць беларусам гмах былой беларускай гімназіі ў Навагрудку, асновы якога палажыў сам пан Прэзідэнт Рэчы Паспалітай, а пабудавала беларускае насельніцтва пры дапамозе дзяржавы.

### б) У ГАЛІНЕ ПАЗАШКОЛЬНАЙ АСВЕТЫ

1. Даць сапраўдную магчымасць развіцця дзейнасці культурна-асветным арганізацыям паводле іх статутаў. Дазволіць арганізаваць новыя гурткі.
2. Дазволіць весці працу затрыманых у дзейнасці і закрытых гурткоў і аддзелаў нашых арганізацый.
3. Звярнуць маёмасць і будынкі ліквідаваных гурткоў і аддзелаў.
4. Прыйсці з фінансавай дапамогай культурна - асветным арганізацыям, у мэтах арганізавання выдавецкай дзейнасці. Фінансаваць даныя арганізацыі павінна Міністэрства адукацыі са сваіх фінансаў, а не агульная адміністрацыя, якая неадпаведна выкарыстоўвала грошы.
5. Адкрыць пры Віленскай і Брэсцкай кураторыях беларускія аддзелы школьнай асветы і асветы пазашкольнай. Кіраўні-



чае становішча павінна належаць беларусам, якія карыстаюцца поспехам сярод беларускага насельніцтва.

Верым, што толькі прыхільныя адносіны ўлад да нацыянальных культурна - асветных патрэб беларусаў, а не палітыка асіміляцыі зможа вырашыць на беларускіх землях адну з найбольшых праблем, якою з'яўляецца асвета і культура.

Галоўнае Праўленне
Беларускага інстытута
гаспадаркі і культуры
Старшыня — кс. В. Гадлеўскі
Сакратар — мгр Ян Шутовіч

Галоўнае Праўленне
Таварыства беларускай
школы ў Вільні
Старшыня — Ф. Стацкевіч — адвакат
Сакратар — Др Ф. Грышкевіч.

# ФАЛЬКЛОР АДНОЙ СЯМ'І

**Надзвычай малая колькасць старонак, адведзеных у гэтым календары пад фальклор, прымушае нас адступіць ад той формы друкавання народнай творчасці, якой мы карысталіся ў мінулых гадах. Вузкія рамкі не дазваляюць змясціць большай колькасці народных твораў, паходзячых з розных вёсак Беласточчыны. Таму мы вырашылі пазнаёміць чытача з песнямі, казкамі і прыказкамі, жывучымі і культывуючымі толькі ў адной сям'і. Думаю, што ў будучыні будзе магчымасць надрукаваць фальклорныя творы, сабраныя з розных вёсак, што з'явіцца канкрэтным укладам у агульнае вывучэнне фальклору беларускай зямлі.**

**Памешчаныя ў гэтым календары творы запісаны ў сям'і Андрэя Баршчэўскага, з вёскі Бандары, Беластоцкага павета. Запісаны яны ад Палагеі Баршчэўскай (73 гады), Любы Баршчэўскай (38 год) і Андрэя Баршчэўскага (75 год).**

**А. Барскі**

## Дзіцячыя песні

* ✲ *

Люлі, люлі, люлі,
Прылецелі куры.
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці —
Німа чаго даці.
Ячменю — хоць жменю,
Гароху — хоць троху,
Пшаніцы — паўгарніцы,
А дзіцяці — цыцы.
Люлі, люлі, люлі,
Прылецелі куры.

* ✲ *

А ты, коце сівы,
Не йдзі ў нашы слівы.
Нашы слівы ў садочку
Ні для цебе, каточку.

Ой ты, коце, коце,
Наш хлопец спаць хочэ.
Як ты, коце, пойдзеш вон,
То да хлопца прыдзе сон.

Ходзіт коцік па таку,
Кажэ: дзеці папеку;
Але Ваньку не буду —
На веселі пабуду.

Коце наш, каточку,
Прыдзі на ўсю ночку:
Будзеш ночку начаваці
І нам хлопца калыхаці.
Дамо табе папкі
У абедзві лапкі.

* ✲ *

Кую, кую ножку,
Паедзем у дарожку.
Дарожка крывенька,
Кабылка слепенька,
Зачапілàсе за пень,
Прастаялі цэлы дзень.

Кую, кую ножку,
Паедзем да броду,
Кінем гіцля ў воду.
Масток уваліўся,
Гіцель утапіўся.
Яго жонка уль! уль!
А сам гіцель пуль! пуль!

* ✲ *

— Ласачка, пасачка, дзе была?
— У бога была.
— Што рабіла?
— Маслечко біла.
— Чом не прынесла?
— Бо забылася.
— Каб ты падавілася!



## Жартоўная песня

Што за шум, што за крык учыніўсе —
То камарык на той мусі ажэніўсе.
Узяў сабе жонку невелічку,
Што ні ўмее шыці, прасці, чалавечку,
Што ні ўмее шыці, прасці, ні варыці,
І ні ўмее з камарыком добрэ жыці.
Палецеў той камарык у чыстэ поле,
У чыстэ поле, у зелёну дуброву.
Сеў той камарык на дубочку,
Звесіў свае ножанькі на лісточку.
Паднелася ўзела шура-бура,
Яна таго камарыка з дуба здула.
Упаў той камарык з высакосці —
Рукі - ногі паламаў, пабіў косці.
З'ехалісе і зышлісе генералы,
Яны таго камарыка не пазналі.
І не зналі, хто такі быў пакойнік,
Чы то пан генерал, чы палкоўнік.
То ні пан генерал, ні палкоўнік,
Старой мухі - трапетухі палюбоўнік.

**Любоўныя і сямейныя песні**

## ЗЕЛЁНЫ ДУБОЧОК...

— Зелёны дубочок,
Шырокі лісточок,
Ні бачыла мілого
Ужэ другі дзенёчок.
Адзін панідзелок,
А другі аўторок,
А мне здавалосе,
Што нідзелёк сорок.
— Па садочку хаджу,
Рутку мятку саджу —
Выйдзі, выйдзі, мая міла,
Табе я скажу,
Што людзі гаворат:
Што да цябе, маладая,
Кавалеры ходзят.
— Учатырох хадзілі —
Ніверна любілі.
Стаў пяты хадзіць —
Стаў верно любіць.
Ні хадзі да мене,
Ні любі ты мене, —
Як дазнае мая маці
Будзе біці мене.
— Пакіну хадзіць —
Не пакіну любіць:
Аж з табою маладою
Стану на ручнік.

# Пайду, пайду па-над лугом...

Пайду, пайду па-над лугом,
Там мой мілы гарэ плугом,
Гарэ, гарэ, паганяе,
На сонейка пагледае.
Панесу я ему есці,
Чы не скажэ мне прысесці.
Ён наеўся і напіўся
І на ролю паваліўся.

— Ты, мой мілы, гарэш, гарэш,
Чом за мною ні гаворыш?
— Я гару і ўсё думаю:
Што паскудну жонку маю,
Чаго ехаў цёмнай ночы,
Каб вылезлі на лоб очы,
Чом не ехаў у белы дзень,
Не пытаў добрых людзей?

# Жніўная песня

Ні шкадуй, пане,
Сіўца - жэрабца,
Едзь па гарэлку
Аж да Крыўца.
Плён несем, плён
Кожнаму пану ў двор.
Не шкадуй, пане,

Белаго сэра, —
Даст табе пан бог
Пекнаго сына.
Не шкадуў, пане,
Добраго мёду, —
Даст тваім дочкам
Пан бог уроду.

• • •

## Казкі

# Пеўнік

Жыў дзед і баба. Была ў бабы курачка, а ў дзеда пеўнік. Бабіна курачка еечка несе і несе. Баба еечэньку ест і ест, а дзедаві не дае. Прышоў дзед да бабы і кажэ:

— Дай, баба, хоць адно еечко на еечэньку.

— Ні дам, хай табе твой пеўнік знесе.

— Ну пажджы, кажэ дзед, — хай мой пеўнік пойдзе ў свет і прынесе грошэй, тады табе ніц ні дам.

— Ні на якую службу твой певень ні пойдзе!

Пашоў дзед да пеўніка і кажэ яму:

— Калісь у нас пан начаваў, жаронка ўкраў, а ты ідзі зыскуваць.

Забраўся пеўнік і пашоў. Ідзе, ідзе ён чэрэз лес, ено чуе штось ламочэ. Гледзіт, а то медзведзь валіцца да дарогі і пытаецца:

— Пеўніку, пеўніку, куды ты ідзеш?



— Пан у нас начаваў, жаронка ўкраў, а я іду зыскуваць.

Медзведзь просіт: — Вазьмі мене з сабою.

— Улазь у дзюбку, — кажэ пеўнік, — то пойдзем.

Улез медзведзь у дзюбку пеўнікаві, і пашлі ены далей. Ідут, ідут... Бежыт воўк.

— Пеўніку, пеўніку, куды ідзеш?

— Пан у нас начаваў, жаронка ўкраў, я іду зыскуваць.

Вазьмі мене з сабою, — просіт воўк.

— Улазь у дзюбку, то пойдзем разам.

Улез воўк у дзюбку, і ены пашлі далей.

Ідут, ідут, але бачат: бежыт ліса.

— Пеўніку, пеўніку, куды ідзеш?

— Пан начаваў, жаронка ўкраў, я іду зыскуваць.

— Вазьмі мене з сабою, — просіт ліса.

— Улазь у дзюбку, — кажэ пеўнік. Улезла ліса, і пашлі ены далей.

Ідут, ідут, бачат: а тут зайчык прэ.

— Пеўніку, пеўніку, куды ты ідзеш?

— Пан начаваў, жаронка ўкраў, я іду зыскуваць.

— Вазьмі і мене з сабою.

— Улазь у дзюбку, — кажэ пеўнік, — то пойдзем.

Улез зайчык, і пашлі ены разам.

Ідут, ідут, ідут, ідут, бачат, а тут велікі палац стаіт, а над акном калок убіты. Пеўнік залецеў на калочок і як не заспевае:

— Ку-ку-ры-ку! Пан начаваў, жаронка ўкраў, я прышоў зыскуваць!

Пан паглядзеў і кажэ:

— Каб цебе д'яблі взелі з гэтым кагутом! Укіньце яго да кароў, хай яго забоцуць!

Укінулі пеўніка да кароў, а ён кажэ:

— Вылазь воўк з дзюбкі! — вылез воўк, перадушыў усе каровы, вылецеў пеўнік над акно і зноў спявае.

— Ку-ку-ры-ку! Пан начаваў, жаронка ўкраў, я прышоў зыскуваць!

— Каб цебе д'яблі взелі з гэтым кагутом! — кажэ пан, — і прыказаў укінуць пеўніка да гусей, каб задзяўблі яго.

Укінулі пеўніка, а ён кажэ:

— Вылазь ліса з дзюбкі! Вылезла ліса, як завінулася, то з гусей ено пер'е палецело. Вылецеў пеўнік над акно і зноў крычыт панаві:

— Ку-ку-ры-ку! Пан начаваў, жаронка ўкраў, я прышоў зыскуваць!

— Каб цебе д'яблі взелі з гэтым кагутом! — кажэ пан. Кіньце яго ў студню, хай утопіцца! Кінулі парабкі пеўніка ў калодзізь, а ён кажэ:

— Выбірай, дзюбка, воду! Выбірай дзюбка, воду! Выбірай, дзюбка, воду! Дзюбка воду выбрала. Пеўнік вылецеў наверх і зноў спевае:

— Ку-ку-ры-ку! Пан начаваў, жаронка ўкраў, я прышоў зыскуваць!

— Каб цебе д'яблі з гэтым кагутом! — кажэ пан. Укіньце яго ў печ, хай згарыт!

Напалілі моцно печ і кінулі туды пеўніка, а пеўнік кажэ:

— Вылівай, дзюбка, воду! Вылівай, дзюбка, воду! Вылівай дзюбка, воду!

Дзюбка воду выліла, агонь пагас, а пеўнік залецеў на калочок і як закрычыт:

— Ку-ку-ры-ку! Пан начаваў, жаронка ўкраў, я прышоў зыскуваць.

— Каб цебе д'яблі з гэтым пеўнікам! — кажэ пан. Укіньце яго ў бочку і засыпце грашыма, хай яго задушат!

Схапілі парабкі пеўніка, укінулі ў бочку і засыпалі золатам. Пеўнік кажэ:

— Выбірай, дзюбка, грошы! Выбірай, дзюбка, грошы! Выбірай, дзюбка, грошы! Выбрала дзюбка ўсе грошы, пеўнік вылецеў з бочкі, забраўся і пашоў да хаты. Да дзеда прышоў і кажэ:

— Дзеду, выкаці ступу і ставеньку, насыплю грошай паўненьку! Выкаціў дзед ставеньку, а пеўнік кажэ:

— Высыпай, дзюбка, грошы! Высыпай, дзюбка, грошы! Высыпай, дзюбка, грошы!

Дзюбка ўсе грошы высыпала. Дзед ставеньку пакаціў у камору і пеўнік яму памагаў. Прышла баба: гледзела, гледзела і пачала прасіць:

— Дай, дзедку, хоць адну залатовачку на каптурык.

Дзед кажэ:

— А ты мне дала еечко на еечню? Ты мне ні дала ні аднаго еечка, то і я табе ні дам ні аднае залатовачкі на каптурык. Накупіў дзед з пеўнікам усяго і жывут прыпеваючы.

# МАША

Пашлі дзяўчатка да рэчкі купацца. Купаліс̓е, купаліс̓е. Павыходзілі з рэчкі, усе сарочкі панакладалі, а на Машыну сарочку вуж залез, сідзіт і кажэ чалавечым голасам:

— Як выдзеш за мене замуж, то аддам сарочку, а як не, то не аддам. Маша кажэ:



— Пайду за цебе, але мушу пайсці мамі сказаць.

Вуж аддаў ёй сарочку, яна адзелася і пабегла дахаты. Сказала мацеры, а тая кажэ:

— І не думай навет за вужа выходзіць!

— Маша ні паслухала і вышла замуж. Паплылі яны з вужом рэчкаю, жылі, жылі і ўрадзіўся ў іх сынок. Падумала Маша, падумала і пашла з сынком у госці да мацеры. Маці ее прынела і пытае:

— А як ты клічаш сваго вужа? Маша ўзела і адказала:

— Выду над рэчку і крычу: Ёзік, Ёзік, выдзь, вазьмі мене!

Тады маці ўзела сакеру і пашла над рэчачку і як ні закрычыт:

— Ёзік, Ёзік, выдзь, вазьмі мене! Вуж выплыў, а тады маці ўзела адцела яму галоўку сакеркаю. Прышла да хаты і палажыла сакерку пад лаўку. Маша забачыла і пытае:

— Чом цэла сакерка ў крыві?

— Бо я пеўніка рубала, — кажэ ёй маці.

Маша ўзела хлопчыка на рукі і пашла да рэчачкі. Стала на беражку і стала клікаць : Ёзік, Ёзік, выдзь, вазьмі мене! Ёзік, Ёзік выдзь вазьмі мене! Клікала, клікала і не магла дакліканца. Ено кроў шнюрэчком пацекла па вадзе. Тады Маша дагадалася, што маці зарубала яе вужа. Узела Маша хлопчыка на рукі і пашла па беражку. Абнела яго за шыйку, пацалавала ў адну шчочку, у другую і кажэ:

— Ты леці салавейчыком шчэбетаць, а я палечу зязюлькаю каваць. Абое знеліс̓я і палецелі. І да сегодня ён шчабеча салавейчыком, а яна куе зязюлькаю па свеце.

# Крылатыя словы

**Хто старанна працуе, той мір мацуе.**
**Хто грамадскай працы не паважае, той і пашаны ў людзей не мае.**
**На шчасце не трэба спадзявацца, за яго трэба змагацца.**
**Хваляць — заткні вуха, крытыкуюць — слухай.**
**Чалавек не вучоны, як тапор нетачоны.**
**Дрэнныя тыя рукі, што не ведаюць ніякай навукі.**
**Хвалько любіць хваліцца, а ў працы не гадзіцца.**
**Гультаю хлеб на кію.**
**Гультай, як вош, на чужой спіне жыць харош.**
**Гультай, нават калі сядзіць, мучыцца.**
**Хто летам працуе — голаду не пачуе.**
**Дурны пляце — разумны думае.**
**Асуджай чалавека паводле яго паводзін, а не слоў.**
**Вужака раз у год мяняе скуру, здраднік штодзень.**
**Вайна людзей з'ядае і крывёю залівае.**
**Высцерагайся каровы спераду, каня ззаду, а дурня з усіх бакоў.**

**Брахлівага сабаку здалёк пачуеш.**
**Мацярынская любоў ніколі не старэе.**
**Больш людзей утапілася ў кілішку, чымсьці ў моры.**
**Хоць уласны нос брыдкі, ды яго не адрэжаш.**
**Крумкач прадстаўляе, што яго малыя беленькія, а вожык — мякенькія**
**Свеціць ясней дым у айчыне, чымсьці неон на чужыне.**
**Сто камароў кабылу адужае.**
**Вялікі воз аб малы пень выварочваецца.**
**Вярблюда не напоіш лыжкай.**
**Арол мух не ловіць.**
**Сляпы кот не зловіць мышы.**
**Каровы нага не заб'е цяляці.**
**Не ўсё, што круглае, з'яўляецца яблыкам.**
**Сэрца не абрус, перад кожным не разложыш.**
**І без пеўня ўзыдзе сонца.**
**Дзе дым, там і агонь.**
**Найбольшае мора складаецца з кропель.**
**Упартасць іголкай выкапае студню.**
**Нават найглыбейшая вада мае дно.**
**Кульгавая блыха таксама грызе.**
**Нават на Венеры не даюць нічога дарма.**
**Мары ката і мышы не аднолькавыя.**
**Шчаслівец нават на пустыні купіць шынку.**
**Датыкаючыся балота, нельга не пабрудзіцца.**
**Грошы — гэта заяц.**
**Няма на свеце цыбулі, якая пахне яблыкам.**

## Алесь БАРСКІ

# БАЛАДА АБ БІЗУНЕ

Сцяна ў памешчыцкім пакоі
Глядзіць традыцыяй стагоддзяў.
Хтось клапатліваю рукою
Праславіў панскае адроддзе.
Глядзіць Хрыстос, узняўшы рукі —
Ён шчасце нёс сюды ў парогі,
Гадзіннік мерным ціхім стукам
Адводзіць думкі ад трывогі.
Партрэты — шэраг продкаў слаўных,
Двустволка, шабля, рогі лося
І габелін з узорам даўным,
Карціна, на карціне — восень.
Далей сляды ліхіх завеяў,
Паходаў слаўных і суровых,
Вісяць ваенныя трафеі
Дзесь з-пад Смаленска, Мінска, Пскова.
І герб вялікі — славы сімвал,
Традыцый векавых адзнака,
І скрыпка, што спявала гімны,
Або вучыла дамы плакаць.
І над усім над гэтым збродам,
У месцы зручным, ганаровым
Вісеў, на розныя нягоды,
Бізун раменны, адмысловы:
Казіна ножка ў чорнай скуры
І бічык — бізуна істота
Напіўся, чортава натура,
Сялянскіх слёз, крыві і поту.
Змяёю поўз па белым свеце,
Глядзеў ён з-за халявы панскай,
Ішоў праз цэлыя стагоддзі,
Ішоў ён па хрыбтах сялянскіх.
Перадаваўся бацькам сыну,
Перадаваўся пану панам,
Стаўся падпораю краіны —
Святой рэліквіяй, талісманам.
З яго прадажным, гнуткім целам
Сумленне панскае зраслося.
Ім шчасце доўга зіхацела
Эх, давялося! Эх, жылося!

* * *

Змянілася нарэшце штосьці,
Настала новых спраў багата.
Зышоў на свет жаданым госцем,
Зышоў на свет год сорак пяты.
І першы раз выпраставаны,
Зламаўшы звычаі і нормы,
Прышоў мужык, прышоў да пана,
Прышоў з зямельнаю рэформай.
Пан ашалеў, рукою пэўнай
Сарваў з сцяны бізун — старэчы
І паласнуў маланкай гнеўнай
Апошні раз халопу плечы.
І зноў павіс над селянінам,
Як параграф часоў прыгону,

Але не змог паўторна рынуць
На галаву змяёй шалёнай.
Бо рук дзесятак спрацаваных
Зваліў тут пана на падлогу —
Хлябнулі ўрэшце плечы пана
Смак горкі бізуна - батога.
Бізун гуляў па панскім целе,
Пасля прабег па тварах продкаў —
Яго ўдары звонка пелі
Фінал ідыліі салодкай.
І кінуты сялянскім гневам,
На пана лёг як знак няволі.
Упаў з апошнім свістам - спевам,
Каб не ўзняцца больш ніколі.
І словы моцныя, як вецер,
Зляцелі з вуснаў селяніна:
«Хто ходзіць з бізуном па свеце,
Ад бізуна павінен згінуць».



**Члены Літаратурнага аб'яднання.**
Фота — **Г. Рагазінскі**



# Яша БУРШ

* ✲ *

Бура засланіла свет
клубіцца над намі
хавайцеся пялёсткі руж
пад мае вейкі
вуснамі засланю
свежасць
арамат
колер
хавайцеся ад буры
пад скляпенне грудзей
дзе сэрца
размотвае літасць
над безабаронным
хараством

* ✲ *

Сёння ноччу
замяніўся я ў летуцень
у вясёлку
што крышталікі росаў малюе
бліскавіцаю
пралятцеў
над абшарамі
казачных яў
дзе бясконца сны рунеюць
і зрабіўся зялёны
як сон —
што надзею заўсёды прарочыць
паслухай
у зелені скупаныя вочы
інакш бачаць свет
замяніў бы
кожны паасобны свой дзень
на зялёны
зялёны жыццёвы сакрэт

* ✲ *

Ці гэта
жыццядайная зямля
павярнулася да нас
сагрэтым бокам
ці чалавека
чараўніца-мара
пад акно прывабіла
кудрава-зялёны май
ізумрудную рунь абшараў
праменні радасці
і цяплыні
якія з вышыні
і ў вышыню вітаюць
а я жыву
у сярэдзіне мая
бярэмем
праменні зжынаю
нясу іх у свой год
і ва ўсе дні
праменняў наўстаўляю

**Іван Чыквін**

## Не прыйшоў...

Дзяўчына адна стаяла,
Сонца рукой засланіўшы.
Гэта м сама даскаланасць
Пад неба цёплае выйшла.

Каму такое спатканне
Удзячны лёс назначыў?
Каханне, наша каханне,
Жыццця хвіліна жабрача.

З-за клёнаў вырас мужчына,
Глянуў на постаць дзявочу...

Адна стаяла дзяўчына,
Рукой засланіўшы вочы.

Захад страляў цэлай гамай,
Гусцелі кусты ў даліне,
Слаўся туман пад нагамі —
Ён не прыйшоў да дзяўчыны.

Значыць, жыццё перапела,
Значыць, прайшло міма шчасця,
Значыць, жылі мы няўмела —
Чым жа далей будзем шастаць?

Іван ЧЫКВІН

# ЖЫЦЦЁ ПАЧЫНАЕЦЦА НАНАВА

Зіма, гэтае белае і халоднае да болі цела, за акном сёння ляжала спакойна. Толькі мароз, як прыганяты, сматаў па твары людзей, залазіў за скуру. У такую пару найлепш сядзіцца ў хаце, пры цёплай печы. А ўзяўшы работу ў рукі, дык і зусім час ляціць хутка. Што ж, зімовыя дні кароткія.

Дарка, даўшы дабытку палуднаваць, зноў села за калаўротак. Яе пальцы спрытна пралі кудзелю, і доўгая, бясконцая нітка бегла з яе рук. Вочы Даркі, прывыкшыя да кудзелі, былі спакойныя, час-ад-часу паглядалі на шпульку, ці не трэба пераладжыць ніткі на другі зубок.

Каля хаты доўгім абозам ехалі з лесу людзі, везучы дровы. Людзі прыставалі каля калодзежа, заходзілі ў хату за вядром, каб напаіць коней. Гэтак было не адзін дзень. Ад таго часу, як выгладзілася санная, кожны дзень, пад захад сонца, а нават і познім вечарам, чужыя людзі заходзілі ў хату.

За акном на галінах бэзу чырыкалі вераб'і.

А ў хаце была бяда. Гэтая бяда не давала маці заснуць начамі. Дарка, бывала, сядзе ноччу каля акна, калі ўсе ў хаце спяць, і задумаецца, заглядзеўшыся ў цемень ночы. Вось ужо некалькі дзён, як Паўлік ляжаў хворы. Што яму — маці і дадумацца не можа. Ды каб толькі адна хвароба сына. Яна, напэўна, пяройдзе...

Дарка прыадкрыла дзверы. Убачыўшы яе, Паўлік папрасіў:

— Мама, пасядзі каля мяне.

— Добра, сынку, добра... — хутка загаварыла маці. Яна дакранулася рукою да шчакі Паўліка. Жара крыху спала. Дарка паправіла кажушок, якім быў прыкрыты хворы. І ёй стала чагосьці шкада і на кагосьці крыўдна; можа на тое вузкае акно, праз якое так мала бачыць яе сын. Унутраны боль распіраў яе. Дарка прысела ў нагах сына і зноў пачала прасці. Нітка бегла з яе пальцаў доўгая, тонкая, як яе думкі...

Была ў Даркі адкрытая рана, якая не толькі не загойвалася, а наадварот, чым больш праходзіла часу, тым яна ўсё шырэй раскрывалася. Гэта быў мацярынскі боль па Насці і Марысі, якіх два гады таму назад забралі немцы і вывезлі ў Нямеччыну.

Не дадумацца мацярынскаму сэрцу: жывыя яны, ці можа на чужой зямлі даўно наложылі на сябе рукі. Выплакала Дарка слёзы, у грудзях баліць. Але недзе ў самай глыбіні душы тліцца надзея, вера ў тое, што яны, яе дзве старэйшыя дачкі, вернуцца, і яна, маці, убачыць іх жывымі.

Сонца хілілася на захад. Чырвоныя плямы паволі лезлі па сцяне. У хату зайшла сяброўка Даркі, Аўдоцця. Яны разам былі ў бежанцах, і гэта іх вельмі злучыла. Як толькі яны сустракаліся, перш за ўсё пачыналі ўспамінаць дні, калі стаялі босыя на высокім беразе Волгі і глядзелі, як з веснавой крыгай плылі мерцвякі. А калі Волга ўзбунтуецца, разравецца — хвалі, вышынёй з хату, ляцяць, змываюць усё на беразе, падымаецца вецер і калыша свет, аж енчаць бедныя, пахілыя хаціны.

І цяпер у іх тыя ж думкі.

Успамінаюць гады, калі ліхаманка трасла бежанцаў, калі і Дарка ў сіняй гарачцы папала ў барак, адкуль штодзень выносілі па чатыры-пяць нябожчыкаў. Дарка вытрымала ліхаманку, прайшла ўсе няшчасці, якія налятали на яе і сям'ю з усіх бакоў. Але здароў'е яе слабела. Гэта не была ўжо тая дзяўчына са стэпу з доўгай касою. Твар Даркі састарыўся, па ілбе прабягалі глыбокія маршчыны. Ды і не толькі гэта. Робіць яна нешта і чуе, як рукі цяжка пражытыя, рабілі сваё. Вось такое было яе жыццё. Усё, адмаўляюць ёй, млеюць. Пальцы пагрубелі, пачалі балець. Гады, як на далоні. Некалькі дзён пасля таго, як яны вярнуліся з бежанцаў, не стала ў Даркі бацькі. Потым смерць маці, замужаства і нялюдскае жыццё ў вялікай сямейнай хаце...

На двары пачынаў цярушыць сняжок.

Неўзабаве з лесу прыехалі бацька з сынам. Дарка бачыла праз акно, колькі яны прывезлі дроў, як выкідалі іх з санак, змучаныя і галодныя; бачыла, як гаспадар тупаў па панадворку, чула, калі Грыша, яе сын, увайшоў у хату...

Ноч лягла на белую зямлю. Аўдоцця грэлася пры печы.

Тым часам незнаёмыя людзі, чужы конь і воз, заязджалі на панадворак. Мужчына памог высесці жанчыне з возу.

— А мая ты родная, — галасіла Дарка, выбягаючы распранутая з хаты. — Вярнулася... вярнулася маё дзіця, Марысенька!..

Аўдоцця, прывітаўшыся з незвычайным госцем, нічога нікому не кажучы і каб не быць сведкам чужога шчасця, пайшла дамоў.

Цяпер, калі адно птушанё вярнулася ў роднае гняздо, маці авеяла веснавая радасць. Дарка сядзела на прыпечку і з радасці плакала ціха.

З'явілася надзея на тое, што і Насця жывая. Толькі калі, калі яна загляне ў акно роднай хаты? Ці можа ўжо вядзе яе шчаслівая зорка на бацькоўскія парогі?

Можа...

* * *

Паабапал гасцінца шумела залатое жыта. Лёгкі ветрык выгінаўся хваляй на нівах, ён шамацеў каленцамі жыта, шаптаў штосьці знаёмае, ласкавае. Неба было празрыстае, і вочы сінелі ад яго колеру.

Па сцежцы, з боку гасцінца, ішла басанож Марыся. На яе плячы, высока аскаліўшы рад зубоў, ляжалі граблі. Марыся не спяшалася. Ідучы, яна думала аб скошаных лугах, аб пахучых копнах

сена і вечарах, калі даўганогі бусел раз-пораз клякоча на клуні, склікаючы дзяцей на вячэру; аб каханні, якое можа наляцець, як вясна, затапіць цеплынёю дзявочае сэрца...

Марыся прыпамінае дні дзяцінства, дні перад вайной. Як добра, што ўсё ліхое прайшло. Вось яна зноў ідзе ў поле і цешыцца, што будзе новая сукенка, што сёння вечарам можна будзе таксама пачуць бусліны клёкат...

Зямля дыхала цяплом. Сям-там на яе магутным целе віднеліся раны. Па баках шашы, якая перасякала ўпоперак гасцінец, сядзелі бомбавыя гнёзды. Яны ўваходзілі на поле шырокім кругам, дзе цяпер была пустэча.

Ззаду нехта пад'язджаў. Жарабец, пырскаючы, бег роўна, а воз падскокваў у выбоінах і гойдаўся ўбакі. На драбіне сядзеў Мікола. Параўняўшыся з Марысяй, ён прыпыніў каня.

— У поле выбралася? — запытаў ён.

— А што, з граблямі на вечарынкі ходзяць?

— Сядай на воз, падвязу!

— Куды там, што людзі сказалі б!

Мікола ехаў памалу, а Марыся ішла побач.

— Ай пагода, пагода! — ускрыкнуў Мікола. — Проста любата!.. А вашы ўсё ўжо выжалі?

— Сёння, калі будзе пагода, управімся.

Дарога сходзіла ў даліну. Сяло схавалася за гарой, вакол іх шумела адно спелае жыта. Мікола саскочыў з воза, перакінуў лейцы на бок і пайшоў побач Марысі.

Маўчалі...

— А ў вас хутка ўправяцца з жытам? — запытала Марыся.

— У нас дык бадай што і ўсё. Зараз еду па жыта... першы раз у гэтым годзе.

— А потым не агледзішся, калі і бульбу пара капаць.

— Яшчэ трэба крыху пачакаць, а то і больш, чым крыху, — весела адказаў Мікола.

З-за павароту паказаўся воз, на якім сядзелі дзве жанчыны. Адна з іх раз-пораз кругом аглядалася. Відавочна, падарожніца не ведала аколіц, або даўно іх не бачыла і таму так уважліва прыглядалася.

— Хіба трэба з'ехаць з дарогі панначкам, — зажартаваў Мікола і пацягнуў лейцы.

* ✲ *

Струмені сонца ліліся на ўраджай. На вачах спелі яблыкі, ігрушы, на вачах расцвітаў дыван кветак на лузе; жыццё цяпер адчувалася на кожным кроку. Усё крычала: жыць, жыць...

Зжатае Даркай і яе мужам, Сцяпанам, жыта вязалася ў снапы, стаўлялася ў мэндлі. Суседзі з правага і левага боку, таксама жалі заўзята. Некаторыя з іх ужо абедалі, чуліся спевы і гучныя размовы.



— Мама, глядзі, што я знайшоў на мяжы, — Паўлік трымаў у руках бліскучую люльку.

— Кінь! — закрычала Дарка. — Зараз жа кінь!

Не ўспеў Паўлік падумаць, за што маці крычыць на яго, як падбег Сцяпан, спрытна вырваў з рук сына «цацку» і, разглядаючыся, шпурнуў яе ў кусты. Як бы нехта цяжкі камень на камень кінуў. Пасыпалася лісце...

— Я табе гаварыла, кінь... Божа, божа мой, якое яшчэ шчасце! А то, без дай прычыны, астаўся б без вачэй, ці забіла б... — словы Даркі вырываліся раптоўна.

— Каб знаў, што не трэба браць! — падтрымаў яе Сцяпан.

— Лепш, чым шныраць па межах, пайшоў бы выглянуць на дарогу, ці не ідзе Марыся.

Чырвоная кашулька Паўліка нейкі час паказвалася і зноў гінула за мэндлямі, а потым і зусім схавалася за нязжатым жытам.

Жаваранак падымаўся высока, высока. Жнеі часта падымалі рукі ўгору, закрываючыся ад сонца, шукалі ў сіняве неба гэту цудоўную птушку.

І раптам у песню жаваранка ўварваўся крык Паўліка:

— Т-а-а-а-та, ма-а-а-ма!

Дарка і Сцяпан пераглянуліся спалоханыя. Ці не знайшоў Паўлік часам зноў «цацку»? Столькі ж гэтай «смерці» валялася пасля вайны. Але Паўлік бег з пустымі рукамі.

— Мама, тата... хутчэй!.. Насця прыехала.

Дарка, пацалаваўшы Паўліка ў галаву,пабегла на дарогу. Сцяпан, уздыхнуўшы, пачаў піць ваду.

— Значыць, вярнулася, — думаў ён. — Ну і добра!

Сцяпан пайшоў насустрач дачцэ. Ён адразу пазнаў Насцю сярод другіх дзяўчат, якія ўжо паспелі далучыцца да гэтага паходу. Там жа ішлі шчаслівыя Дарка і Марыся.

— Добра, што малога не забіла, — падумаў чамусьці Сцяпан, успамінаючы здарэнне з Паўлікам.

* ✲ *

З поля вярталіся, калі сонца ўцякала за лясны масіў. Вечар іграў ціха на камарыных дудках. У хаце было цёпла, і, калі Дарка падала вячэраць, першы Сцяпан вышаў з міскаю на панадворак. За ім пайшлі дзеці.

Летняя ноч гусцела, у маладым сад закраўся салавей, на сяле нечыя здольныя пальцы выбіралі знаёмыя словы песні. Цяпер, калі цэлаю сям'ёю перажывалі радасць, успаміны аб вайне адплывалі хутка ўбок, штораз далей, далей...

Жыццё пачыналася нанава. Ізноў, як некалі, усе былі шчаслівымі.

Малады месяц, але стары зайздроснік, выплываў з-за кустоў і бесцырымонна заглядаў у твар Насці і Марысі.

## Андрэй БАРАВЫ

# ДА ПАРЫ ЗБАН ВАДУ НОСІЦЬ

**(Гумарэска)**

Дзядзька Андрэй быў вядомым на ўсю аколіцу камедыянтам. Бадай што не было ў навакольных вёсках чалавека, якога б Андрэй не апукаў або не падвёў. Умеў купіць, умеў прадаць, умеў жартаваць, як ніхто іншы на свеце. Не пашкадаваў нават сваёй старэйшай сястры. Сказаў ёй аднойчы, што ў Беластоку ў пункце макулатуры купляюць конскія косці — па 5 злотых кілаграм.

Тамашыха паехала на конскія могілкі, напоўніла воз касцьмі і з радасцю ў сэрцы накіравалася ў Беласток. Едучы 50 кіламетраў, мела дастаткова часу, каб скласці розныя планы адносна пакупак.

Касцей аднак ніхто купіць не хацеў. Цётка раззлавалася: — Купляй, бо як не, дык пайду да начальніка, або напішу ў «Ніву»! Чыноўнікі смяяліся, але касцей не куплялі, вытлумачылі старой, што яе нехта падвёў.

Усё стала ясным. Раз'юшаная Тамашыха выкінула косці на вуліцу і паехала дамоў. Не ад'ехала аднак і кіламетра, як дагнаў яе міліцыянер і выпісаў мандат на сто злотых. Не памаглі слёзы, прыйшлося заплаціць ды пазбіраць косці.

Не варта апісваць таго, што рабілася ў вёсцы пасля прыезду Тамашыхі з Беластока. Тое, што адбылося, было горшым, чым атамная вайна.

Дзядзька Андрэй на тры дні ўцёк у суседнюю вёску, а Тамашыха тры дні і тры ночы стаяла каля яго хаты з грамадняю конскаю косткай, крычучы, што разаб'е старому дурню цэбар. Цэлая вёска так рагатала, што паўцякалі з яе ўсе птушкі. Некалькі чалавек са смеху захварэла. А сама Тамашыха ад чакання і злосці абамлела і трэба было выклікаць хуткую медыцынскую дапамогу.

Андрэй вярнуўся ў вёску пераможцам і зараз жа, у хаце старога Базыля, пачаў разводзіць сваю філасофію. Сказаў некалькі такіх мудрасцей, якіх не пастыдаўся б славуты Гегель. Напрыклад: «Не падскаквай, бо і так упадзеш на зямлю». «Хто многа працуе — той мала есць». «Саланіна — гэта найпрыгажэйшая кветка на свеце». «Свіння — не чалавек, а чалавек — свіння». Гутаркам і жартам не было канца.

Урэшце малады хлапец Янка звярнуўся да дзядзькі Андрэя з прапановай: — Давайце заложымся на 100 злотых, што, калі вы ўлезеце пад стол, дык я не стукну зверху рукой да трох разоў, як вы ўжо адтуль вылезеце.

Андрэй на хвіліну задумаўся і адказаў: — Вымай сто злотых! Лезу. Толькі пры ўмове, што не маеш права нічога рабіць, а толькі стукнуць тры разы.

Усе з зацікаўленнем глядзелі на Янку і Адрэя, чакаючы развязкі. Напружанасць дайшла да кульмінацыі, калі мужчыны вынялі па 100 злотых і аддалі іх у рукі гаспадара хаты — Базыля. Усе былі пераканаты, што Янка прайграў, бо чаго вылазіць Андрэю з-пад стала перад трэцім ударам, калі ён можа сядзець многа даўжэй.

— Ды ты выйграў, — сказаў Базыль Андрэю. — Бяры грошы. — Не, братка, мусіць быць парадак. Пакуль што трымай, вазьму за хвіліну, як вылезу.

Андрэй стаў на кукішкі, улез пад стол і ўсеўся скрыжаваўшы гразныя ногі ў гумовых галошах. Стол быў нізкі і Андрэй прыгнуў галаву так, што барада расплылася па ўсёй шырыні грудзей. У гэты момант нагадваў ён святых з ікон славутага іконапісца — Рублёва.

— Стукай! — крыкнуў Андрэй. Янка падышоў да стала, лёгка стукнуў кулаком па дошцы і, адышоўшы, сеў на лаву каля печы.

— Яшчэ два разы, — нецярпліва прыпомніў з-пад стала Андрэй. Але Янка выняў з кішэні папяросу і спакойна закурыў. Усе са здзіўленнем глядзелі ў яго бок.

— Стукай яшчэ два разы, халера ты малакасосная, — закрычэў Андрэй.

— Я маю час, — адказаў Янка, — не хвалюйцеся, яшчэ стукну.

— Калі ты стукнеш?!

— А хаця б і заўтра, паглядзім, хто даўжэй вытрымае.

Раптоўна ўсе зразумелі сэнс закладу. Сяляне грымнулі такім смехам, што з хаты ўзляцеў бусел і пашыбаваў у напрамку лугоў.

Андрэй выскачыў з-пад стала і кінуўся з кулакамі на Янку, але той спакойна адапхнуў яго на сярэдзіну хаты. Андрэй апрытомнеў і кінуўся ў бок Базыля.

— Давай мае 100 злотых.

— Не, браток, грошы належаць не табе, а Янку. Ты не дасядзеў да трох удараў, — сказаў той спакойна і перадаў 100 злотых хлопцу. Андрэй паглядзеў на сялян, спадзяючыся знайсці з іх боку падтрымку. Але тыя, трымаючыся за жываты, лопалі са смеху. Як пакрыўджанае дзіця, кінуўся ён з хаты і, губляючы галошы, пабег з крыкам:

— Абрабавалі! Разбойнікі! Ратуйце, людкове!

Янка, пачакаўшы некалькі хвілін, звярнуўся да сялян:

— Ідзем, браткі, ў краму. 100 злотых — гэта ж дзве літроўкі манапалькі. Усе мужчыны на чале з Янкам і Базылём са смехам вываліліся з хаты і пайшлі ў бок вясковай крамы.

## Сакрат ЯНОВІЧ

# ТОЛІК

Марыся прыбірала пакой, калі пачула з кухні голас суседкі:

— Вы, Толік прыехаў у водпуск. Казаў, што на восень яго ўжо звольняць.

На панадворку замычала Красуля. Маці з лязгатам перасунула фаеркі.

— Марыся, пільнуй пліты. Я іду даіць карову.

Марысі чамусьці здалося, што з вуліцы бачыць яе Толік, хоць ні разу не глянула ў акно... глянуць у акно? Асцярожна прыхарошвала рагі падушак, раўняла бераг ложка. На стол паслала ўзорыстую сурвэту, падліла вазоны з кветкамі, пачала прапіраць падлогу...

Бывала, раніцою і адвячоркам Толік прыходзіў да студні па ваду. Зімою цэмбравіны абмярзалі лёдам. Тады прыносіў сякеру і зрубваў яго вялікімі крыгамі. Расціраў адзервянелыя пальцы і ўсміхаўся. Часамі вёз з лесу дровы. Насупраць Марысінай хаты заўсёды то папраўляў на кані хамут, то нацягваў ланцугі пад санямі, укладваў галлё. Скідаў з рук рукавіцы, ды пазіраў на панадворак, дзе татка шчапаў дровы. Звычайна частаваліся папяросамі, гаварылі аб нечым, і Толік ад'язджаў. Пад палазамі рыпеў снег...

За вячэрай тата гаварыў:

— Удаўся Толік у бацьку, яшчэ маладзік, а відаць, што вырасце з яго гаспадар.

— Зямлю маюць урадлівую, не тое што наш пясок, — буркліва тлумачыла маці.

Дзесяцігадоваму Віці ўдавалася ў такіх выпадках схапіць найбольшую скварку, Маці, быццам нічога не заўважыўшы, гаварыла:

— Еш, Маня, еш. Бульба астыне зусім.

Было гэта перад яго адыходам у войска. Марыся ішла лугавой дарожкайграбсці сена. Нячутна затрымаўся на ровары побач яе.

— Падвязу цябе, Марыся, — сказаў. Абапёршыся аб рамку, да якой было прывязана касьё, зняў прапацеўшы берэт і пачаў выгладжваць яго дрыжачымі пальцамі. Ад сенакосу вецер данасіў пах сухой травы і далёкія перакрыкі касцоў. Чырвоньскае сонца парыла карк. Марыся сціснула ў руцэ граблі і — пабегла па пракосах і калючай пожні балотнай трасціны. Спатыкнулася аб купіну. Паглядзела ў другі бок. Толік усё стаяў самотна на дарожцы згорблены. Тата хутка адвярнуўся і пачаў спяшаючыся касіць, маці павярнула галаву ў бок, быццам нічога не бачыла, толькі брат Віця бясхітрасна прыглядаўся, залажыўшы ў кішэні рукі. Чаму не хацела з ім гаварыць? Марыся не ведала.

...Закіпеў чайнік. Марыся кінула мокрую шмату і выбегла на кухню. Пасля снедання працадзіла малако ў банку і панесла ў злеўню. Вуліцай падыходзіў Толік. Хутчэй адчула, што гэта ён, чым пазнала яго ў вайсковым мундзіры. Ураўнаважаны позірк і ўзмужнеўшыя мускулы на твары збянтэжылі Марысю. Цёмныя вочы глядзелі неяк строга.

— Пойдзем, Марыся, на забаву, — прамовіў ні то пытаючы, ні то просячы.

— Добра — адказала яна.

* * *

Сонца гасла над межамі вялізным зарывам, кідаючы ружовы адбітак у старым люстры. Марыся выбрала квяцістую спадніцу, якая пры белай блузцы прыдавала стройнасці і надзяляла свежасцю.

— Налажы белыя пацеркі — пачула за сабою цёплы голас маці.

Хлынуў незразумелы страх, але толькі на хвіліну. Спакойна папраўіла прычоску і ўпершыню смела зазірнула ў матчыны вочы — ужо не тыя, гнеўныя, забараняючыя хадзіць на вечарынкі.

Развіднела, калі Толік праводзіў Марысю з забавы дахаты. У цяню раскладзістага клёну, які звалі «антонавым», прыхіліўся так, што адчувала на шыі яго гарачае дыханне. — Хутка прыду з войска, — прашаптаў, — Манечка...

Праз тыдзень прышоў да Марысі ад яго ліст. Пісаў, што з нецярплівасцю лічыць тыдні і дні да канца сваёй службы. Заўсёды ўсплывае яму ў памяці забава, на якой так весела гулялі. «Напішы, як ты пажываеш? Ці здаровы мама, тата і брат? Перадай ім ад мяне паклон».

Старанна каліграфуючы літары, Марыся адпісала на гэты ліст. Нечакана прыкмеціла, што з-за заслон у дзвярах маці наглядае, як яна чытае і перачытвае пісьмо, пісьмо прывезенае паштальёнам. Значыць, уся вёска ўжо гаворыць аб ім.

Адказ на Марысін ліст прышоў хутка. Толік апісваў горад, дзе ён знаходзіўся. Захапляўся прыгожымі, высокімі дамамі і магазінамі, поўнымі тавараў. Як цікава жывуць «мястовыя» людзі, а як адзяваюцца?! У канцы пісьма прачытала: «Прышлі сваю фатакартачку. Часта думаю аб нашым спатканні». А ўнізе дапісаў: «А ведаеш, я падшукаў сабе ўжо добрую пасаду ў механічным варштаце. Можна зарабіць 3 000 злотых. Толькі каб хутчэй апынуцца за брамамі казарм...»

У халодным ранішнім блакіце весяліўся жаўруковы спеў. Яўхім, Толікаў бацька, касіў канюшыну. Мокрая ад поту кашуля прыліпала да сухіх плячэй.

Толік, яго адзіны сын, у далёкім горадзе.

## Віктар ШВЕД

# ДАРОС ПРЫ ЧАРЦЫ

Марцінава сямейка ўся:
Ён, сын Кастусь, ды жонка Варка, —
Да свайго кума Міхася
Паехалі кульнуць па чарцы.

Багаты стол: каўбасы, гусь,
З гарэлкаю бутэлек гушча;
Тут сярод п'яніц і Кастусь
Ніяк не мог быць непітушчым.

— Пі, сыну мой, — сказаў Марцін, —
Няма чаго табе стыдацца.
Ты ўжо ў мяне дарослы сын,
Табе год стукнула дванаццаць.

— Будзь паслухмяны, мой сынок, —
Мама таксама просіць косцю, —
Выпі гарэлкі хоць глыток,
У кума будзь сапраўдным госцем.

— Трымайся, Косця, будзь здароў! —
Гарланіць кум, які ўжо ўпіўся. —
Вып'еш, нальем табе ізноў.
Выпіў Кастусь — ды з ног зваліўся.

У воз Марцін сынка занёс
І пільнаваць загад даў Варцы.
Кастусь і сапраўды дарос
Да горкай п'яніцы пры чарцы.

*

# ЛЯВОН — СЯМІЖОН

І сярод нас бывае часам
Лявон, што мае многа жон.
Ён на жанчыны надта ласы,
Бярэ наіўных у палон.



Нічога дзіўнага, прыгожы
І элегантны ён хлапец.
Таму дзяўчына хутка можа
Згадзіцца нават на вянец.

Залётна падморгне вачыма,
Маны ўсялякай скажа шмат,
Што на пасадзе ён, з грашыма,
І тым спакушвае дзяўчат.

Як бачыць ён, што неўзабаве
Дзіця папросіцца на свет,
Спецыяліст у гэтай справе,
Каб знікнуць і зацерці след.

А мама дзетаньку калыша
І рукі ломіць, дзе Лявон?
Чаму ліста хоць не напіша,
Ці калі-небудзь прыдзе ён?

Тым часам, будучы ў разгары,
Наш непакорны донжуан
Шукае новае ахвяры,
Якая пойдзе на абман.

Ён з кветкі лётае на кветку,
Быццам нявінны матылёк.
Ужо сёмая калыша дзетку...
Чакае татачкі сынок...

Тата не траціць ні хвіліны,
Да восьмай ціхенька пабег.
І аматаў ізноў дзяўчыну,
Астаючыся на начлег.

Калі сустрэнеце, дзяўчаты,
Ў жыцці такога Лявана,
Дубінай выганяйце з хаты,
Не муж ён вам, а сатана!

*

## Андрэй БАРАВЫ

# Шчасце — маці няшчасця

**(Гумарэска)**

Усе, каму прыходзілася сустрэцца калі - небудзь з сям'ёй Сцяпана Міранюка, згодна сцвярджалі: «Вось дык сям'я! Усе там на месцы. Ён кахае жонку, а жонка кахае мужа.»

І сапраўды, гледзячы на гэтую пару, здавалася, што сам бог прыняў над ёю шэфства і што ніякая жыццёвая бура не зможа занесці сюды трывогу ці закінуць зерне нязгоды. Бывала, выйдзе Сцяпан з жонкаю пад ручку, ідзе па тратуары, а суседкі глядзяць з-за фіранак, ды ўздыхаюць:

— Вось добра жывуць!

— Ім дык вязе — і згода, і лад, і каханне, усяго гэтага хоць адбаўляй.

Толькі мясцовы агент пошты, вядомы скептык і цынік, на адным з прыёмаў местачковай інтэлігенцыі, гаворачы аб Міранюках, па-філасофску заўважыў:

— Усё на свеце змяняецца ў сваю супрацьлегласць: маладосць — у старасць, шчасце — ў няшчасце, няшчасце — ў шчасце. Тады самі судзіце, хто больш шчаслівы: той, хто жыве з жонкай мірна, але пачне біцца, ці той хто б'ецца з ёю, але, згодна з правам натуры, у канцы перастане?

— Тады перастане, калі заб'е жонку, — кінуў хтосьці з другога канца стала. Усе грымнулі смехам.

Аднак словы, кінутыя паштальёнам змянілі атмасферу. Усе насцярожыліся, сталі прыслухоўвацца, прыглядацца, ці шчасце Міранюкоў праўдзівае, непадробленае.

Неўзабаве яны сталі сведкамі здарэння, якое поўнасцю пацвердзіла слушнасць поглядаў паштальёна аб слабасці структуры чалавечага шчасця.

Развал сямейнай ідыліі Міранюкоў наступіў надзвычай проста і хутка. Размова гэтай раніцай была кароткай і лаканічнай. Міранюк, адыходзячы да працы, пацалаваў жонку і, гледзячы, як заўсёды, у глыбіню яе сініх вачэй сказаў:

— Сёння мяне з абедам не чакай, прыду каля дзесятай вечара, у мяне вельмі важны сход.

Жонка зрабіла пакрыўджаную міну, а сама падумала:

— Не прыходзь, ты мне і так ужо надаеў. Пасля выхаду мужа яна пачала думаць, як весела правесці вечар.



Міранюк, адсядзеўшы ва ўстанове да $16^{00}$ гадзіны, закрыў шуфляды і шафу, зачасаў валасы, засмяяўся два разы ў люстэрка і выйшаў на вуліцу.

Было амаль зусім цёмна, асенні змрок ахутваў мястэчка. Глянуўшы на гадзіннік і пераканаўшыся, што да сустрэчы з сябрам у мясцовай «гасподзе» заставалася яшчэ дзве гадзіны, Міранюк вырашыў пайсці ў кіно. Калі ён прыйшоў у кіно, фільм ужо пачаўся але білеты яшчэ прадаваліся.

— Сядайце дзе пападзе, — параіла касірка, — і так больш паловы пустых месц.

У зале было так цёмна, што ледзь можна было разглядзець невыразныя сілуэты людзей.

— Тут толькі дурань можа сядаць «дзе пападзе», — падумаў Міранюк і стаў прыглядацца да жаночых постацей. З апошняга раду тырчэла ўверх нейкая высокая шапка, туды якраз і скіраваў Міранюк свае крокі. Падышоў ціхенька, сеў і глянуў на суседку, цэлы твар якой амаль закрывалі модна спушчаныя валасы.

— Вось дык прычоска, — мільганула ў яго галаве, — не тое, што ў жонкі. Зачэшацца, як поп, без ніякага густу і ходзіць манашкай па белым свеце.

Пачуцці Міранюка разгараліся з хвіліны на хвіліну. Складаў ён планы аб збліжэнні з суседкай, але не ведаў, як пачаць. Выхад знайшоўся нечакана. Суседка абаперлася рукой на крэсле, і Міранюк адчуў цудоўную цеплыню яе цела.

— Як добра, што чалавек — гэта арол, а не курыца, — падумалася без ніякай сувязі Міранюку. І ён яшчэ шчыльней прытуліўся да рукі незнаёмай. — Ці ж можна яе параўнаць з жонкай? Тая ж зусім халодная, усё ў яе штучнае, а тут — натуральная прыгажосць, хараство, раскош.

Фільм паказваў вялікія канфлікты, а тут у двух апошніх крэслах развівалася вялікая ідылія без барацьбы і антаганізму, у згодзе і радасці. Вочы шчаслівай пары заплюшчыліся. Рукі іх то спляталіся, то блудзілі па целе. Душы іх спявалі шчаслівы гімн кахання і шчасця.

Калі ўсё на свеце мае свой пачатак, дык зразумела, што павінна мець і свой канец. Фільм скончыўся, і святло шырокай ракой хлынула ў залу. Міранюк з суседкай апрытомнелі, але толькі на хвіліну, бо тое, што наступіла, амаль давяло іх да паўторнай утраты прытомнасці. Міранюк з жахам сцвердзіў, што побач яго сядзела ўласная жонка, якая з такім жа перапалохам сцвердзіла прысутнасць свайго мужа. На момант ім адняло мову.

— Дык ты такая!? — зароў праз хвіліну Міранюк.

— Дык ты такі!? — закрычала ў сваю чаргу жонка.

У канцы залы стаяў паштальён і спакойна канстатаваў:

— Зло — гэта матка дабра, а дабро — гэта бацька зла.

# ГУМАР

## МУЖ НА МОГІЛКАХ

Пасля смерці жонкі чалавек пайшоў на могілкі.

— І чаму ж ты так нечакана пакінула мяне? — нахіліўшыся над магілаю, — галосіць ён.

У той час крот, які забраўся ў магілу, пачаў варушыць зямлю. Заўважыўшы гэта, чалавек спалохана кажа:

— Але ж не, што ты робіш, я ж толькі пажартаваў! Не трэба ўсяго ўспрымаць сур'ёзна.

## ЧЫЯ СПРАВА

Дачка паведамляе бацьку, што выходзіць замуж.

— А хто ж ён, дачуся? Ты ж яго знаеш усяго дзесяць дзён. Ці ты яго хаця любіш?

— Гэта ўжо мая справа, тата.

— А ён цябе любіць?

— Гэта ўжо яго справа, тата.

— А з чаго ж вы будзеце жыць? Вы ж абое не працуеце?

— Гэта ўжо ваша справа, тата.

## У ТРАМВАІ

У трамваі цесна. Нейкі мужчына штурхнуў другога. Той адвярнуўся, ды кажа:

— Чаго вы так пхаецеся «на хама»?

— А хто яго там ведае, на каго ў такой цеснаце натрапіш.

## СУЧАСНЫЯ ДЗЕЦІ

— Ну, што ты скажаш, Васька, калі будзеш мець брацікa? — кажа мама.

— А не раіў я табе, мама, не прадаваць так хутка каляскі? — адказвае Васька.

## СІВЫЯ

Юнак пытае ў мудраца:

— Якія дзяўчаты найбольш верныя, бландзінкі ці чарнявыя?

— Сівыя, — адказвае мудрэц.

## У СТАРЫМ ЗАМКУ

У стары, пануры замак прыязджае госць. Адвядзены лакеем у пакой, пытае:

— Ці ў гэтым пакоі здарылася калі - небудзь нешта незвычайнае?

— А, так, дзесяць год таму назад.

— Што гэта было?

— Адзін госць, які тут начаваў, устаў раніцай жывы.

## ДЫПЛАМАТЫЧНЫ АДКАЗ

Дзяўчынка на пытанне бацькі, ці хоча ісці пехатою, ці ехаць трамваем, адказвае:

— Магу ісці пехатою, калі ты мяне будзеш несці.

## АБ'ЯВА

У газеце паявілася аб'ява: «Адступаю прыгожы пакой у доміку, распалажаным сярод дрэў, кветак і выдатных скульптурных помнікаў». Аўтарам аб'явы быў старож могілак.

## ПАМЯЦЬ

Юнак звяртаецца да старэнькага дзядулі:

— Дзядуля, ці ты яшчэ памятаеш дзяўчыну, якую ўпершыню пацалаваў?

— Мой дарагі, — адказвае дзядуля, — я ўжо не памятаю апошняй.

## ДАЧАКАЛІСЯ

Раней чалавек жыў, пакуль не памёр, а цяпер — пакуль яго не пераедуць.

## П'Е ЗА ЯЕ ЗДАРОЎЕ

— Яго жонка такая хворая, а ён сядзіць цэлы вечар у рэстаране.

— Ён кажа, што п'е за яе здароўе.

## АХ, ВЫ ПІСЬМЕННІК

Доктар звяртаецца да свайго пацыента:

— Вы павінны пазбягаць працы, якая звязана з галавою.

— Гэта немагчыма, пане доктар, гэта мая прафесія.

— Ах, вы пісьменнік!

— Не, я цырульнік.

## ШТО РАБІЎ

Суддзя звяртаецца да абвінавачанага:

— Ці абвінавачаны быў ужо караны?

— Так, дваццаць год таму назад.

— А пасля таго?

— Ані разу.

— Што абвінавачаны рабіў у тэты час?

— Сядзеў у турме.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА

Вучань звяртаецца да сябры:

— Не магу ісці ў кіно. Трэба дапамагчы бацьку вырашыць маю хатнюю задачу.

## ПАЦАЛУНАК

Набліжаецца канец кінафільма. Герой туліць да сябе дзяўчыну. Яны злучаюцца ў гарачым пацалунку.

— Чаму ж ты не можаш кахаць так, як ён? — шэпча жанчына на вуха мужу.

— Мілая мая, — адказвае муж, — А ці ты ведаеш, колькі яму за гэта плацяць?

## КАТОРЫ

— Дачушка, хто ён, гэты малады чалавек, з якім ты ўчора вечарам цалавалася?

— А ў колькі гадзін гэта было?

## ПРАЦАВІТЫ БУСЕЛ

— Сынок, бусел прынёс табе брацікa, — кажа мама. — Глянь, які ён маленькі.

— Не, — адказвае сын, — я хачу ўбачыць гэтага бусла.

# Каляндар цяжарнасці хатняй жывёлы

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кабыла | ходзіць | жарэбнай | $48^1/_2$ | тыдняў: сярэдня | 340 дзён |
| Карова | ,, | цельнай | $40^1/_2$ | ,, ,, | 285 ,, |
| Свіння | ,, | пароснай | 17 | ,, ,, | 120 ,, |
| Авечкі, козы | | котнымі | 22 | ,, ,, | 154 ,, |

| Цяжарнасць пачалася | Карова целіцца | Кабыла жарэбіцца | Свіння паросіцца | Авечкі, козы коцяцца |
|---|---|---|---|---|
| 1—I. | 12—X. | 6—XII. | 30—IV. | 3—VI. |
| 5 ,, | 16 ,, | 10 ,, | 4—V. | 7 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 15 ,, | 9 ,, | 12 ,, |
| 15 ,, | 26 ,, | 20 ,, | 14 ,, | 17 ,, |
| 20 ,, | 31 ,, | 25 ,, | 19 ,, | 22 ,, |
| 25 ,, | 5 XI. | 30 ,, | 24 ,, | 27 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4 I. | 29 ,, | 2—VII. |
| 1—II. | 12 ,, | 6 ,, | 31 ,, | 4 ,, |
| 5 ,, | 16 ,, | 10 ,, | 4—VI. | 8 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 15 ,, | 9 ,, | 13 ,, |
| 15 ,, | 27 ,, | 20 ,, | 14 ,, | 18 ,, |
| 20 ,, | 1—XII. | 25 ,, | 19 ,, | 23 ,, |
| 25 ,, | 6 ,, | 30 ,, | 24 ,, | 28 ,, |
| 1—III. | 10 ,, | 3—II. | 28 ,, | 1—VIII. |
| 5 ,, | 14 ,, | 7 ,, | 2—VII. | 5 ,, |
| 10 ,, | 19 ,, | 12 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 24 ,, | 17 ,, | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 29 ,, | 22 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 3—I. | 27 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 8 ,, | 4—III. | 27 ,, | 30 ,, |
| 1—IV. | 10 ,, | 6 ,, | 29 ,, | 1—IX. |
| 5 ,, | 14 ,, | 10 ,, | 2—VIII. | 5 ,, |
| 10 ,, | 19 ,, | 15 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 24 ,, | 20 ,, | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 29 ,, | 25 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 3—II. | 30 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 8 ,, | 4—IV. | 27 ,, | 30 ,, |
| 1 V. | 9 ,, | 5 ,, | 28 ,, | 1—X. |
| 5 ,, | 13 ,, | 9 ,, | 1—IX. | 5 ,, |
| 10 ,, | 18 ,, | 14 ,, | 6 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 24 ,, | 19 ,, | 11 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 29 ,, | 24 ,, | 16 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 5 - II. | 29 ,, | 21 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—V. | 25 ,, | 30 ,, |
| 1—VI. | 12 ,, | 6 ,, | 29 ,, | 1—XI. |
| 5 ,, | 16 ,, | 10 ,, | 2—X. | 5 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 15 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 26 ,, | 20 ,, | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 31 ,, | 25 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 5—IV. | 30 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—VI. | 27 ,, | 30 ,, |



| Цяжарнасць пачалася | Карова целіцца | Кабыла жарэбіцца | Свіння паросіцца | Авечкі, козы коцяцца |
|---|---|---|---|---|
| 1—VII. | 11—IV. | 5—VI. | 28—X. | 1—XII. |
| 5 ,, | 15 ,, | 9 ,, | 1—XI. | 5 ,, |
| 10 ,, | 20 ,, | 14 ,, | 6 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 25 ,, | 19 ,, | 11 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 30 ,, | 24 ,, | 16 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 5—V. | 29 ,, | 21 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—VII. | 26 ,, | 30 ,, |
| 1—VIII. | 12 ,, | 6 ,, | 28 ,, | 1 I. |
| 5 ,, | 16 ,, | 10 ,, | 2—XII. | 5 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 15 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 26 ,, | 20 ,, | 15 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 31 ,, | 25 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 5—VI. | 30 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—VIII. | 27 ,, | 30 ,, |
| 1—IX. | 12 ,, | 6 ,, | 29 ,, | 1—II. |
| 5 ,, | 16 ,, | 10 ,, | 2—I. | 5 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 15 ,, | 7 ,, | 10 ,, |
| 15 ,, | 26 ,, | 20 ,, | 12 ,, | 15 ,, |
| 20 ,, | 1—VII. | 25 ,, | 17 ,, | 20 ,, |
| 25 ,, | 6 ,, | 30 ,, | 22 ,, | 25 ,, |
| 30 ,, | 11 ,, | 4—IX. | 27 ,, | 2—III. |
| 1 -X. | 12 ,, | 5 ,, | 28 ,, | 3 ,, |
| 5 ,, | 16 ,, | 9 ,, | 1—II. | 7 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 14 ,, | 6 ,, | 12 ,, |
| 15 ,, | 26 ,, | 19 ,, | 11 ,, | 17 ,, |
| 20 ,, | 31 ,, | 24 ,, | 16 ,, | 22 ,, |
| 25 ,, | 5—VIII. | 29 ,, | 21 ,, | 27 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—X. | 26 ,, | 1—IV. |
| 1—XI. | 12 ,, | 6 ,, | 28 ,, | 3 ,, |
| 5 ,, | 16 ,, | 10 ,, | 4—III. | 7 ,, |
| 10 ,, | 21 ,, | 15 ,, | 9 ,, | 12 ,, |
| 15 ,, | 26 ,, | 20 ,, | 14 ,, | 17 ,, |
| 20 ,, | 31 ,, | 25 ,, | 19 ,, | 22 ,, |
| 25 ,, | 5—IX. | 30 ,, | 24 ,, | 27 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—XI. | 29 ,, | 2—V. |
| 1—XII. | 11 ,, | 5 ,, | 30 ,, | 3 ,, |
| 5 ,, | 15 ,, | 9 ,, | 3—IV. | 7 ,, |
| 10 ,, | 20 ,, | 14 ,, | 8 ,, | 12 ,, |
| 15 ,, | 25 ,, | 19 ,, | 13 ,, | 17 ,, |
| 20 ,, | 30 ,, | 24 ,, | 18 ,, | 22 ,, |
| 25 ,, | 5—X. | 29 ,, | 23 ,, | 27 ,, |
| 30 ,, | 10 ,, | 4—I. | 28 ,, | 30 ,, |

## Для памяці



## ЗМЕСТ